ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

25 ліпеня 1997 г. № 30/3906 Кошт 3 000 руб.





Вобразы беларускага замежжа

## *Бацькаўшчына не забываецца...*



Дырэктар беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель, якому нядаўна споўнілася 70 год, даследуе і аналізуе лёсы многіх дзеячаў палітычнай эміграцыі, значных асоб культуры, рэлігіі, вядомых майстроў мастацтва. Вяртае незаслужана забытыя і страчаныя Бацькаўшчынай імёны. Даследчыцкая праца прывяла яго ў Чыкага ў дом, дзе ёсць "жывая энцыклапедыя": тут жывуць дочкі вядомага дзеяча Эдварда Будзькі, нашаніўца, паплечніка Янкі Купалы, сябра Язэпа Драздовіча, Браніслава Тарашкевіча, братоў Луцкевічаў...

У Чыкага жыве і Нікадым Жызнеўскі. Гэта ён — першы прэзідэнт камітэта Беларуска-амерыканскай моладзі ў штаце Ілінойс. Ён жа — нязменны кіраўнік службы радыё "Нёман" у Чыкага, ён жа — вынаходца многіх друкарскіх тэхналогій у ЗША. На верхнім здымку ўсе яны разам: Вітаўт Кіпель і яго жонка Зора, спадар Жызнеўскі, сёстры Людвіка Бяленіс і Ірэна Пануцэвіч.



Яскравы прыклад працы на ніве беларушчыны ў штаце Агаё — вядомы і паважаны ў вышэйшых палітычных колах Амерыкі Янка Раковіч (на ніжнім здымку). Ніякія адлегласці ў часе і прасторы не здольны зменшыць і нашай да яго павагі. Да яго і да шматлікіх сыноў і дачок, імёны якіх абавязкова вернуцца на зямлю бацькоў і дзядоў.

**Анатоль КЛЯШЧУК**
*Фота аўтара*

## КОЛА ДЗЁН

***Заўтра пачынае працу Другі з'езд беларусаў свету. Падзея найважнейшая для любой дзяржавы, што пачынае незалежнае жыццё. Дыяспара можа і падказаць, і дапамагчы. Прыклад — Ізраіль, Ірландыя, Арменія, Летува... Па колькасці — беларуская дыяспара адна з самых магутных сярод краін былога СССР, па якасці — таксама не на апошнім месцы. Аднак дагэтуль яе моц, веды і грошы так і не запатрабаваны беларускай дзяржавай. Больш таго, з боку кіраўніцтва няма нават намераў зрабіць гэта, а большасць сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны па-ранейшаму залічваецца ў "нацыяналісты", "калабаранты"... Хоць са зменай назвы дзяржавы, дакладней, са з'яўленнем дзяржавы Беларусь, акцэнты павінны былі б быць памяняны. Між іншым, многія вядомыя беларусы замежжа не прыехалі на свой другі з'езд якраз з-за таго, што ўдзел у ім палічылі б за супрацоўніцтва з кіраўніцтвам Беларусі, г. зн., у іх разуменні, калабаранцтва. Памыляюцца і адны, і другія: Беларусь у нас адна. Але памыляюцца найперш, вядома ж, улады, калі яны лічаць, што незалежная Беларусь павінна быць незалежнай... ад беларускасці. Гэта не парадокс, гэта больш небяспечная рэч, гэта —ява. А з такой явай ніколі не пагодзяцца беларусы-эмігранты, якія захавалі сваю беларускасць у Аўстраліі, Амерыцы, Канадзе, Расіі... Таму і непатрэбныя яны сёння афіцыйнай Беларусі, таму і сустракаюць іх улады не як дарагіх, чаканых гасцей, а... — ніяк не сустракаюць. Але ж улады — гэта яшчэ не ўся Беларусь, і, галоўнае, усялякія ўлады — часовыя, а Беларусь — вечная. І таму ў любыя часы трэба працаваць на яе будучыню, што і зробіць, думаецца, з'езд.***

### ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Чарговая заява кіраўніцтва расійскага газавага канцэрна "Газпрам" пра намер напалову скараціць пастаўкі прыроднага газу на Беларусь выклікала ва ўладных структурах нашай краіны невялікі пярэпалах. Такія заявы заўсёды бываюць несвоечасовымі, хоць ад пачатку зразумела, што носяць яны выключна папераджальны характар. У чарговы раз беларусы мусілі апраўдвацца перад расійскай недзяржаўнай манаполіяй і абяцаць у хуткім часе "пакрыць запазычанасць". Заўважым, што з кожным разам словы "дружба", "славянскае адзінства" ды інш. гучаць пры гэтым усё радзей. Дарэчы, і "Газпрам" не бачыць ніякай розніцы між дружалюбнай Беларуссю і "натаўскай" Украінай. Што зробіш — рынак: хто плаціць грошы, той і сябар.

### ЛІКВІДАЦЫЯ ТЫДНЯ

Рынак на Беларусі паціху наступае на перажыткі сацыялізму. Пачынаючы з ліпеня ў нашай краіне будзе выконвацца ўказ прэзідэнта аб пазбаўленні льготаў у аплаце камунальных паслуг некаторых катэгорый грамадзян, што іх мелі: непрацуючых ветэранаў працы і Узброеных Сіл, рэабілітаваных ахвяр палітычных рэпрэсій, ліквідатараў-чарнобыльцаў. Раней плацілі яны палову кошту паслуг, цяпер давядзецца плаціць цалкам. Такім чынам у мінжылкамунгасе хацелі б "згладзіць" мяркуемы рост кватрплаты.

### АДСТАЎКА ТЫДНЯ

19 ліпеня, проста з нарады, прысвечанай працы мытнага камітэта Беларусі, прэзідэнт краіны адправіў у адстаўку старшыню камітэта П. Крэчку. Адстаўка была настолькі нечаканай, што многімі названа імправізаванай. Тым больш, што сярод афіцыйных прычын адстаўкі называюцца традыцыйныя: кепская праца з кадрамі, слабая выканаўчая і службовая дысцыпліна супрацоўнікаў мытні, адсутнасць дакладнага плана развіцця мытных органаў і г. д. Як бачым, — "парадку няма". Хоць лічбы за першую палову гэтага года сведчаць пра надзвычай эфектыўную працу беларускіх мытнікаў. Дык чым жа быў незадаволены прэзідэнт? Магчыма, адказ на гэтае пытанне мы атрымаем, калі даведаемся пра новае прызначэнне.

### ЧУТКІ ТЫДНЯ

Як вядома, дэпутаты Нацыянальнага сходу Беларусі зараз знаходзяцца на летне-асенніх вакацыях. Але, па чутках, іх канікулы могуць быць датэрмінова перапынены. У адпаведнасці з Канстытуцыяй прыняць рашэнне аб скліканні сесіі можа толькі прэзідэнт. Таму пакуль невядома, калі яна адбудзецца. Прычынай жа спынення адпачынку дэпутатаў можа стаць неабходнасць тэрмінова прыняць паправак да двух законаў: "Аб праве ўласнасці на зямлю" і "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Якія будуць папраўкі і чаму іх трэба прымаць гэтак тэрмінова — можна толькі здагадвацца.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Дзяржаўная служба занятасці зарэгістравала на 1 ліпеня г.г. 157,4 тысячы беспрацоўных, альбо 2,82 працэнта ад працаздольнага насельніцтва Беларусі. Наколькі гэтыя лічбы адпавядаюць сапраўднасці, меркаваць цяжка. Адно дзіўна, што пасля некаторых указаў прэзідэнта знаходзяцца яшчэ людзі, якія адважваюцца запісвацца ў беспрацоўныя.

### НАМЕР ТЫДНЯ

Апазіцыя будзе адзначаць дзень 27 ліпеня як святочны — Дзень незалежнасці. З гэтай нагоды Мінгарвыканкам дазволіў БНФ і "Народнай Грамадзе" правесці шэсце і мітынг. Маніфестанты збяруцца ў 14 гадзін на плошчы Якуба Коласа і рушаць да плошча Парыжскай камуны (ля опернага тэатра), дзе і адбудзецца мітынг. Скончыцца святкаванне рок-канцэртам.

### НАВІНКА ТЫДНЯ

Міністэрства культуры, Дзяржкамітэт па справах моладзі і Мінгарвыканкам прынялі рашэнне праводзіць па выхадных днях на Кастрычніцкім пляцы Мінска бясплатныя дыскатэкі для моладзі. Рашэнне настолькі нечаканае, нестандартнае, новае, што пакідаем яго без каментарыяў. Прыгадваецца, праўда, показка — чалавек пытаецца ў суседа: што рабіць — кандыдат у прэзідэнты абяцае, калі прагаласую за яго, даць сто долараў, а мне падабаецца іншы прэтэндэнт, але і грошай хочацца... А ты грошы бяры, а галасуй як хочаш, — падказвае сусед. Так, пэўна, і зробіць "прайграная" моладзь: на бясплатныя танцы яна сходзіць, а вось прагаласуе, калі трэба будзе, па-свойму...

### ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

"Спадар Казулін, як Вы можаце быць рэктарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта, калі не шануеце нацыянальную мову, калі размаўляеце на мове чужой краіны?" — спытаў рэктара Белдзяржуніверсітэта чытач "Народнай волі" А. Паўловіч. Пэўна, чытач ад рэктара адказу не дачакаецца. Хоць адказаць сп. Казуліну ёсць як: па-першае, гэта (маецца на ўвазе, вядома ж, руская) не проста мова чужой краіны, а названая народам другой дзяржаўна-раўнапраўнай, а па-другое... Па-другое, абыдземся без паралеляў па вертыкалі.

З НАГОДЫ

# Будзьма разам, беларусы!

## 26-га і 27-га ЛІПЕНЯ Ў МІНСКУ ПРАВОДЗІЦЦА ДРУГІ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Паважнасць і гучнасць назвы гэтага мерапрыемства, аднак, не азначаюць, што ўдзельнікі з'езда, іхнія меркаванні і прамовы, пастановы і адозвы стануцца суцэльным і выразным, увасобленым уяўленнем пра ўсіх беларусаў як нацыю. Няма аніякага сумневу ў адным: збяруцца сапраўдныя руплівцы і абаронцы нацыянальнай беларускай справы.

Ладзіць згаданае мерапрыемства Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". З'езд — вышэйшы кіруючы орган гэтай грамадскай арганізацыі — паводле яе статута праводзіцца раз на чатыры гады (папярэдні адбыўся ў ліпені 1993-га). У першую чаргу "Бацькаўшчына" мусіць вырашаць арганізацыйныя пытанні. Так, напрыклад, неабходна правесці выбары новай рады, бо паўнамоцтвы цяперашняй практычна вычарпаныя. Праграму з'езда складуць гэтаксама пасяджэнні, справаздача кіраўніцтва Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", шэраг культурных акцый. Стрыжнявым выступленнем на з'ездзе мае стаць даклад акадэміка Радзіма Гарэцкага па праблемах захавання беларускай прысутнасці ў свеце.

Каб прыняць удзел у з'ездзе, на Беларусь прыехалі прадстаўнікі нашых нацыянальных суполак за мяжой — з Аўстраліі, Нямеччыны, ЗША, Расіі, Польшчы ды іншых краін. Частку дэлегатаў складаюць вылучэнцы ад прадстаўніцтваў Згуртавання беларусаў свету ў нашай краіне. Увогуле запрашаюцца ўсе зацікаўленыя асобы. Мяркуецца, што на з'ездзе будзе прыблізна 500—600 дэлегатаў. Дарэчы, чатыры гады таму ўдзельнікаў з'езда было больш. Ад дыяспары са Злучаных Штатаў Амерыкі цяпер наведае Беларусь вельмі невялічкая колькасць прадстаўнікоў. Гэткім чынам выказваецца іхняя заклапочанасць сітуацыяй у нашай краіне.

З'езд ладзіцца праз самафінансаванне. Гэта значыць, што дэлегатам прыйдзецца самім вышукваць сродкі на сваё знаходжанне ў Беларусі. Шкада, што дзяржава, выдаткаваўшая гэтулькі грошай на нядаўнія пампезныя святы, не паставілася належным чынам да такой падзеі, як Другі з'езд беларусаў свету. Ды чаму б дзяржаўным чыноўнікам самім не ўзяць у ім удзел? Такая пазіцыя ўладаў яшчэ больш, мабыць, узмацніць крытыку і нараканні ў іх бок дэлегатаў з'езда. Аднак можна смела сцвярджаць, што будзе каму і ўхваліць кіраўніцтва нашай краіны. Прысутнасць на з'ездзе некаторых суполак з колішніх рэспублік Савецкага Саюза забяспечыць дыскусійнасць. І гэта няблага, бо пананаванне аднаго пункта гледжання — рэч небяспечная.

Асобна трэба распавесці пра тое, як здабывала Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" памяшканне для правядзення з'езда. Справа доўжылася ледзь не месяц. Улады адразу прапанаваў будынак на вуліцы Матусевіча, дзе нядаўна праводзіў свой з'езд Беларускі народны фронт. Аднак прадстаўнікі "Бацькаўшчыны" з гэтым катэгарычна не пагадзіліся, маўляў, беларусаў у рэзервацыю не загоніш. Мне давялося трохі часу назіраць, якімі намаганнямі арганізатарам з'езда ўдалося арандаваць Тэатр музычнай камедыі, дзе з'езд павінен адбыцца.

Дзейнасць дэлегатаў Другога з'езда беларусаў свету можа сягнуць па-за межы запланаваных мерапрыемстваў. Так, на другі дзень работы з'езда апазіцыйныя партыі АГП, БНФ, БСДГ ладзяць святочнае шэсце, прымеркаванае да 27-га ліпеня, дня, калі Беларусь была абвешчана незалежнай дзяржавай. Арганізатары гэтай акцыі спадзяюцца, што да іх далучацца і ўдзельнікі Другога з'езда беларусаў свету. Такім чынам, надарыцца магчымасць выказацца не толькі перад паўтысячнай аўдыторыяй, а звярнуцца да грамады. Праз гэта Другі з'езд беларусаў свету набыў бы дадатковую значнасць, нібыта пашырыўся б у некалькі разоў колькасна.

Магчыма, дэлегаты з'езда вырашаць застацца па-за палітыкай. Але хутчэй за ўсё гэтак не станецца. Тым больш, што і сам тэрмін правядзення Другога з'езда беларусаў свету, прымеркаваны да згаданай даты, з якой звязана наша мара пра сапраўды незалежную Айчыну.

**Кірыла ПАЗНЯК**

ПАМЯЦЬ

# Палескі Асвенцім





"Азарычы, боль, гнеў, памяць" — пад такім дэвізам праходзіў мітынг былых вязняў канцлагера. На месцы размяшчэння лагера, дзе пахаваны астанкі больш за 9000 замучаных фашысцкімі катамі савецкіх грамадзян, прысутныя ўшанавалі іх памяць хвілінай маўчання. Горкія былі ўспаміны пра тыя страшныя дні 1944 года. Многім з тых, хто прыехаў сюды, у той час было толькі па 4—10 гадоў, і застацца ў жывых пасля "пекла Азарычаў" можна лічыць цудам.

Удзельнікі мітынгу прынялі зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, да дзяржаўных і камерцыйных структур, да ўсіх людзей добрай волі з адной просьбай — увекавечыць памяць тысяч ахвяр фашызму, памагчы арганізаваць экспедыцыю па пошуку месц масавага пахавання вязняў гэтага лагера на тэрыторыі Калінкавіцкага, Светлагорскага і Рэчыцкага раёнаў, стварыць музей у Азарычах.

*На здымку: былыя вязні канцлагера "Азарычы" сустрэліся праз 53 гады.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

# Пры дапамозе Польшчы

Першы тэатр, першая харавая капэла, першая опера — усё гэта мела месца ў Нясвіжы, "няпісанай" сталіцы нашага краю. Невыпадкова гэтаму гораду нададзены статус музея-запаведніка. Сёлета там будзе адзначацца Дзень беларускага пісьменства і друку. Традыцыйнымі сталі рэспубліканскія фестывалі камернай музыкі. У Нясвіжы трэці год дзейнічае і Міжнародная летняя школа — згодна пагадненню аб супрацоўніцтве паміж Беларускім інстытутам праблем культуры і Цэнтрам аховы гістарычнага ландшафту (Варшава).

У гэтай школе, якую назвалі Нясвіжскай акадэміяй, атрымліваюць веды прадстаўнікі Беларусі, Летувы, Украіны, Польшчы. Першы набор праводзіўся па тэме "Ландшафтна-паркавая архітэктура", падрыхтавана 12 спецыялістаў. Дыпломная работа Наталлі Гілеп на Міжнародным конкурсе атрымала І прэмію.

Сёлетні навучальны год будзе прысвечаны фарміраванню і ахове гістарычнага ландшафту. Сярод 18-ці навучэнцаў, якія прайшлі конкурс, — 11 з Беларусі, 6 з Летувы, 1 з Украіны. Ці варта гаварыць, як патрэбны нам такія спецыялісты? Дастаткова зірнуць на любы старадаўні парк, на любыя закінутыя могілкі...

Трэба адзначыць, што фінансаванне летняй школы ў асноўным узяла на сябе суседка-Польшча; адтуль прыедуць спецыялісты вышэйшага класа чытаць лекцыі, і нават праграма заняткаў аддрукавана па-польску. Куратарам з польскага боку будзе мастацтвазнаўца Ірэна Нетэр, а з нашага — загадчыца вучэбнага аддзела інстытута Валерыя Бутэнка.

Адбылося ўрачыстае адкрыццё навучальнага года. На ім прысутнічалі і выступілі рэктар БІПК У. Скараходаў, доктар навук, прафесар АН Польшчы З. Харабін, старшыня Нясвіжскага райвыканкама У. Дражын, першы сакратар пасольства Летувы Г. Шуліс, начальнік Упраўлення Міністэрства культуры РБ А. Сцепанцоў і іншыя.

АДГАЛОСКІ

# Звычайныя экзамены?

***Дзяржаўны камітэт па друку звярнуўся да рэдакцыі з просьбай "надаць належную ўвагу на старонках газеты асвятленню" таго, як праходзяць уступныя экзамены ў айчынных навучальных установах, распавесці пра дзейнасць дзяржаўнай камісіі па кантролі за гэтым працэсам. І ніжэйшыя радкі прысвячаюцца менавіта такой выбітнай падзеі ў жыцці краіны, як абітурыенцкая кампанія.***

Падаецца натуральным, што нашае грамадства ўсвядоміла: атрыманне вышэйшай адукацыі ёсць рэч неабходная ў запатрабаваннях рэалій напрыканцы другога тысячагоддзя. Пра гэта выразна сведчыць і той факт, што на сённяшні дзень у айчынных ВНУ зафіксавана найбольшая колькасць студэнтаў за ўсю гісторыю Беларусі: шэрагі студэнцкай моладзі павялічваюцца за кошт узнікнення новых інстытутаў і універсітэтаў, увядзення ў вышэйшых навучальных установах спецыяльнасцяў, якіх дагэтуль не было, магчымасці атрымаць платнае навучанне і г. д. Да таго ж, конкурс сярод абітурыентаў апошнімі гадамі вагаецца нязначна і застаецца даволі высокім. Напрыклад, сёлета на адно месца ў лінгвістычным універсітэце прэтэндуе 3 чалавекі, у БДУ — 2,4, у педагагічным універсітэце — 2,6, у політэхнічнай акадэміі — 2, а ў Беларускім эканамічным універсітэце конкурс склаў прыблізна 3,2 чалавека на месца.

У гэтым годзе ўступныя экзамены распачаліся 17 ліпеня, ім папярэднічала пранікнёная прамова прэзідэнта. Гэта сталася адной з праяў таго, што, як і летась, абітурыенцкая кампанія пройдзе пад пільнай увагай кіраўніка нашай краіны. Прадэкларавана, што для ўсіх тых, хто мусіць стаць студэнтам, будуць створаныя роўныя магчымасці пры паступленні. Забяспечыць гэта мяркуецца з дапамогай разнастайных камісій па кантролі за правядзеннем экзаменаў — дзяржаўных і грамадскіх. Нібыта ўсё няблага, але штосьці не дужа стасуецца гучна абвешчаны клопат пра айчынную моладзь з некаторымі падзеямі. Скажам, стаўленне ўладаў да Беларускага гуманітарнага ліцэя, альбо прынятае ў траўні палажэння аб спагнанні платы з бацькоў школьнікаў за карыстанне падручнікамі.

Натуральна, распавесці пра ўступныя экзамены ва ўсіх вышэйшых навучальных установах немагчыма. Таму абмяжуемся адной з іх — Беларускім дзяржаўным універсітэтам, па сітуацыі ў якім можна меркаваць, з некаторымі акалічнасцямі, і пра астатнія дзяржаўныя ВНУ.

У гутарцы са мной адказны сакратар прыёмнай камісіі універсітэта В. Самахвал паведаміў наступнае. Увогуле ў БДУ на 1690 месцаў пададзена 4120 заяў. Студэнтамі сталі ўжо 153 пераможцы алімпіяд і 360 "медалістаў", якія прайшлі тэставанне. Спадар Самахвал адзначыў, што сярод абітурыентаў гэтым разам вельмі шмат тых, хто скончыў школу з медалём. З гэтай прычыны можна сцвярджаць, што конкурс уяўляе з сябе фактычна конкурс "медалістаў". Яскравы прыклад: зараз на рэшту ў 150 месц на правазнаўства прэтэндуюць сярод іншых ажно 204 "медалісты". Дарэчы, згаданае правазнаўства, а таксама спецыяльнасці эканамічнага накірунку і псіхалогія — самыя папулярныя. Наогул апошнімі гадамі назіраецца тэндэнцыя пастаяннага ўзрастання конкурсу на гуманітарных дысцыплінах.

Яшчэ некалькі цікавых ілюстрацыйных лічбаў. Кожны пяты абітурыент — гэта выпускнік ліцэя альбо гімназіі, і, трэба меркаваць, пераважная частка іх будзе студэнтамі БДУ. Тут зноўку ўзгадваецца гаротны гуманітарны ліцэй, 95% выпускнікоў якога кожны год становяцца студэнтамі вышэйшых навучальных установ. Нарэшце, вельмі красамоўнай падаецца і такая лічба — толькі кожны сёмы, хто здае цяпер экзамены, каб паступіць у БДУ, з'яўляецца жыхаром сельскай мясцовасці.

На запытанне, як працуецца універсітэту ў звязцы з дзяржаўнай камісіяй, мой суразмоўца не шкадаваў камплімэнтаў і ўдзячнасцяў на адрас апошняй. Ён ад-значыў, што дзяржкамісія па кантролі за правядзеннем уступных экзаменаў не мае права ўмешвацца ў выстаўленне адзнак, аднак яна вельмі дапамагае ў арганізацыйных пытаннях, "расшыфроўвае" экзаменацыйныя працы і г.д. Маўляў, прыёмная камісія працуе і так без выхадных, каб паспець, як і запланавана, вывесіць да 1 жніўня спісы тых, хто стаў студэнтам. У тых жа, каму не пашанцавала, будзе магчымасць падаць заяву на платнае навучанне.

Сапраўды, у навучальных установах ідуць звычайныя ўступныя экзамены. Так, шмат складанасцяў, так, справа значная, але навошта гэтулькі шуму?

Я паспрабаваў пераканаць сябе ў адваротным, пагутарыўшы з Яўгенам Фёдаравічам Бандарэнкам, прадстаўніком Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.

— Распавядзіце, калі ласка, чым займаецца Дзяржаўная камісія па кантролі за правядзеннем уступных экзаменаў?

— Падобная камісія існуе з 1995 года, і, як вядома, з гэтага ж года з'явілася ў нас у дзяржаўных ВНУ платнае навучанне. Заможны чалавек у стане аплаціць вучобу свайму дзіцяці. Таму перавагу ў бясплатнай адукацыі неабходна аддаць найбольш здольным маладым асобам і сацыяльна не абароненым. І мэта камісіі — стварыць спрыяльныя ўмовы і забяспечыць роўныя магчымасці менавіта для іх. Наша задача — не вышукваць нейкія злоўжыванні, а, назіраючы за тым, якім чынам ажыццяўляецца тэхналогія ўступных экзаменаў, наколькі яна адпавядае пэўным патрабаванням, імкнуцца выключыць магчымасці паставіць абітурыентаў у няроўныя ўмовы. Ды і калі сістэма доўгі час знаходзіцца без кантролю, непазбежна ўзнікаюць хібы.

— А хто ўваходзіць у Дзяржаўную камісію?

— Гэта супрацоўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, прадстаўнікі Камітэта дзяржаўнага кантролю, грамадскія камісіі, створаныя паводле пастановы міністра адукацыі, якія складаюцца са школьных педагогаў.

— А наколькі настаўнікі здольныя працаваць на універсітэцкім узроўні?

— Уступныя экзамены не павінны выходзіць па-за межы школьнай праграмы. А школьную праграму настаўнік ведае.

— За ходам экзаменаў у ВНУ назіраюць і прадстаўнікі БПСМ. Іхняя дапамога адчувальная?

— Асабіста я іх не бачыў.

Дарэчы, што датычыць Беларускага патрыятычнага саюза моладзі, то яны абвясцілі, што будуць аказваць абітурыентам псіхалагічную падтрымку. Аднак іхняя дзейнасць вельмі цьмяная. Кажуць, нібыта пры гэтай арганізацыі існуе гэтак званы тэлефон даверу, праз які можна паскардзіцца і паведаміць пра тое альбо іншае злоўжыванне падчас абітурыенцкай кампаніі (папросту — "настучать").

Вось і ўсё.

**Кірыла ПАЗНЯК**

ЭКСЛІБРЫС

# А гэта ж — "выбранае"

*Максім Багдановіч. Выбраныя творы. Мінск, "Беларускі кнігазбор", 1996.*

**Сустрэў мяне не так даўно адзін з аматараў паэзіі М. Багдановіча, задаволена паказаў новы аднатомнік ягоных выбраных твораў, а потым выказаў наступныя заўвагі. Занадта падобны ён па сваёй структуры ўкладання на папярэдні акадэмічны трохтомнік. І тое, што было дарэчы ў акадэмічным выданні, не надта пасуе да больш папулярнага аднатомніка.**

**Чаму аказаліся раскіданымі па розных месцах вершы з міфалагічнымі сюжэтамі, напісаныя прыкладна ў адзін час? Чаму, напрыклад, верш "Змяіны цар" падаецца на с. 48, а другі верш з такой самай назваю, які развівае адную і тую тэму і быў выдрукаваны раней за першы, змешчаны толькі на с. 127? Чаму так тэматычна неахайна падаюцца вершы, выдрукаваныя ў адзін год, калі творы з міфалагічным сюжэтам перабіваюцца творамі з сацыяльнай тэматыкай, а потым зноў? Чаму пераклады паэта ёсць аж у трох розных месцах "выбранага", наколькі зручна дзеля гэтага шукаць іх і карыстацца імі?**

**Таму, мабыць, адказаў я, што ў "выбраным" ёсць "святая карова", гэта "Вянок", змест якога ў вялікай ступені ўклаў нават не паэт, а В. Ластоўскі, аднак тут ён падаецца як апошняе непарушнае слова М. Багдановіча. Вось таму, дапаўняю, у розных месцах "выбранага" апынуліся і вершы з цыкла "Места", і адзін з лепшых вершаў з гэтага цыкла "Касцёл св. Анны ў Вільні". Апроч таго, храналагічны прынцып размяшчэння твораў, без уліку тэматычнай еднасці вершаў, прыводзіць да адчування, падобнага на язду на возе па выбітным бруку — дыр-дыр-дыр.**

**А як вось ты, даследчык творчасці М. Багдановіча, ставішся да рускамоўных вершаў паэта, спытаўся ў мяне гэты знаёмы. Я адказаў, што гэта не толькі мая думка, пра гэта казалі і іншыя літаратуразнаўцы ў розныя часы, што рускамоўныя вершы М. Багдановіча значна слабейшыя за беларускія. Яны ўяўляюць цікавасць адно толькі для даследчыкаў, і іх увогуле не варта было змяшчаць у "выбраных творах", так як даўно ўжо не змяшчаюць у "выбраным" польскамоўныя вершы Я. Купалы і рускамоўныя Я. Коласа. Трэба было тады распачынальнікам "беларускага кнігазбору" даваць творы і Я. Чачота ў арыгінале — польскія па-польску, а беларускія па-беларуску, ці, урэшце, перакладаць рускамоўныя вершы М. Багдановіча на беларускую мову.**

**А чаму ж тады яны тут з'явіліся, здзівіўся мой знаёмы. Ды, мабыць, таму, адказаў я, чаму ў "выбраным" М. Багдановіча з'явіліся зусім недарэчныя тут артыкулы "Поэзия гениального ученого" пра Ламаносава і "Одинокий" пра Лермантава, хаця амаль уся астатняя публіцыстыка і літаратуразнаўчыя працы, пададзеныя ў "выбраным", паслядоўна закранаюць беларускую тэматыку. Бо некаторыя беларускія працаўнікі працягваюць савецкую завядзёнку, здаецца, што гэта ў іх ужо ў крыві — паказваюць сваю надзвычайную талерантнасць, калі толькі не ўгодніцтва перад усім расійскім, нават калі гэта супярэчыць усялякай логіцы. А, можа, гэта на іх так паўплываў сённяшні палітычны момант?**

**Мы, беларусы, заўсёды баяліся некага пакрыўдзіць, не дай Бог чыхнуць не ў той бок, і лепей пагаджаліся быць пакрыўджанымі самі. А народ, даўно ўжо жорстка і проста сказаў, што "на пакрыўджаных ваду возяць... "**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ПОШТА

# Не трэба ілюзій

Чытаючы ў "ЛіМе" публікацыю Генадзя Лагуновіча "Ці галасаваў народ за "беларускі аншлюс"?", не мог пазбавіцца адчування, што аўтар выдае жаданае за рэчаіснае. Магчыма, гэта зроблена наўмысна, каб крыху развеяць змрочны настрой некаторых беларусаў. Але, як бы там ні было, на мой погляд, не трэба ствараць сабе новыя ілюзіі (іх і так зашмат). Тым больш, што жаданне большасці нашых суайчыннікаў жыць у "великом и могучем" відавочнае. Аб чым яны, суайчыннікі, неаднаразова выказваліся на выбарах і рэферэндумах.

Зноў звернемся да вядомых фактаў. Але на гэты раз не будзем разважаць над імі так, быццам стагоддзямі жывём у дэмакратычнай краіне, дзе народ валодае прававой культурай і дзе вышэй за ўсё Закон. Трэба мець мужнасць, каб не хаваць праўду за мудрагелістымі фармулёўкамі афіцыйных дакументаў.

Сапраўды, пытанне аб інтэграцыі ставілася "ў чыстым выгля-дзе" толькі 14 мая 1995 года. Гутарка ішла пра эканамічнае супрацоўніцтва з Расіяй. Каб лепш зразумець сапраўдны сэнс (той, які ўкладвала ўлада) гэтага пытання, варта ўзгадаць абставіны, у якіх праходзіў той рэферэндум, і што яшчэ цікавіла ініцыятараў. Мэта была адзіная — нанесці моцны ўдар па апазіцыі, якая ніколі не хавала сваіх прыярытэтаў: незалежнасць, суверэнітэт, дэмакратыя. Што супрацьпастаўляюць апошнім — вядома. Таму зусім невыпадкова, што побач з пытаннем пра "эканамічную" інтэграцыю былі пытанні палітычныя: пра сімволіку, мову, парламент. На першы погляд, дзіўна, якое да іх дачыненне мае Расія? Але ўсё лагічна. Страціўшы атрыбутыку незалежнасці дзяржавы, мы атрымалі "зялёнае святло" на шляху пад дах усходняй суседкі. Акрамя таго, рэферэндум-95 быў толькі першым крокам у гэтым накірунку, і неабходна было асцярожна "празандзіраваць глебу". Адсюль словы пра эканамічную інтэграцыю.

Яшчэ не прыйшоў час спытаць у людзей: "Ці згодны вы з уваходжаннем Рэспублікі Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі?" Уладам трэба добра падрыхтавацца да часу "р" і растлумачыць усё грамадзянам такім чынам, каб яны самастойна, "дэмакратычна" адмовіліся ад суверэнітэту. З мэтай прапаганды кіраўніцтва краіны паўтарае: "Воля народа добра вядомая, народ выказаў сваю думку ў 91, 95, 96 гадах". Улады лічаць, што галасаванне на карысць захавання СССР (91), за фактычную адмену Дня незалежнасці і прэзідэнцкую канстытуцыю (96) све дчаць пра жаданне большасці вярнуцца ў часы імперыі. Абвяргаючы гэты тэзіс, Г. Лагуновіч піша: "З таго часу (з 91) прайшло больш за шэсць гадоў, шмат што змянілася ў свеце і на Беларусі". Нельга не згадзіцца, але змянілася не ў лепшы бок. Многія папросту стаміліся ад пераўтварэнняў у грамадстве, паверыўшы песням пра "разарваныя сувязі", прагнуць у "былыя часы". Падзеі ў Беларусі, прэзідэнцкія выбары ў Расіі (Зюганаў на другім месцы) дазваляюць зрабіць выснову: калі б аналагічны рэферэндум адбыўся заўтра, большасць зноў прагаласавала б "за". І тут не мае ніякага значэння, што было б напісана ў бюлетэні. Нават калі б зноў прапанавалі "федэрацыю раўнапраўных суверэнных рэспублік". Сэнс у тым, што пры адсутнасці нацыянальнай свядомасці і прававой культуры ў нашых грамадзян радкі з канстытуцыі аб "абароне сваёй незалежнасці" усяго толькі словы. Прыхільнікі прэзідэнта добра памятаюць выступы Аляксандра Рыгоравіча. Напрыклад, у Дзярждуме: "Мы здольныя зближацца з Расіяй да такой ступені, да якой гэтага жадае сама Расія". І колькі ні пішы ў Канстытуцыі пра "самастойнае ажыццяўленне ўнутранай і знешняй палітыкі", электарат не забудзе, ШТО з'яўляецца "магістральным шляхам развіцця нашых адносін".

**Вадзім ДОЎНАР**

ВЫСТАВЫ

# Традыцыйна, арыгінальна...

У Нацыянальным мастацкім музеі — выстава твораў жывапісца Валерыя Шкарубы. Мастак нарадзіўся ў Барысаве ў 1957 годзе, вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. У выставах пачаў удзельнічаць чатырнаццаць гадоў назад. Ягоныя творы захоўваюцца ў дзяржаўных, а таксама ў прыватных калекцыях Беларусі, блізкага і далёкага замежжа. Валерый — пейзажыст, прычым у традыцыйным разуменні гэтага слова. Ён не прыдумляе свае карціны — здаецца, што ён бярэ іх гатовымі ў прыродзе і пераносіць на палатно: канкрэтная мясціна, канкрэтныя поры года і час сутак. Менавіта гэтая дакладнасць і прыцягвае гледачоў. Атрымліваецца парадокс: на фоне ўсеагульнага мастакоўскага захаплення "авангардам" традыцыяналіст (каб не сказаць "кансерватар") Валерый Шкаруба ўспрымаецца творцам надзвычай арыгінальным у сваёй "старамоднасці". Хтосьці сказаў, што мода — гэта тое, што хутка выходзіць з моды. Валерый за модай не гоніцца, але і на месцы не стаіць. Расце ягонае майстэрства. Цяпер ён дасягае патрэбнага жывапіснага эфекту, большай выразнасці меншымі сродкамі.



*"На краю", 1988г*

Ёсць меркаванне, што менавіта гарадскі жыхар здольны ўбачыць нешта такое, што вясковец не ўспрымае, бо прызвычаіўся, і тая прырода яму ўжо вока намуліла. Творы Валерыя Шкарубы пераконваюць у слушнасці гэтай думкі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Ад рэальнага — у падсвядомае

Працягваецца знаёмства мінскай публікі з сучаснай нямецкай фатаграфіяй. Чарговая выстава з цыкла, падрыхтаванага нямецкімі культурніцкімі ўстановамі — Інстытутам імя Гётэ і Інстытутам міжнародных сувязяў, на працягу месяца працавала (закрылася 17 ліпеня) у памяшканні бібліятэкі імя Янкі Купалы. Экспанаваліся творы Рудольфа Банві (нарадзіўся ў 1947 годзе) і Астрыд Кляйн (1951 г.н.). Гэтыя мастакі ставяцца да дакументальнай фатаграфіі, як жывапісец да эцюда. Для іх гэта толькі падрыхтоўчы матэрыял. Рэальны свет яны трансфармуюць у абстрактныя вобразы, мяняючы маштаб рэчаў і з'яў. Работы Банві і Кляйн, прызначаныя для публікі, нагадваюць сярэдняга памеру жывапісныя палотны. І калі б гэта быў жывапіс, можна было б аднесці яго да негеаметрычнага абстракцыянізму з элементамі фігуратыўнасці.

Мы часта гаворым, што фатаграфія, кіно, тэлебачанне моцна ўплываюць на традыцыйнае выяўленчае мастацтва — у прыватнасці, на жывапіс. Але ў дадзеным выпадку адбываецца нешта адваротнае: жывапіс, зроблены з дапамогаю аб'ектыва і тэхнікі друкавання фотавыяў. Гэта — своеасаблівы сінтэз. Гэта — XX стагоддзе.

**П. В.**

## Дыпламант з Ліды

Адным з самых прэстыжных конкурсаў выканаўцаў на баяне і акардэоне лічыцца Міжнародны конкурс у горадзе Клінгенталі (Германія). Ён рэгулярна праводзіцца з 1964 г. Неаднаразова ў ім паспяхова ўдзельнічалі нашы суайчыннікі.

Сёлета на XXXIV конкурсе ў маленькі жывапісны нямецкі гарадок з'ехаліся прадстаўнікі выканальніцкіх школ Германіі, Чэхіі, Польшчы, Італіі, Францыі, Расіі, Украіны і многіх іншых краін. Беларусь прадстаўлялі 6 выканаўцаў. Сярод іх навучэнцы IV курса Лідскага музвучылішча Дзмітрый Жураўскі, клас выкладчыка А. Патапейкі. Спаборніцтвы праходзілі па 6 катэгорыях (чатыры ўзроставыя і дзве па колькасці выканаўцаў). Наш Дзіма ўдзельнічаў у старэйшай узроставай катэгорыі (ад 18 гадоў — без абмежавання ўзросту). Удзельнікі павінны былі падрыхтаваць праграму на тры туры: першы — абавязковая п'еса "Серэнада" Якобі, поліфанічны твор Баха, Букстэхудэ, Гендэля, саната Скарлацці; другі тур — вольная канцэртная праграма з твораў любых стыляў і эпох у межах 35 хвілін, трэці тур — інструментальны канцэрт у суправаджэнні сімфанічнага аркестра. Трэба сказаць, што ў невялікім (не больш за 50 тысяч жыхароў) Клінгенталі ёсць свой сімфанічны аркестр.

Выступленне ўдзельнікаў старэйшай групы праходзіла ў памяшканні школы імя М. Гліэра. Імя гэтага музычнага дзеяча (бацькі вядомага савецкага кампазітара) вельмі шануюць у Клінгенталі. Зала школы досыць вялікая, з цудоўнай акустыкай. У журы — вядомыя баяністы і акардэаністы: Георг Рэйдзіс (старшыня), Фрыдрых Ліпс, Жан Маркэ і інш.

Каб удзельнічаць у конкурсе такога ўзроўню, неабходна мець выканаўчы вопыт, прайсці адборачныя туры. Для Д. Жураўскага "пуцёўкай" на конкурс сталася перамога на Рэспубліканскім конкурсе імя І. Жыновіча (1996 г.). Выступіў ён даволі ўдала і ў Клінгенталі, быў узнагароджаны ганаровым дыпломам "За высокі прафесійны ўзровень". Гэта адкрывае Дзіму шырокую творчую дарогу. Ён можа паступаць у музычныя навучальныя ўстановы нашай рэспублікі, а таксама ў самыя прэстыжныя ВНУ Расіі. Чалавек ён вельмі мэтанакіраваны, працавіты, мае рознабаковыя інтарэсы, захапленні, цікавы суразмоўца.

Выклачык Д. Жураўскага А. Патапейка выхаваў шмат высокапрафесійных баяністаў, якія працуюць выкладчыкамі, салістамі-выканаўцамі, артыстамі калектываў у розных кутках нашай краіны і далёка за яе межамі. Яму нязменна ўдаецца разгледзець і развіць музычныя дадзеныя сваіх вучняў, перадаць любоў да прафесіі.

Паездка ў Клінгенталь не адбылася б без дапамогі спонсараў — прадпрыемстваў і фірмаў горада Ліды. Менавіта іх садзеянне дало магчымасць даведацца пра наш горад і ўзровень прафесійных магчымасцяй вучняў у далёкай Германіі. Мецэнацтва — цудоўная традыцыя, тое ўкладанне сродкаў, якое з ліхвой акупляецца. Прыемна ўсведамляць, што гэта не забыта і ў наш нялёгкі час.

**Н. ГАНУЛ,**
выкладчык Лідскага музвучылішча

## Дзве прэм'еры для дзяцей

У Слонімскім беларускім драматычным тэатры адбыліся дзве прэм'еры для дзяцей. Спектакль "Зайка-зазнайка" па п'есе Сяргея Міхалкова паставіў рэжысёр Мікалай Варвашэвіч. Пастаноўку спектакля "Чаранкніжнік" ажыццявіў рэжысёр Віктар Небальсін. Ён пастаўлены на п'есе Сяргея Кавалёва, у аснову якой ляглі творы Яна Баршчэўскага.

Галоўныя ролі ў спектаклях выконваюць артысты Уладзімір Навумік, Васіль Сявец, Ірына Яцук, Наталля Шугай, Вікторыя Міхальчык, Сяргей Фурса, Аляксандр Шалахонаў і іншыя.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Пра Белавежскую пушчу

Выдавецтва "Юнацтва" перавыдала нарыс Уладзіміра Караткевіча "Белавежская пушча", у якім хораша, займальна расказваецца пра гэты запаветны і найпрыгажэйшы куток беларускай зямлі. Дарэчы, "Юнацтва" надае вялікую ўвагу прапагандзе лепшых твораў Уладзіміра Сямёнавіча. Прынамсі, апошнім часам яны некалькі разоў выходзілі ў "Школьнай бібліятэцы".

ФЕСТЫВАЛІ

# На ўзлессі за канавай, ці Вяртанне ў Аўцюкі

Памятаю, два гады таму, калі ехалі ўпершыню ў трошкі ўжо вядомыя Аўцюкі, мы спрабавалі жартаваць, падбіраючы рыфмы да назвы вёскі. І злятаĺі з вясёлых языкоў досціпы такога кшталту: "Мы ў славутых Аўцюках спаць гатовы на цюках..." Праўда, тады абышлося без цюкоў: нам знайшоўся прытулак у школьным класе, які часова зрабіўся інтэрнатам. Сам не бачыў, але расказвалі сведкі, што шмат каму і з прыезджых і з мясцовых у тыя спякотныя ліпеньскія ночы ямчэй, чым мядзведзю ў бярлозе, спалася пад знакамітымі аўцюкоўскімі дубамі на траве. Навошта шукаць начлег дома, у сваякоў ці знаёмых, калі заўтра зноў трэба выбірацца на свята пад гэтыя ж дубы? Нездарма, відаць, потым з'явіўся і такі "афарызм": "Як вярнуўся з Аўцюкоў, быццам вылез з асцюкоў". Сапраўды, многае на той час адпавядала сапраўднасці: кожную хвіліну думай, дзе знаходзішся, трымай вуха востра, а губу сушэйшай...



"Аўцюкі - 97"

Першае, што кінулася ў вочы на гэты раз, калі звярнулі на Малыя і Вялікія Аўцюкі, быў вялізны шчыт над дарогай: "Да Габрава 1321 км, да Адэсы 799, да Аўцюкоў 13". Тры сталіцы гумару і смеху. Апошняя, наша, — самая маладая, і напэўна ж, са сваёй таямніцай, а таксама і з перспектывай і будучыняй. Бо сёлетні фестываль народнага гумару — ужо другі ў гісторыі Аўцюкоў, у нашай з вамі гісторыі.

Свята пачалося крышку афіцыйна, але ўрачыста: на скрыжаванні дарог, што вядуць у Малыя і Вялікія Аўцюкі, адбылося адкрыццё помніка Каласку і Калінцы — традыцыйным героям аўцюкоўскіх жартаў і анекдотаў, усім аўцюкоўцам, якія ласкава і паважліва называюць адзін аднаго каласкамі ды калінкамі. І акрапілі той помнік і ўсіх, хто прысутнічаў на ўрачыстай цырымоніі, таксама па-аўцюкоўску — пырскамі вады з пажарнага рукава.

Як і ў часе першага фестывалю, напружана працавала аўцюкоўская мытня: каб прайсці на свята, патрэбна было заплаціць аўцюкоўскай валютай — расказаць анекдот ці праспяваць прыпеўку. Пячаткі ставілі дзе толькі можна было: каму на лісток паперы, каму на запрашальны білет, каму на руку, а адна дасціпная маладзіца дазволіла шлёпнуць запаветную пячатку сабе на сцягне. Як-ніяк, хоць да першай лазні, але ж — памяць!

А потым, як і два гады назад, пачаўся самы першы конкурс — агледзіны вясковых падворкаў. Не ведаю, як у Малых Аўцюках, а ў Вялікіх, дзе давялося мне пабыць, вяскоўцы здзіўлялі не толькі шчодрасцю сталоў, але і сваім умельствам — ткацтвам, вышыўкай, вязаннем, а таксама бандарнымі вырабамі, нібыта трапіў у незвычайны этнаграфічны музей ці на спецыяльную выстаўку. Здаецца, самі нябёсы залюбаваліся гэтым харaством і да позняга вечара стрымліваліся, каб не праліцца дажджом з хмар, якія надта ж турбавалі арганізатараў фестывалю "Аўцюкі-97". Прыемна ўражвала імкненне аўцюкоўцаў жыць па-гаспадарску: двары ў большасці сваёй дагледжаныя, заасфальтаваныя, з мноствам прыбудоў, са сваім сельгасінвентаром, нават з уласнымі трактаркамі і, на жаль, надзвычай дасканалымі самагоннымі апаратамі...

Хоць прызы пераможцам агледзін уручаліся ўсё ж пад "музыку" дробнага дожджыку, настрой панаваў прыўзнята-песенны, вясёлы. Ніхто не разыходзіўся, усім рупіла даведацца, які прыз дастаўся суседу ці сваяку. А прызоў было нямала: лычастыя, вушастыя, дзюбатыя ды крылатыя, мяхі мукі і збожжа, — яны цярпліва чакалі сваіх уладальнікаў у будынку сельсавета. Журы ўлічвала ўсё. І, па-мойму, аўцюкоўцы не вельмі засмучаліся, калі прызы некаторым з іх перападалі чыста сімвалічныя — курыца ці трус. Ведаюць: з чужой ласкі не разбагацееш, каб нешта мець, трэба самім рупіцца ды ўвіхацца.

Галоўныя ж падзеі Усебеларускага фестывалю народнага гумару разгарнуліся на другі дзень, 12-га, у суботу. На тым самым месцы, паміж Малымі і Вялікім Аўцюкамі, "на ўзлессі за канаваю каля дубоў". На пляцоўках, што былі пазначаны гэтым разам у праграме свята "Здубавецце-І" і "Здубавецце-2". Свята адкрыў старшыня верхняй палаты Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Павел Шыпук. Ён не прамінуў "укруціць" у свой выступ аўцюкоўскі жарт пра бульбулятар, што не магло не спадабацца старым і маладым аўцюкоўцам, якія стракатым натоўпам абляпілі пляцоўку з усіх бакоў, пакінуўшы на нейкі час аблюбаваныя месцейкі з "абрусамі-самабранкамі".

Прагрымеў аўцюкоўскі салют — са стрэльбаў. Зверху на галовы людзей упала "гуманітарная дапамога" — шары. І загуло, і завірыла свята! Народны дух і нораў, так поўна і яскрава ўслаўленыя ў шлягеры "Гуляць дык гуляць!", адразу ажылі на свяце ва ўсёй сваёй красе і размаху.

Аўцюкоўцы разумеюць: каб жыў фестываль і не згінула іх слава, трэба загадзя клапаціцца, каб падрастала змена старэйшым "жартаўнікам". Відаць, з гэтай прычыны самым першым на пляцы "Здубавецце-2" адбыўся турнір аўцюкоўскіх пачаткоўцаў — спаборнічалі ў жартах і прыпеўках школьнікі з Малых і Вялікіх Аўцюкоў. Быў там чыста дзіцячы гумар і быў такі, які дзіцячым ніяк не назавеш.

Турнір дзвюх школ закончыўся, як кажуць, баявой нічыёй. Узнагароды атрымалі і тая, і другая...

Калі на галоўнай пляцоўцы фестывалю, дзе гаспадарылі прыпевачнікі, гумарысты і анекдотчыкі, тэатра мініяцюр, лялечны тэатр, фальклорныя ансамблі дый іншыя спеўныя гурты, людзі часцей за ўсё былі проста слухачамі і гледачамі, смяяліся ды пляскалі, то на другой і дарослыя і дзеці самі станавіліся ўдзельнікамі тых падзей, што адбываліся на сцэне. Тут здзіўлялі сваім умельствам, дасціпным гумарам і жартамі самадзейныя артысты гульнёва-забаўляльных праграм. Думаю, дзецям надоўга запомнілася шоу-праграма "У цырку — усім весела", якую паказалі магіляўчане. Чаму? Бо артысты ў час свайго міні-спектакля змаглі "ўцягнуць" у гульню амаль усіх дзяцей, што сабраліся тут.

Не пакрыўдзілі і сталых людзей — маладзіц, дзецюкоў, нават дзядуляў і бабуль, што таксама сталі "героямі" вясёлых сцэнак. За ўдзел у відовішчах усмак адведалі спрытныя ды бойкія з іх піва, розных выпечак, вэнджанай каўбасы. Напэўна, засталіся здаволеныя і тыя, каму дасталіся кубак ці гладышык, гаршчочак ці талерка. А разам з прызамі свой гумар ды забавы ім шчодра дарылі ў той дзень "вясёлая шынкарка" Вольга Баярчук з вёскі Бродніца, што на Брэстчыне, аўтары выканаўцы гульнёва-забаўляльных праграм "Як мы ехалі з хрэсьбін" з Жабінкі, "Суседкі" са Свіслачы, "Ком-ікс" з Мазыра, "Зямля з паданняў" з Івянца, "Віцебскі кірмаш". Дарэчы, апошнюю праграму падрыхтаваў і паказаў віцебскі рэабілітацыйны цэнтр інвалідаў па зроку. Не хацелася верыць, што людзі, якія выглядалі ў часе выступлення сапраўднымі віртуозамі, могуць спатыкнуцца (у самым прамым сэнсе гэтага слова) на роўнай дарожцы...

На аўцюкоўскім фестывалі, мяркуючы па ўсім, нарадзілася добрая традыцыя: з'явіліся першыя сямейныя гурты. Напрыклад, вядомая гумарыстка з Пастаў Ніна Захарэвіч, якая "на прыпевачкі хварэе", калі верыць вядучым, прыехала на гэты раз у Аўцюкі разам з дачкой Людмілай Курыловіч і ўнучкай Калінкай — ці то сапраўднай, ці то лялечнай.

Не да сну было выканаўцам, якія з'ехаліся сюды з розных куткоў Беларусі, "спакой толькі сніўся" арганізатарам фестывалю і журы, у якім верхаводзіў сталічны аўцюковец, пісьменнік Уладзімір Ліпскі. "Суддзі" імкнуліся трымацца на вышыні, судзіць аператыўна, сумленна і справядліва. Трэба ж было апраўдаць давер, адпрацаваць прэзент, што атрымалі, — прылюдна на галоўнай эстрадзе фестывалю членаў журы абулі ў лапці і надзелі ім прывабныя капелюшы з эмблемай "Аўцюкі-97".

"Бабкі" падбілі на трэці дзень, у нядзелю надвячоркам. Пасля заключнага канцэрта, на якім выступілі амаль усе пераможцы. А пераможцаў і лаўрэатаў фестывалю, як і прызоў, набралася даволі шмат — з добрую паўсотню.

Можаце спытаць: а каму ж дастаўся галоўны прыз? Які ён? Галоўны прыз, як і летась, далёка не ад'ехаў, застаўся дома. Бычок, якога арганізатары фестывалю любоўна ахрысцілі Бысяй-97, дастаўся тэатру народнага гумару з Калінкавіч. Калектыву, у якім адны жанчыны. Упэўнены, бычок будзе дагледжаны як след...

Раз'язджаліся мы з Аўцюкоў з адной думкай, з адным перакананнем: у нашы не заўсёды радасныя дні, калі добры настрой, людская чуласць і добразычлівасць, шчырая ўсмешка становяцца на вагу золата, такія святы людзям проста неабходны. Бо, як сказаў адзін філосаф, людзі трымаюцца бадзёра да той пары, пакуль яны вясёлыя.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

Леанід ЛЫЧ

# Выжыць і жыць!

## БЕЛАРУСКАЯ НІША Ў СЛАВЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

ШЛЯХІ

*У ліку найвялікшых недахопаў як рускага славянскага племені, гэтак і ўвогуле славянскага племені служаць нашыя ўзаемныя нелады, прыхільнасць да варожасці, сваркі і самаўнікэння. Гэта вялікае наша гора. Яно заўважана ў нашых продкаў грэкамі і арабамі больш за тысячу гадоў назад... Яно трымаецца ў нас і зараз.*
Праф. П. Кавалеўскі (1912 г.).

### 1. АСІМІЛЯЦЫЯ І ІНТЭГРАЦЫЯ Ў ГІСТОРЫІ СЛАВЯН

З працэсамі асіміляцыі і інтэграцыі звязана ўся этнічная гісторыя славянскіх народаў. У адных выпадках апошнія ад такіх працэсаў мелі выйгрыш, у другіх — пройгрыш. Не спыняюцца яны і па сёння, што вельмі добра адчувае на сабе беларускі народ, многія станы якога ледзь не канчаткова страцілі ўсе надзеі выйсці нарэшце на шлях самабытнага этнакультурнага развіцця. Такія ўпадніцкія настроі часта з'яўляюцца вынікам таго, што многім людзям гісторыя ўласнага народа ўяўляецца як штосьці само сабою дадзенае, за якое не трэба змагацца. Калі ж прасачыць ход гістарычнага развіцця славянства, ён практычна ўвесь запоўнены змаганнем — часам вельмі жорсткім — за сваё выжыванне, прычым нярэдка здаралася, што забяспечваць яго даводзілася не толькі ў барацьбе з чужароднымі, а і з такімі ж самымі славянскімі народамі. Узвышэнне аднаго з іх за кошт другога вялося і зброяй, і гвалтоўным укараненнем сваіх культурна-моўных пачаткаў у жыццё іншых народаў з мэтай разбурэння яго самабытнасці і адметнасці, пасля чаго непазбежна надыходзіць этнічная смерць, народператвараецца ў запаветную спажыўную масу для пераможца.

Ужо на самых ранніх стадыях сваёй гісторыі славянства зведала горкі вопыт знікнення некаторых яго плямёнаў, адгалінаванняў у выніку паглынання іх іншымі народамі. Асабліва жорсткі лёс напаткаў нешматлікія славянскія плямёны, што ў VIII—IX стст. першага тысячагоддзя апынуліся на поўдні Балканскага паўвострава, уключаючы і паўастравы Эпір, Фесалія, Атыка, Бэотыя, Пелапанес. Невыпадкова на тэрыторыі старажытнай Элады ёсць мясцовыя назвы славянскага паходжання, а ў мовах грэкаў і албанцаў трапляюцца славянскія словы. Візантыйскі пісьменнік Канстанцін Парфірародны (X ст.) лічыў усю Эладу VIII ст. асляваненай краінай. Але ў наступныя стагоддзі становішча карэнным чынам змянілася, пачалася асіміляцыя адарваных ад сваіх народаў славянскіх адгалінаванняў. На гэтай тэрыторыі навекі згубіліся ў асяроддзі грэкаў і албанцаў славянскія плямёны велесічы (велягосцічы), войнічы, мілінгі, езярыты (езярцы), майноты (цаконы) і інш. Што ж датычыць славянскіх плямён, што зніклі ў IX—X стст. у альпійскіх краінах, дык аб іх нават і назваў не захавалася для гісторыі. Аналагічнае можна сказаць пра славянскія калоніі на тэрыторыі Малой Азіі, Сірыі, Паўночнай Афрыкі, Іспаніі, Сіцыліі. Пры іншым жа збегу абставін такое магло б і не здарыцца. Асабліва гэта датычыла Аўстрыі, якая, як пісаў у лютым 1849 г. Фрыдрых Энгельс, у эпоху сярэднявечча "была краінай, заселенай выключна славянамі".

Знаходзячыся ў атачэнні іншапляменных народаў ці будучы ўкропленымі ў іх асяроддзе, славянам дзеля таго, каб не растварыцца, выжыць, трэба было б усяляк імкнуцца да інтэграцыі паміж сабой, не выключаючы і яе дзяржаўнай формы. І штосьці рабілася ў гэтым напрамку. У гістарычнай практыцы мелася даволі шмат розных спробаў аб'яднаць, калі не ўсіх, дык нейкую групу славянскіх народаў, але, акрамя саміх такіх задумак, рэальнай магутнай агульнадзяржаўнай славянскай супольнасці свет так і не пабачыў ні ў далёкім мінулым, ні ў больш позні час. Яшчэ старажытныя грэцкі пісьменнік Маўрыкій пісаў: "...славяне ніякай улады не трываюць і адзін да аднаго адчуваюць нянавісць... Паміж імі стала пануе разлад. Усе яны маюць адзін да аднаго варожасць і ні адзін не хоча падпарадкавацца другому". Між іншым такое было ўласціва таксама германскім, раманскім і іншым групам народаў, а не толькі славянскім.

Галоўную прычыну, што заходнія, цэнтральныя і паўднёвыя славяне такі працяглы час былі разрозненымі, не мелі сваіх дзяржаў, трэба хутчэй за ўсё шукаць не ў іх адносінах паміж сабой, якія маглі быць і непрыязнымі, а ў нежаданні якіхсьці народаў мець побач з сабой магутную аб'яднаную сілу, з якой пры ўсім жаданні нельга будзе справіцца. Ёсць усе падставы здзіўляцца са здольнасці славян выжываць, захоўваць сябе нават і ў самых неспрыяльных для іх самабытнага існавання ўмовах. Гэта трэба мець на ўвазе многім сённяшнім беларусам, якія з прычыны адмоўнага, абыякавага стаўлення Дзяржавы да іх нацыянальна-культурнага адраджэння кінуліся ў роспач і нічым іншым не змаглі адказаць на майскі рэферэндум 1995 г., як узяць за ручкі сваіх дзетак і павесці іх з новага навучальнага года ў рускамоўныя школы.

У свой час крайне песімістычны погляд на славян меў Фрыдрых Энгельс, магчыма, з занадта высокага пачуцця да ўласнай нямецкай нацыі, жадання бачыць яе самай магутнай у Еўропе. У артыкуле "Барацьба ў Венгрыі" (8 студзеня 1849 г.) ён з усіх славянскіх народаў Аўстра-Венгрыі прадказваў будучае толькі адным палякам, а ўсім астатнім прадракаў, што "давядзецца ў бліжэйшым будучым загінуць у буры сусветнай рэвалюцыі". Яно ж, як вядома, мела вынікі зусім адваротнага парадку для славянскіх народаў Аўстра-Венгерскай імперыі. Не спраўдзіўся і другі прагноз з гэтага артыкула аднаго са стваральнікаў навуковага камунізму. Сутнасць такога прадбачання заключалася ў наступным: пасля таго, як "туркі, па прыкладзе візантыйцаў, зававалі славян на поўдзень ад Дуная і Савы, гістарычная роля паўднёвых славян была назаўжды сыграна". Што гэта не так, вельмі добра відаць з удзелу апошніх у барацьбе з фашысцкай Германіяй у гады Другой сусветнай вайны. Ф. Энгельсу трэба аддаць "належнае" і за вынаходніцтва той формы платы, якую неабходна было спагнаць са славян за тое, што іх да канца не растварылі ў чужым асяроддзі. Ён лічыў, што паколькі паўднёвыя славяне былі выратаваны ад ператварэння ў турак, "прынамсі ў магаметан, якімі дагэтуль яшчэ з'яўляюцца славянскія баснякі", за гэта паўднёвым славянам варта заплаціць Аўстрыі "нават пераменай сваёй нацыянальнасці на нямецкую альбо мадзьярскую". Выходзіць, і Ф. Энгельс быў прыхільнікам асіміляцыі дзяржаўнымі нацыямі тых народаў, якія не мелі такога статуса.

Мала суцяшальнага знаходзілі для сябе лідэры славянскага нацыянальна-вызваленчага руху і ў артыкуле Ф. Энгельса "Дэмакратычны панславізм" (14—15 лютага 1849г.), дзе ён у самай катэгарычнай форме прадказваў: "...апроч палякаў, рускіх і, самае большае, турэцкіх славян, ніводзін славянскі народ не мае будучага па той прычыне, што ва ўсіх астатніх славян адсутнічаюць неабходныя гістарычныя, геаграфічныя, палітычныя і прамысловыя ўмовы самастойнасці і жыццяздольнасці".

Што ж адбылося са славянамі на самай справе? Стратаў панесена нямала, але не ў такой меры, як прадказваў гэта Ф. Энгельс. На пачатку нашага стагоддзя славяне ўяўлялі сабой вельмі вялікую этнічную сілу ў шэрагу краін планеты Зямля. У Аўстра-Венгрыі іх жыло 6 млн. чалавек, Германіі — 4, амерыканскіх дзяржавах — 3, Турцыі — 2,4 млн., Румыніі — 100 тыс. Таму ў час Першай і Другой сусветных войнаў, у якіх Расія выступала практычна ў самай галоўнай ролі, нямала славян са зброяй у руках ваявала адзін супраць аднаго. Аднак куды большымі былі страты славян у выніку іх асіміляцыі дзяржаўнымі нацыямі гэтых краін. У першыя дзесяцігоддзі XX ст. розныя статыстычныя даведнікі і, спасылаючыся на іх, вучоныя называлі славянскае племя кашубаў, што жылі ў Заходняй Прусіі і Памераніі. Вялікі знаўца славянскай праблемы, прафесар Т. Фларынскі лічыў, што ў 1906 г. іх было 366 тыс. чалавек. Колькасна яны перасягалі толькі сербаў-лужычан, лік якіх раўняўся 157 тыс. Праз паўстагоддзе на кашубскай мове гаварыла каля 200 тыс. чалавек. Амаль усе яе носьбіты жылі на той час у Польшчы. Сёння з-за ўплыву польскай мовы кашубская знаходзіцца ў вельмі незайздросным становішчы.

Моцна аслабленымі ў этнічным плане ўступілі ў XX ст. лужыцкія сербы, якія жылі ў асяроддзі нямецкага народа і не мелі аніякіх правоў на нацыянальна-культурную аўтаномію. Але дзякуючы сваёй вялікай прыхільнасці да традыцый продкаў, і гэтае славянскае племя, як толькі магло, адцягвала сваю этнічную канчыну. У пачатку 70-х гадоў на тэрыторыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі жыло каля 100 тыс. лужычан. Ёсць факты, што яе ўрад паважліва ставіўся да іх духоўных патрабаванняў. Шкада, калі цывілізаваная Еўропа не знойдзе надзейных шляхоў выратавання гэтага народа ад этнічнай смерці. Але найперш аб гэтым павінны паклапаціцца прагрэсіўныя сілы Германіі і сама славянская супольнасць, бо для першай лужычане — гэта іх грамадзяне, а для другой — яе кроўныя браты.



*Фота А. Клешчука*

### 2. ЦІ ЗАЎЖДЫ АБ'ЯДНАННЕ ПАНАЦЭЯ?

Здаўна самую велізарную ў Еўропе тэрыторыю займалі і займаюць усходнеславянскія народы, да якіх належаць і беларусы. Пры ўсёй агульнасці гістарычных лёсаў, культур, моваў усходнеславянская супольнасць уяўляе сабой букет непаўторных, яркіх, адметных адна ад адной красак. Найбольшай размаітасцю вызначаўся ён на самай ранняй гісторыі, калі яго асноўнымі кампанентамі былі бужане, вяцічы, драўляне, дрыгавічы, дулебы, ільменскія славяне, крывічы, паляне, радзімічы, севяране, улічы (угліцы), ціверцы і інш. Пад уплывам зусім не прыродна-кліматычных умоў гэтыя краскі з цягам часу пабуйнелі ў сваіх памерах, і ўсходнеславянскі букет стаў складацца з трох асноўных красак — рускіх, украінцаў і беларусаў з захаваннем унутры кожнай з іх шмат чаго спецыфічнага, адметнага, што і раней, і зараз радуе вока, саграваe душу.

Палемізуючы з рознага роду праектантамі зліцця беларусаў з палякамі, рускімі ці ўкраінцамі, наш таленавіты публіцыст і літаратурны крытык Лявон Гмырак (сапр. Мечыслаў Бабровіч; 1891—1915) пісаў: "...хоць мы ўсходнія славяне, як украінцы, велікарусы, і ім мы бліжэй, як славянам заходнім, чэхам, ці палудзёвым, балгарам і сербам, усё ж такі мы саўсем асобны ад усіх і найбліжэйшых славянскіх народаў, народ беларускі, бо і мова ў нас ёсць свая іншая, як у іх, і звычаі свае, і ўсё такое. Усё сваё нам павінна быць дорага і блізка — нельга яго нам цурацца — і не дамо мы ўсяму свайму загінуць, як гэта хочацца нашым ворагам; а наадварот, не пакладаючы рук, павінны мы працаваць для лепшай, святлейшай долі нашай і для дабра сваёй роднай старонкі — бацькаўшчыны — Беларусі".

І сапраўды было б вельмі страшна, проста трагічна, калі б на якім-небудзь гістарычным этапе ўвесь гэты ўсходнеславянскі набор выдатных красак, цудоўных, каларытных адценняў набыў агульную, суцэльную для ўсіх афарбоўку. І не дай Божа — цьмяную, змрочную.

Атаясамляючы ўсходнеславянскую супольнасць з букетам прыгожых красак, памылкова было б думаць, што ўвесь час над ёю было бясхмарнае неба, што з яе букета ніхто не выкідаў зусім здаровых, здольных да паўнавартаснага жыцця красак. Усялякае здаралася і найбольш з тымі славянскімі плямёнамі, якія жылі па суседстве, і адно з іх у чымсьці перасягала другое. Відаць, дзейнічаў прынцып: хто з кім не жыве, той з ім і не сварыцца. Калі ж сварка датычыць плямёнаў, народаў у цэлым, дык звычайна яна перарастае ў кровапралітныя войны. У старажытнай гісторыі славян, асабліва ўсходніх, іх было procьма. Кіеўская Русь забяспечвала сваё існаванне, абапіраючыся пераважна толькі на зброю. Прыходзіш у жах, калі паспрабуеш сабе ўявіць, колькі наша першая беларуская дзяржава — Полацкае княства паклала на ратных палях сваіх сыноў, каб абараніцца ад захопніцкіх набегаў, што ўчынялі занадта ўжо ваяўнічыя, храбрыя славянскія князі?! Маючы ў сваім распараджэнні масу фактаў аб міжкняжацкіх усобіцах у перыяд Кіеўскай Русі, вядомы рускі вучоны-гісторык канца XIX — пачатку XX ст. П. Кавалеўскі зрабіў наступную высноў: "Асаблівасцю славянскіх, між іншым і ўсходніх славянскіх плямёнаў было тое, што яны праяўлялі крайнюю непрыхільнасць і ледзь не варожыя адносіны адзін да аднаго". З такой высновай нельга не пагадзіцца, мо толькі за выняткам слоў "ледзь не", бо паміж славянскімі плямёнамі не раз назіраліся і самыя тыповыя варожыя адносіны. У адной з прац згаданага аўтара можна натрапіць і на такія словы: "... нацыянальная варожасць уласціва не толькі рускім славянам (сюды ім уключаны таксама ўкраінцы і беларусы. — **Л. Л.**), але і ўсім славянам, што пацвярджаецца тысячагадовай гісторыяй славянскага народа".

Пакутавала, несла велізарныя матэрыяльныя і людскія страты ад славянскіх набегаў не толькі Полацкае княства. Крайне нялітасціва паставіўся лёс і да Ноўгарадскага княства, мова асноўнага (славянскага) насельніцтва якога, паводле апошніх сцвярджэнняў вучоных-лінгвістаў, шмат у чым адрозніваласа ад літаратурнай мовы Кіеўскай Русі. Таму цалкам можна пагадзіцца з меркаваннем нашага сучаснага гісторыка Эдварда Зайкоўскага, што каб у выніку працяглых войнаў з Маскоўскай дзяржавай Ноўгарадскае княства не страціла б у 1478 г. сваёй незалежнасці, "то ноўгарадцы сталі б чацвёртым усходнеславянскім народам". Добра гэта ці кепска — зараз ужо цяжка даць правільны адказ, а вось як сёння важна для захавання таго ці іншага славянскага народа ад асіміляцыі яму мець уласную суверэнную дзяржаву, ноўгарадскі вопыт вельмі добра вучыць.

Прычынай славянскіх войнаў найчасцей за ўсё была спроба аднаго народа, звычайна найбольш моцнага ў ваенных адносінах, далучыць да сябе сваіх суседзяў ці толькі аднаго з іх. Але ж мала хто згаджаўся на такое далучэнне, калі нават яно ажыццяўлялася і пад якой-небудзь добрапрыстойнай падставай: аб'яднацца дзеля сумеснай барацьбы супраць агульнага ворага, у ролі якога найчасцей за ўсё выступалі полаўцы, печанегі, хазары, а пазней татара-мангольскія плямёны. Зразумела, адбіць іх напад на славян можна было толькі сумеснымі сіламі.

(Працяг на стар. 12)

ЛіМ ЧАСАПІС

## Роднае слова гучыць

**Абласныя святы паэзіі на Віцебшчыне даўно сталі традыцыйнымі. Адбываліся яны звычайна на Ушаччыне — бацькоўскім куце знакамітых паэтаў. А сёлета ўпраўленне культуры аблвыканкама і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў вырашылі праводзіць свята роднай мовы і культуры ў розных раёнах: чым яны горш Ушаччыны? І нядаўна такое свята прайшло на Шумілaverшчыне. І яно ўдалося на славу, дзякуючы найперш мясцовым уладам, работнікам культуры гарпасёлка і раёна, наогул, усім тым, хто ладзіў свята.**

**Цёпла сустракалі гасцей і паэтаў Анатоля Запрагаева са Смаленска, Уладзіміра Скарынкіна з Мінска, Барыса Беляжэнку з Віцебска, Навума Гальпяровіча і Ірыну Дарафейчук з Полацка, Алеся Жыгунова і Фаму Ляшонка з Глыбокага працаўнікі калгаса імя Энгельса.**

**А на наступны дзень на цэнтральнай плошчы гарпасёлка свята працягвалася пад небам. Выступалі паэты, калектывы мастацкай самадзейнасці, асобныя выканаўцы, народны аркестр Шумілінскай дзіцячай школы мастацтваў. Гучалі песні на словы Анатоля Вярцінскага, Уладзіміра Карызны, Алега Салтука, Барыса Беляжэнкі.**

**Паэтычнае свята добра і годна акаймлялася выставамі ручнікоў, вырабаў Обальскага керамічнага завода, Дома рамёстваў. Працавалі гандлёвыя рады, літаратурная латарэя.**

**На святе была паказана п'еса Уладзіслава Галубка "Суд" у пастаноўцы артыстаў народнага тэатра Шумілінскага Палаца культуры, выступіў агністы сямейны ансамбль "Забава" з вёскі Мікіціха пад кіраўніцтвам Сяргея Семянькова.**

**Словам, не падвялі ні арганізатары свята, ні яго непасрэдныя ўдзельнікі. Дзякуй табе, Шуміліна, за ўвагу і павагу да роднага слова!**

**А. САКАЛОЎСКІ**

## "Мастацтва", N 6

**Напрыканцы мінулага года ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы супрацоўнікі Беларускага інстытута праблем культуры правялі сацыялагічнае апытанне "Тэатр і глядач". На падставе вынікаў яго Р. Харытончык напісаў артыкул "Праверыць алгебрай гармонію...", якім і адкрываецца шосты нумар часопіса. З гэтага матэрыялу відаць стаўленне сучаснага гледача да сённяшняга мастацтва. У раздзеле "Тэатр" змешчаны таксама артыкулы У. Мальцава "Нельга зневажаць чалавека!" і Т. Ратабыльскай "Опіумжыццё ці Наркатычныя прывіды смерці?".**

**Спробу творчага партрэта ў выглядзе дыялога зрабіла Т. Мушынская ("Калі ў вачах адбіваецца вечнасць..."), расказваючы пра вядомую балерыну Т. Шаметавец. Ю. Чурко ("Акно") прапануе сцэнарый балета нябачанага нікім, акрамя аўтара.**

**А. Скарабагатчанка ("Пастаўскія перазвоны") падводзіць вынікі аднаго з фестываляў "Звіняць цымбалы і гармонік". Д. Падбярэзскі ("Каранацыя па-беларуску") знаёміць з традыцыйнай "Рок-каранацыяй". В. Дадзіёмава прапануе чарговы артыкул з цыкла "Музычнае мастацтва Беларусі ў эпоху Рэнесанса і Барока".**

**Уражаннямі ад мастацкай выстаўкі, прысвечанай 480-ым угодкам з дня выхаду паэмы Я. Вісліцкага "Пруская вайна", дзеліцца М. Яніцкая ("Каб жылі ўсе народы шчасліва...").**

**Можна пазнаёміцца з артыкуламі В. Буйвала "Чырвоны дракон Кімры", Н. Антончык "Міфы Генадзя Лакобы", М. Яніцкай "Мастак, арганізатар, наватар", В. Гаршкавоз "Жывапіс ёсць... расцягнутае ваганне паміж колерам і сэнсам", У. Конана "Славянская міфалогія ў кантэксце беларускай культуры", В. Угрыновіч "Споведзь ганчарнага круга", Т. Пешынай "Маё Спярыжжа", А. Ігнацюк "Вершаваны нацюрморт", у якім па-свойму прачытваецца і перачытваецца паэзія Л. Дранько-Майсюка, і іншымі матэрыяламі.**

КНІГАРНЯ

# Талент вымагаў кантактаў...

Любы творца жыве не ў ізаляванай прасторы. І не толькі ў тым сэнсе, што ён мае пастаянныя ўзаемадачыненні з грамадствам. А яшчэ ён не можа не адчуваць на сабе ўздзеянне таго, што робіцца ў іншых культурах. Гэтаксама як і сам ўплывае на іх. І чым больш значны талент, тым больш падобныя стасункі мацнейшыя. Зразумець іх сутнасць, спасцігнуць глыбінны сэнс — удзячная задача для даследчыкаў. У гэтым кірунку шмат робіць Цімох Ліякумовіч, які цягам дзесяцігоддзяў вывучае ўзаемадзеянне беларускай літаратуры з рускай і іншымі літаратурамі. Асноўную ж увагу ён удзяляе, пры ўсім іншым, Янку Купалу. Даследуе праблемы перакладу твораў нацыянальнага генія на рускую мову, асэнсоўвае творчыя ўзаемасувязі незабыўнага Івана Дамінікавіча з рускімі пісьменнікамі.

Свайго роду падагульненнем гэтай працы Ц. Ліякумовіча стала манаграфія "Янка Купала і руская літаратура. Шматграннасць творчых узаемасувязяў", першая частка якой, што мае падзагаловак "Творчасць Янкі Купалы 1905—1917 гадоў і руская літаратура", нядаўна выдадзены Брэсцкім дзяржаўным універсітэтам. Упершыню з'явілася фундаментальнае даследаванне, у якім досыць глыбока і шматгранна раскрываюцца і абагульняюцца розныя аспекты згаданай праблемы, на канкрэтных прыкладах паказана, як Я. Купала засвойваў з суседняй літаратуры ўсё лепшае, што спрыяла хутчэйшаму раскрыццю ягонага таленту, станаўленню яго як яркай мастакоўскай асобы.

Але, гаворачы пра Я. Купалу, Ц. Ліякумовіч адначасова не пакідае па-за ўвагай і ўвогуле беларускую літаратуру пачатку нашага стагоддзя, якая, як вядома, вымушана была развівацца паскорана, паколькі ў параўнанні з іншымі літаратурамі з'ўлялася больш маладой і першаступеннай задачай для яе было наверстаць упушчанае, што немагчыма без звароту да эстэтычных каштоўнасцяў, адкрыццяў іншых літаратур, у тым ліку і рускай, аб чым Ц. Ліякумовіч і нагадвае ва ўступным артыкуле, абгрунтоўваючы свае развагі і спасылкай на А. Адамовіча, які пісаў, што "інтэнсіўнасць асваення іншанацыянальнай творчасці тлумачыцца натуральным імкненнем кампенсаваць пэўныя прабелы ў паслядоўнасці і ў пераемнасці айчыннага развіцця як ў сферы ідэйных тэндэнцый, у галіне літаратурных плыняў, так і ў сферы жанраў, сістэмы мастацкіх сродкаў".

Іншая справа, што Я. Купала, дзякуючы глыбіннай сутнасці свайго таленту (поруч з Максімам Багдановічам, Якубам Коласам, Максімам Гарэцкім), больш за іншых разумеў як неабходнасць творчай вучобы, так і засваення лепшых набыткаў сусветнай літаратуры, а паколькі літаратура руская была, як кажуць, "бліжэй", гэтым і вытлумачваецца яе жыватворнае ўздзеянне на фарміраванне таленту яго.

Згаданая частка манаграфіі складаецца з двух раздзелаў — "Вялікія рускія пісьменнікі з'яўляліся выхавацелямі і настаўнікамі" і "На шырокі гасцінец рускай культуры". Як і трэба было чакаць, яны ўзаемададапаўняюць сябе.

У першым выпадку ў полі зроку Ц. Ліякумовіча згадкі найбольш пра самы ранні перыяд у творчасці Я. Купалы, калі ён пачынаў далучацца да неабсяжнага свету паэзіі, а, трапіўшы ў яе палон, не толькі сам пісаў, і ў іншых вучыўся.

Аб'ектыўна гаворыцца, якое ўздзеянне мелі на творчасць Я. Купалы, для прыкладу, Кальцоў, Лермантаў, Някрасаў, і як ён паступова набліжаўся да Пушкіна, да якога, прызнаваўся сам, прыйшоў не адразу. І на тое была прычына. У свой час Я. Купалу не спадабалася, як Пушкін ставіўся да "чэрні" ў сваім вершы "Паэт і натоўп". Штосьці абразлівае бачылася Янку Купалу ў такіх адносінах да народа, з якога ён выйшаў і выказнікам спадзяванняў якога стаў, пачынаючы з першых сваіх твораў. Толькі пазней ён па-сапраўднаму ацаніў талент генія рускай літаратуры, зазначыўшы: "Мне хацелася б так пісаць, як пісаў любімы мною А. С. Пушкін". Захапленне рускай паэзіяй прывяло яго і да перакладчыцкай дзейнасці, хоць, як вядома, ён перакладаў і з іншых моў.

Ц. Ліякумовіч не пакідае па-за ўвагай і блізкасць матываў асобных твораў Я. Купалы да твораў тых паэтаў, якіх ён любіў. Да гонару даследчыка, ён не баіцца часам не пагаджіцца тут з аўтарытэтамі. Прынамсі, калі разважае аб Купалавым стаўленні да паэзіі Кальцова, не прымае меркавання Р. Бярозкіна аб тым, што "Купала фармальна пераймаў стылявыя і кампазіцыйныя прынцыпы Кальцова". На думку Ц. Ліякумовіча, "паэзія Кальцова пераканала Купалу, які з цягам часу ўсё больш імкнуўся да літаратурных традыцый, у жыццядзейнасці фальклорных форм, народна-паэтычнай вобразнасці".

У раздзеле "На шырокі гасцінец рускай культуры" Ц. Ліякумовіч засяроджваецца на тым перыядзе ў жыцці і творчасці Я. Купалы, калі паэт адчуў ужо вагу ўласнага слова і пачаў разумець, што трэба выходзіць не толькі на новыя творы, а і на далейшыя жыццёвыя прасторы. Так сказаць "геаграфічныя межы" пашырылі і "межы паэтычныя". Жывучы ў Пецярбурзе і Маскве, Я. Купала не толькі засвойваў лепшыя набыткі суседняй літаратуры, а і атрымаў мажлівасць асабіста кантактаваць з асобнымі яе прадстаўнікамі, што таксама пайшло толькі на карысць.

"Янка Купала і руская літаратура" Ц. Ліякумовіча — з шэрагу даследчых прац, напісаных з пазіцый сённяшняга дня. Адсюль і адсутнасць у ёй (што, канечне, не можа не радаваць) момантаў, якія раней (а інакш літаратуразнаўцы проста не маглі не пісаць) былі нязменнымі. Калі гаварылася аб узаемасувязях з рускай літаратурай, рускай культурай, дык абавязкова акцэнтавалася, наколькі яна стаіць вышэй за іншыя, у прыватнасці, за беларускую. Тут жа "дыялог" адбываецца, як кажуць, нароўных. Ц. Ліякумовіч, вядома, ставіцца з павагай да рускай літаратуры, але адначасова з гэткай жа павагай ён піша пра літаратуру беларускую. І, вядома ж, з найвялікшай любоўю да творчасці Я. Купалы, якая, што падкрэсліваецца неадноймы ў кнізе, мае сусветнае значэнне.

Калі ж паспрабаваць увязаць працу Ц. Ліякумовіча з сучасным творчым працэсам, дык яна, несумненна, знамянуе сабой той новы этап, які пачаўся ў літаратуразнаўстве цяпер, калі даследаванне праблемы ўплыву рускай літаратуры на іншыя (у прыватнасці, на беларускую) вядзецца прынцыпова, аргументавана, без "здымання шапкі" перад "старэйшым братам". У рэшце рэшт пачатак гэтаму пакладзены ў чатырохтомніку "Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей", падрыхтаваных навуковымі супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы і выпушчанага не так даўно выдавецтвам "Навука і тэхніка".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

УРАЖАННЕ

# Заложнікі шляху

У кожнага з нас пад гэтым небам свой шлях. Чым бы яго ні вымасцію лёс, па ім наканавана несці крыж радасцей і трывог, удач і роспачы. Часам крокі на ім, пакручастым і камяністым, аддаюцца болем у сэрцы. Ды ўсё ж трэба ісці — бо ў гэтым сэнс жыцця. Адны спыняюцца, задаволеныя тым, што лёсам падаравалі абставіны, другія ж адчайна і мужна прадзіраюцца да сваёй мэты, што прывідна свеціцца на далёкім гарызонце. Так адчайна, як можа гэта рабіць эколаг Герман Ліневіч у аповесці Юры Станкевіча "Прузі" ("Полымя", N 7, 1996).

Своеасаблва напісана аповесць. Найперш — у жанравым плане. Хутчэй за ўсё — гэта прытча. Тут у адзінстве праўда і вымысел, рэальнае і містэрыя.

Дзея ў аповесці завязваецца паволі. Уражанне, што гэта — замаруджаныя кадры прывіднай кінахронікі. Бычыцам кавалкі сну: сонца барвовае; над гарызонтам мроіва; слабы вецер, перамешаны з дымам; па вясковай вуліцы сунецца лесавоз з "трупамі" дрэў...

Штрыхі і цьмяныя, і ў той жа час выразныя. Фон і сны бычыцам нерэальны. Адчуваецца містыка ў тым, што адбываецца, перадусім у фарбах вясковай раніцы.

У гэты час эколаг Герман Ліневіч збіраецца ісці на рэчку. Тут ён шукае загадкавую сумку, што затанула пры сутыкненні кацера з тапляком. Што ў ёй, ён не ведае, бо ніхто з начальства ў Мінску не патлумачыў.

Надвячоркам таго ж дня, калі Ліневіч вяртаецца пасля чарговага беспаспяховага абследавання дна рэчкі, у яго валасах заблытваецца невялікіх памераў конік травяністазялёнага колеру, з празрыстымі крыльцамі. Што за кузурка? Герман ловіць яе, разглядвае і выкідае. А назаўтра самая горшая здагадка пацвердзілася: "Пералётны прус...".

Для Германа і чытача пасля прылёту саранчы пачынаецца іншае вымярэнне часу. Пісьменнік пераносіць нас у новы свет, хаця знешне ўсё як бычыцам застаецца на сваіх месцах. Аднак тое, што дагэтуль было міфічным, аддаленым акіянамі і пустынямі, што магло ўявіцца толькі ў сне, наблізілася, злілося з існым, стала яго часткай. Бяда не толькі ў вёсцы. І ў горадзе крах: не ходзіць транспарт, спыніліся чыгунка. Жыццё на мяжы апакаліпсіса.

Непазбежна паўстаюць пытанні: пакорліва здацца абставінам ці знайсці сілы, каб супрацьстаяць жахлівай навале?

У аповесці высноўваецца сітуацыя катастрофы, а такія сітуацыі ў наш час даволі частыя. Мабыць, таму пісьменнік падае яе стрымана, без пераболшання — амаль як звычайную падзею.

Эколаг Ліневіч аказваецца ў цэнтры лакальнай катастрофы, і яму не трэба выбіраць Шлях, — ён арганічны чалавек Шляху, змагання, нават яго заложнік. У яго няма выбару. Гэта становіцца відавочным з дыялогаў з настаўнікам Мазурам. Той таксама чалавек Шляху, які натуральна сустрэў самага страшнага і непераможнага ворага — старасць. Хаця ён разумее, што трэба змагацца.

Пісьменнік выяўляе, хто як аднёсся да прылёту пруса. Адны, прадчуваючы вялікую небяспеку, як і Ліневіч, адразу выбралі шлях змагання, іншыя выявілі поўную абыякавасць: няхай плодзіцца, няхай хоць трава не расце. Усё роўна ўжо нічога не паправіш. Перад чытачом раскрываюцца горкія пласты жыцця. На фоне скрыгату сківіц ненажэрных кузурак — поўная бяздзейнасць і ў шарагоовых людзей, і ў службовых асоб. Прылёт пруса асабліва ў вёсцы нікога не ўстурбаваў. Маўляў, нейкая драбязза ў параўнанні з сапраўднымі бедамі, калі вунь кругом крадуць і рабуюць, калі ў калгасе няма ні паліва, ні грошай... Само па сабе ўзнікае пытанне: дык дзе ж тая сапраўдная саранча? Фізічна ўсё ясна: вунь яна, зялёная, наступае. Але з падтэксту вынікае аналогія: пакуль мы не зменім сябе і тых, хто побач з намі, то саранчу не спынім. Яна будзе пладзіцца. Грамадства не перастане быць гняздзілішчам бездухоўнасці, тым асяродкам, з якога пастаянна зыходзіць пагроза ўсяму жывому. Бо, як паведаміў па сакрэце Ліневічу інспектар Цай, што прыехаў з Мінска, у той сумцы, якая затанула пры сутыкненні кацера з тапляком, ляжаць радыеметры і рэчыва, здольныя ўчыніць яшчэ адзін Чарнобыль.

А саранча няўмольна наступае. Тым не менш, як праз цяжкія аблокі, прабіваецца святло. Інспектар Цай не скараецца перад абставінамі. Ён дамагаецца, каб выдзелілі паліва для запраўкі тэхнікі — будзе прадоўжаны пошук сумкі на дне ракі. З'яўляецца ў вёсцы дачка настаўніка Мазура Надзея, прыгожая маладая жанчына, якая прыехала на пахаванне бацькі, застрэленага наркаманам. Між ёю і Раманам Ліневічам натуральна ўзнікае пачуццё — абодва яны дбаюць не толькі пра сябе і ўласны інтарэс. Верыцца, што яны абавязкова сустрэнуцца зноў, каб не здавацца цяжкасцям, не адступаць ні на крок са шляху.

Аповесць крывавіць сённяшнімі праблемамі. Элементы прытчы працінаюць мастацкую тканіну, знітоўваюцца з пластамі нашай рэчаіснасці. Хаос у эканоміцы, бездухоўнасць, крадзяжы, рабаўніцтва, наркаманія, забойствы... І так мала сапраўдных людзей, якія без боязі і страху становяцца на шлях воіна.

Аповесць "Прузі" — твор фантастычна-прыгодніцка-рэалістычнага кшталту. Такія творы апошнім часам становяцца прыкметнай з'явай беларускай літаратуры. Асобныя пісьменнікі (Юры Станкевіч, Адам Глобус, Барыс Пятровіч) адыходзяць ад традыцыйнага рэалізму, спрабуюць шукаць сябе ў жанрах, якія ляжаць у рэчышчы еўрапейскай літаратуры.

Куды мы ідзём? Якім шляхамі? Гэтыя адвечныя і заўсёды новыя пытанні, што ўзнікаюць на крутым павароце грамадства, завастрае ў сваёй аповесці-прытчы Юры Станкевіч. Многія ў цяжкія часіны катастрофы знаходзяцца на шляху абыякавасці і бяздзейнасці. Тых, хто выбірае шлях воіна, хто становіцца добраахвотным яго заложнікам, пакуль няшмат...

**Наталля КУЗЬМІЧ**

КРЫТЫКА

# "Пакінутая думка — гэта бессмяротнасць"

Шырока вядома ў вузкіх філасофскіх колах, што любы факт рэчаіснасці можа быць даследаваны шляхам яго раскладу на сем катэгорый: асаблівае, агульнае, адзінкавае, змест, форма, з'ява, сутнасць. Бясспрэчна і тое, што выпадковае ёсць спосаб праяўлення заканамернага. Выпадкова пачуты абрывак спрэчкі пра слабую філасофскую заглыбленасць беларускай літаратуры; выпадкова (хапіла грошай!) набыты раман Уладзіслава Рубанава "Не аднойчы забіты"; выпадкова згаданае выслоўе, здабытае некалі Леанідам Галубовічам "з левай кішэні": "У кожнага чалавека адно жыццё, але, дзякаваць Богу, і адна смерць". Яскрава вымалёўваўся абрыс заканамернага...

Аднак перш чым ухапіцца за вясёлкавы хвост творчай задумы, належала падрыхтавацца да заўтрашніх лекцый. "Эпічны твор павінен вывучацца цэласна, — нагадваў мне падручнік і ахалоджваў: — цэласнасць твора не заўсёды ўдаецца раскрыць нават аўтарам сучасных літаратуразнаўчых прац". І ўсё ж з упартасцю я рынулася ў раманныя нетры...

Зніто́ўвае твор вобраз жанчыны, шматаблічны да кантрастаў. Трыумф ці няслава ў жыцці мужчыны — на пераломных этапах ён звяртаецца да Жанчыны. Пэўна, такою ў ідэале задумвалася Ева, але паэтаў чамусьці больш натхняе Ліліт. Не выключэнне і герой Рубанава Чуйкевіч. "*Жонка яго творчасці не спрыяла..*, у яго была глыбокая душа, а ў яе блізарукія вочы, якія не маглі ўбачыць дна". Сапраўдны талент перашкаджае прыстасоўвацца. Ён ставіць свайго носьбіта ва ўмовы выбару. Самае істотнае для творцы — творчасць. Таму жыццё творчага чалавека няпростае. "Літаратура — спосаб быцця для пэўнай катэгорыі людзей", сярод якіх — Чуйкевіч. Ён не быў, а галоўнае, нават не імкнуўся стаць "прыладаю працы з вечным рухавіком, які заводзіцца без намаганняў адным з жончыных загадаў".

Нават без аўтарскай канстатацыі зразумела, што Людміла была "жонкай — Дай", "належала да самай няўдзячнай, з пункту погляду мужчыны, першай групы" (у адрозненне ад жонак-На і жонак-Дай—На).

Паняцці "разумная жанчына" і "разумная жонка" амаль несумяшчальныя. Людміла відавочна не тая і не другая. Не атрымалася ў Чуйкевіча "дожить до счастья, до любви", як у тургенеўскіх герояў. Таму можна даравацъ яму некаторую катэгарычнасць поглядаў на сямейнае жыццё, тым больш, што героя не папракнеш у безадказнасці, хваробе большасці сённяшніх мужчын: "Для сям'і важна не ўмець кахаць, а не навучацца, мовячы па-руску, разлюбляць... Каханне ў сям'і непатрэбна. Гэта — зло для яе. У закаханых вельмі тонкія, надта хваравітыя ўзаемнасці і патрабаванні. Вынесці іх у працяглым часе немагчыма". А сям'я ж — маленькая дзяржава...

Кажуць, ігнараванне выпакутаванага вопыту вядзе да страты маральных арыенціраў, а быццё ўвасабляецца ў мастацтве як каштоўнасна ацэненае і ідэалізаванае. Выпакутаваны ж маральны вопыт Чуйкевіча ад ідэалу здаецца далёкім, ён хутчэй ляжыць у рэчышчы той жа жыццёвай філасофіі, згодна з якой ёсць жонкі і ёсць жанчыны, і мудрэц той, хто ўмее, не крыўдзячы першых, не забываць другіх. Чуйкевіч "змагаўся не з жонкаю, а з несправядлівасцю, якая за ёй стаяла", і быў упэўнены: "Адмесці раз і назаўсёды "жаночае пытанне" для пісьменніка-мужчыны азначае паставіць крыж на творчасці".

*Таталітарны рэжым звёў асабісты лёс* чалавека да прымітыўнай палітычнай функцыі. Ён, па выразу У. Вайновіча, квапіцца на ўсю вашу маёмасць, цела, душу і жыццё, а камунізм, спрабуючы палепшыць прыроду чалавека, робіць яго яшчэ горшым. Найбольш недарэчна пачуваецца ў абцугах Сістэмы жанчына. Вобразы "партыйных дам" у рамане пераважна гратэскавыя. І пачуцці выклікаюць складаныя: ад гідлівасці — да спачування. Яны не толькі функцыянеры, але і ахвяры Сістэмы, якім адмоўлена ў праве на нармальнае жаночае жыццё. Адна "сохла без пары і хутка", другая "выяўляла кволасць інтэлектуальных ножак", трэцяя глядзела на Чуйкевіча "папяровымі вачыма", чацвёртая "належала да тых, чыя свядомасць з часам ужо не мянялася". Ён дзівіўся і шкадаваў, але надзеі адшукаць чароўную незнаёмку *ў жалезных шэрагах не песціў*. Роднасць душы, адухоўленасць вабяць Чуйкевіча ў жанчыне. Аднак і Вераніка ў якасці ідэалу выглядае ў творы неперакаўнаўча. І, думаецца, гэтага не мог не адчуць і сам аўтар. Няма ў рамане такой жанчыны, да якой можна звярнуцца безнадзейна старамодна: "Спадарыня, дазвольце даведацца прычыну Вашага суму" і не пачуць у адказ: "Чево-о? Крыша, что ли, поехала?" "Сучасная жанчына... раскрылася, як борцікі касметычкі, і аказалася — там мала каштоўнасцей: танная памада, заліты віном пачак цыгарэт і сцёртыя медзякі — узбуджальнікі мата", — сумна канстатуе аўтар.

Вечнай загадкай застаюцца сутнасць чалавечага "я", узаемаадносіны сусвету і асобы. Па вызначэнні аўтара, яго інструменты спазнання — адначасна рэальнасць і фантасмагорыя, дакументалістыка і выдумкі, сны і ява, думкі лагічныя і містычныя, поўныя абсурду і парадоксаў.

Пісьменнік малюе мастацкія карціны існавання чалавека ў трох *паралельных* светах: фізічным, свеце сноў (свеце творчасці) і свеце душ. Фізічнае — найбольш тыповае, яно можа быць дакладна вымерана. Духоўнае — тонкае, кволае, "яно хутчэй паддаецца змяненню, а ўсе драмы і трагедыі на свеце адбываюцца ў выніку парушэнняў у развіцці духоўнага свету канкрэтных людзей. "Лёс Чуйкевіча пацвярджае жыццяздольнасць гэтых філасофскіх тэзісаў. Свет сноў у рамане — гэта не той стан чалавека, які характарызуецца стратай цікавасці да знешняга свету, а душэўнае жыццё ў час сну, якое ацэньваецца як галюцынаторнае здзяйсненне незадаволеных у стане нядрэмнасці (бодрствования) жаданняў (Фрэйд)". "Цудадзейнай магіяй валодалі эратычныя сны: напаўнялі энергіяй, бадзёрасцю, зрушвалі з душы цяжар заклапочанасці, няўпэўненасці, страху..." Скажам, нязвыклая для героя шчырасць. Але ж і герой — незвычайны. Пачынаючы з імені, таксама нязвыклага для вёскі, у якой нарадзіўся. Імя як праграма лёсу чалавека разглядаецца сёння на сумежжы антрапаніміі, *псіхалогіі і філасофіі*, у *прыватнасці*, яго ўласцівасць яднаць разнятыя сферы быцця, яго сутнасць як цэльнага арганізма жыцця чалавека ў іншым жыцці. Імёны вызначаюць тып быцця асобы, яе найбольш адэкватную плоць, бо сама пра сябе духоўная сутнасць асобы выказацца не можа. Сам факт цікавасці да патаемных бакоў чалавечага існавання толькі па форме здаецца наватарскім, але па сутнасці ён традыцыйны ў беларускай літаратуры: Баршчэўскі, Гарэцкі, Колас... "Патаёмнае" ў Рубанава — гэта не проста экзатычны складнік беларускай ментальнасці і нават не проста частка духоўнай культуры нацыі. "Ён не ведаў, у якой форме, але сувязь з небам у зямлі, у кожнага чалавека існуе. І тое праўда, што неба ўплывае на нас. Нашы рухі, словы, міміка фіксуюцца ў сусвеце, у наасферы... Яны як бы высцілаюць нам дарогу ў жыццё". Ірацыянальна-містычны фактар, як бачым, прызнаецца Рубанавым адным з вядучых па ступені ўплыву на лёс чалавека. Але, на шчасце, не выключным. У свой час геніяльны Фрэйд сказаў, што "каханне і праца — вось два стаўпы, на якіх трымаецца наша псіхічная раўнавага і наша здароўе".

А ў пісьменніцкім лёсе гэтая залежнасць яшчэ большая, бо "літаратура — гэта барацьба аднаго з цэлым светам", асабліва жорсткая ва ўмовах Сістэмы. "Пісьменнік — гэта... ступень і глыбіня спачування чалавеку", а сама думка аб гэтым чужая дзяржаве, у якой нават таленавіты чалавек пакладае сябе на элементарнае, на тое, каб выжыць. Талент не фіксуецца ў часе, у гісторыі, у людской памяці. А "дадатак "беларускі" багата кім успрымаецца іранічна, як паблажка, указанне на непаўнавартасць". Чуйкевіч, насуперак усяму, "шчыра нёс, аберагаючы далонямі, свечачку сваёй беларускай самасвядомасці..."

Галоўнае жаданне героя — быць творцам свайго лёсу. Творчасць ёсць сродак вызвалення чалавечага жыцця з застыласці формы. Гэты філасофскі тэзіс належыць віленскаму беларусу Ігнату Канчэўскаму, які ў 1921 годзе пісаў: "Сапраўднай падставай жыцця можа быць толькі творчасць... на кожным кроку: у штодзённай працы, у сямейных адносінах, у грамадзянскім руху. Толькі тады жыццё не будзе сціскаць форма" (эсэ "Адвечным шляхам"). Але паколькі Сістэма прымушае чалавека карыстацца гатовымі формуламі, шаблонамі, то духоўная энергія такіх, як Чуйкевіч, "кіруецца ў вольныя даліны мастацтва". Нельга не пагадзіцца з Рубанавым у тым, што ў чалавека "ёсць два шляхі абессмяроціць сябе — мастацтва і дабрата. І калі першы падуладны нямногім, то другі — усім".

Бясспрэчна агульначалавечая каштоўнасць і такіх катэгорый, як прырода, мова, гісторыя, свабода, шчасце, здароўе, з рознай глыбінёй *даследаваных* у рамане.

Аднак агульначалавечы змест асобных сучасных каштоўнасных паняццяў выклікае навуковую палеміку. Напрыклад, прыватная ўласнасць. Як ні дзіўна, уласнасць і творчасць — два бакі дыялектычнага адзінства. "Трудней кожную часіну тварыць, чым ужываць гатовае, лягчэй здавальняцца зацверджаным прыкладам, чым шукаць адпаведнейшага". Парабкам быць лягчэй, чым гаспадаром. Але прымусам нельга ні абараніць прыватную ўласнасць, ні знішчыць яе. У цывілізаванай дзяржаве вызначальнай павінна быць формула "Закон-Свабода-Багацце, а не "багаты — дрэнны, бедны — добры". Цяжка гаварыць аб чалавечай годнасці, аб духоўнасці там, дзе няма месца адчуванню, што ты жывеш хоць і цяжка, але з працы сваіх рук, на сваёй зямлі. У роздуме над лёсам блізкіх Чуйкевіч прыходзіць да высновы: "*Кожнай жывой істоце* трэба мець штосьці СВАЁ. Гэта СВАЁ адпавядае менавіта ёй, як задумана прыродаю. Чалавека тым больш робіць гаспадаром, ачышчае *ягоную душу толькі ўласнасць. Калі* ёсць што страчваць, абдумаеш сто разоў кожны свой крок". Такая прырода чалавека, і менавіта ў ігнараванні гэтага галоўная памылка Сістэмы. Добрыя пажаданні шчасця для ўсіх на свеце ўвасобіліся ў галечу і беспрасвецце для пераважнай большасці канкрэтных грамадзян.

Адну з праблем, узнятых у рамане, пакуль што не асвятляе ні адзін падручнік філасофіі, а яна, між тым, ужо прэтэндуе на статус глабальнай, прынамсі, на шостай частцы сушы. Гэта — хамства, якое з бытавой з'явы перарасло ў светапогляд: усё мець, нават калі сам нічога не варты. Зневажанне асобы іншага чалавека; прэтэнзіі да іншага пры поўнай адсутнасці патрабавальнасці да сябе. Не "я абавязаны", а "мне абавязаны". Хамы не цярпяць побач тых, хто жыве больш значна, высока, чыста. Яны *імкнуцца сцягнуць такіх людзей уніз, бо* самі ўзняцца да іх узроўню не здольныя. Калі ўсе ў яме, то свайго падзення не заўважаеш. Пісьменніка не можа пакінуць абыякавым тое, што "перабудова дала волю нізкім жывёльным інстынктам. І ад тых, каму гэтыя інстынкты дапамаглі неймаверна хутка ўзбагаціцца, трэба будзе вельмі-вельмі доўга чакаць культуры".

У свой час Адам Мальдзіс у рэцэнзіі на раман У. Караткевіча "Нельга забыць" пісаў: "Я далёкі ад думкі, што раман спадабаецца ўсім. Ён разлічаны на пэўнага, адпаведна падрыхтаванага чытача. Калі мы сцвярджаем, што нашы пісьменнікі павінны быць рознымі, то чаму, будучы лагічнымі, мы апелюем да нейкага стандартызаванага, уніфікаванага чытача? Кожны шукае ў неабсяжным кніжным моры тое, што яму найбольш адпавядае".

Вось, здаецца, і нічога не здарылася на зямлі: проста яшчэ адзін раман знайшоў яшчэ аднаго чытача. А што датычыць філасофскага пачатку ў ім, звярнуся напрыканцы зноў да аўтара: "Не даказаўшы сабе, не даказвай іншым. Даказаўшы сабе — няма сэнсу даказваць іншым".

**Алена БАРАДЗІНА**

# Зоркі далёкія і блізкія

Зайздрошчу людзям, якія, аднойчы займеўшы час, ахвоту і патрэбу душы, ідуць ці едуць у доўгую вандроўку па родным краі. Такім шчасліўцам быў наш слынны беларус Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі. Пра яго жыццёвы і творчы подзвіг напісаў кнігу Уладзімір Касько.

Я даўно ведаю аўтара як журналіста, рэдактара, літаратара. Некалькі гадоў ён рупліва вывучаў спадчыну Сержпутоўскага. Першыя свае адкрыцці і захапленні этнографам і фальклярыстам надрукаваў у часопісах "Народная асвета", "Беларусь", "Весці АН БССР", "Маладосць", "Работніца і сялянка", у газетах "Чырвоная змена", "Голас Радзімы", "Настаўніцкай газеце". І вось кніга.

Аўтар раскрывае чытачам каларытную, шматграневую постаць знакамітага чалавека. Мне думаецца, сучасныя настаўнікі і выхавацелі нашых дзяцей павінны спаўна выкарыстаць у *сваёй працы вобраз* А. Сержпутоўскага. Ён нарадзіўся на Случчыне ў мінулым стагоддзі, яго талент раскрыўся ў нашым, дваццатым, а зробленае вучоным, веру, увойдзе ў залатую скарбонку нашых далёкіх нашчадкаў. Вось чым найперш прываблівае да сябе герой кнігі Уладзіміра Касько.

Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі А. Сержпутоўскі настаўнічаў у Мазырскім і Слуцкім паветах. Гэта было напрыканцы стагоддзя. Беларусь тады ўваходзіла асобнымі губернямі ў склад Расіі, але прачыналася ўжо нацыянальная свядомасць беларускага народа, прынамсі — лепшых яго сыноў.

Далёка наперад зазіраў і Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі. Закончыўшы Пецярбургскі археалагічны інстытут, працуючы ў Рускім музеі, ён шмат зрабіў, каб сабраць і ўвекавечыць этнаграфічнае і фальклорнае багацце беларусаў.

У. Касько, які вывучаў свайго героя па архівах і рукапісных зборніках, захоплена расказвае, як А. Сержпутоўскі збіраў матэрыял і пісаў "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў", "Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета", "Земляробчыя прылады Беларускага Палесся", "Беларускія песні"...

Усе мы чулі прымаўку "На свеце ўсяго нажывеш, і Кузьму бацькам назавеш". У. Касько падкрэслівае: "Мала хто ведае, што набыла яна крылы з лёгкай рукі А. Сержпутоўскага, які запісаў казку "Кузьма" ад вядомага беларускага казачніка Івана Азёмшы". Жонка і сын доўга зневажалі селяніна Кузьму. Найбольш крыўдзіла тое, што сын ніколі не называў яго бацькам. Аднойчы зімою везлі яны з балота сена. Воз, на якім ехаў сын, перакуліўся і падмяў пад сябе хлопца. "Кузьма, — крычыць сын, — падымі воз, а то жыў не буду". Маўчыць бацька, курыць люльку. Урэшце сын узмаліўся: "Бацька, падымі воз". Рады мужык, што першы раз у жыцці сын назваў яго бацькам, выручыў таго. Так і з'явілася прымаўка.

У гэтай казцы закладзена глыбінная народная мудрасць: ніколі не цурайся свайго, роднага, якое б яно ні было, і гэта дапаможа табе заўжды быць паважаным чалавекам. Гэтаму вучыць і жыццёвы прыклад А. Сержпутоўскага. З далёкага Пецярбурга ён умеў бачыць і шанаваць мілую беларускую зямельку. Ездзіў туды ў экспедыцыю, запісваў гаворкі, казкі, песні. Цяпер усё гэта — здабыткі нашай духоўнай спадчыны.

У сваёй кнізе Уладзімір Касько пераказвае некаторыя казкі, павер'і, заняткі, святы, сабраныя вучоным. Вельмі важна падтрымаць слушную думку аўтара: сабраць і перавыдаць спадчыну нашага слыннага земляка. Калі ўлічыць, што некаторыя яго зборнікі існуюць толькі ў рукапісах, то гэта святая справа ўсіх рупліўцаў нацыянальнай культуры.

І яшчэ адно шчымлівае жаданне ўзнікае, калі чытаеш кнігу "Святло далёкай зоркі". Хочацца прайсці сцежкамі А. Сержпутоўскага, пабываць у вёсках, сустрэцца з людзьмі, родзічамі тых, ад каго запісваў ён народную мудрасць. Якія цяпер гэта мясціны, якія там жывуць людзі, што ведаюць пра продкаў, як захоўваюць пра іх памяць, які ўнеслі ўклад у фальклорную спадчыну?

Па-добраму можна парадавацца за аўтара кнігі: ён меў магчымасць з'ездзіць у вёску Чудзін, дзе некалі бываў А. Сержпутоўскі. Тут ён сустракаўся са 103-гадовай Аўдоццяй Сцяпанаўнай Захарчэняй, запісаў ад яе песні, казкі. Уладзімір Касько сваім прыкладам *даводзіць, што мы павінны шукаць* старых мудрацоў, пераймаць ад іх усё лепшае і перадаваць, як нязгасную паходню, будучым пакаленням беларусаў. Толькі так можна не толькі захаваць спадчыннасць, але і ўзбагаціць яе, трымаць на высокаінтэлектуальным, еўрапейскім узроўні.

Як правільна адзначаў даследчык, народная творчасць нагадвае сабой рэчку. Яна можа абмялець у сухі год, застыць у марозную сцюжу, але пойдуць дажджы, прыгрэе сонца, і рака зноў панясе наперад свае воды, бо поўніцца яна сотнямі ручайкоў, крыніц, якім наканавана вечнасць.

**Уладзімір ЛІПСКІ**

*У. Касько. Святло далёкай зоркі. Мн., "Універсітэцкае", 1997.*

## Невядомы здымак Янкі Лучыны

змешчаны ў шостым нумары часопіса "Роднае слова". Як сведчыць У. Мархель, "ён быў здабыты з забыцця стараннямі дзвюх руплівіц — дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганны Запартыкі і старшага навуковага супрацоўніка Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі Надзеі Саўчанкі. Зберажоны ў архіве Беларускага музея імя Івана Луцкевіча, гэты фотаздымак вярнуў нам выяву паэта якраз напярэдадні яго скону 28 ліпеня 1897 г."

А адкрываецца нумар творчым партрэтам Т. Бондар "Паэзія — занятак для мужных", напісаным М. Тычынам. Гаворка ідзе пра Т. Бондар як пра паэтэсу і празаіка, а ўяўленне пра яе паэтычны талент дапаўняецца вершамі, апублікаванымі тут жа. Прадстаўлена таксама паэтычная спадчына Я. Лучыны.

Змешчаны заканчэнне разваг М. Мішчанчука пра творчасць А. Сербантовіча "Недапетая песня" і некалькі вершаў гэтага паэта, артыкулы В. Рагойшы "Каб жыць у эпохах" ("Назваслоўе" Максіма Гарэцкага), С. Мухамор "Індывідуальна-аўтарскія сінонімы ў апавяданнях Івана Пташнікава", М. Яніцкай "Разрабаваныя скарбы Нясвіжскага замка", М. Шавыркінай "Нясвіжскі тэатр Францішка Уршуля Радзівіл", Э. Зайкоўскага "Старажытныя Багі Беларусі", заканчэнне артыкулаў М. Верціхоўскай і В. Цялковай "Зрячий посох, або Спроба прачытаць Ядвігіна Ш.", Л. Баршчэўскага "Ёган Вольфганг Гётэ", працяг артыкула Т. Шамякінай "Культура Індыі".

У "Анталогіі беларускага раманса" В. Брылон і В. Скарабагатаў прадстаўляюць кампазітара Я. Прохарава. М. Шавыркін адкрывае рубрыку "Род блізкі і далёкі". Першыя публікацыі ў ёй — "З гісторыі беларускай сям'і" Л. Ракавай і А. Фядосіка "Беларускае вяселле — своеасаблівая народная опера". Да 30-годдзя філіяла музея Я. Коласа на яго радзіме — слова А. Зернічэнкі "Захавальнікі памяці". С. Харэвіч знаёміць з кампазітарам М. Сацурам ("Дарога сутнасці маёй..."), М. Скобла — з паэтэсай А. Гінько, а Я. Саламевіч — з працягам "Календара знамянальных дат і падзей на 1997 год".

## Чарговы нумар

інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі "Кантакты і дыялогі" пазначаны чэрвенем. У ім найперш прыцягвае ўвагу раздзел "Беларускае замежжа", якім нумар і адкрываецца. Змешчаны артыкулы Я. Запрудніка "Беларускія мастакі на чужыне — вяшчальнікі Бацькаўшчыны", Г. Пікарды "Музычнае жыццё беларускай эміграцыі", С. Кошур "Матэрыялы пра Пятра Конюха ў нашым музеі" (у Карэлічах). Прапануюцца чарговыя старонкі будучага слоўніка "Беларускае замежжа" — С. Сачанка знаёміць з Р. Жук-Грышкевіч і З. Кіпель. Прадстаўлены раздзелы "Страты і іх вяртанне", "Беларускае таварыства дружбы ў дзеянні", "Рэцэнзуем кнігі", "Супольныя юбілеі", "З рэдакцыйнай пошты", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця".

## За першай — другая

Не так даўно Людміла Корань стала аўтарам першай кнігі літаратурна-крытычных артыкулаў "Цукровы пеўнік", выпушчанай выдавецтвам "Мастацкая літаратура". У ёй малады крытык не абыходзіць увагай творчасць класікаў нашай літаратуры Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, але шмат піша і пра тых, хто сёння годна працягвае літаратурную эстафету, узяўшы яе з рук папярэднікаў. Прынамсі, у полі зроку аўтара творчасць Л. Дранько-Майсюка, П. Васючэнкі, А. Глобуса і іншых. Л. Корань — цяпер яна выступае пад прозвішчам Людміла Сінькова — адзін з найболып актыўных сучасных беларускіх крытыкаў. Пацвярджэнне таму і яшчэ адна яе кніга "Беларуская проза XX стагоддзя: дынаміка жанравых структур", якая пабачыла свет дзякуючы ВПП "Новік".

ПАЭЗІЯ

Генадзь БУРАЎКІН



# З кнігі "Паміж зоркай і свечкай"

●

*Скажуць,*
*Гэткае немагчыма,*
*Ды чаго не бывае ў жыцці —*
*Я шукаў на Радзіме Радзіму*
*І не мог яе доўга знайсці.*

*Быццам чорная хмара навісла*
*Над працягам палеткаў і траў,*
*Быццам нехта, чужы, ненавісны,*
*Ад мяне маё шчасце схаваў.*

*Колькі я ні ўглядаўся ва ўзлессі,*
*Як ні слухаў дыханне начэй,*
*Не хапала матулінай песні,*
*Не хапала вясёлых вачэй.*

*З бларускаю крыўдай адвечнай*
*Я спытаўся ў азёр і дуброў,*
*Што ж за час,*
*Што так душы знявечыў,*
*Што ж за лёс,*
*Што так край абакраў?*

*І ў адказ, як апошняе слова,*
*Мне шапнуў мой знядужаны кут:*
*— Ты ў сябе запытайся сурова,*
*Ты сабе абвясці свой прысуд...*

●

*Заклікаюць,*
*Лаюць,*
*Аспрэчваюць,*
*Просяць літасці і дабрыні...*
*Колькі смешнага і недарэчнага*
*У чыноўніцкай мітусні!*

*Надакучылі, надакучылі*
*Вечны лямант*
*І вечны грук.*
*Аблачына плыве над кручаю.*
*Каля сонца трымціць жаўрук.*

*Іх ніхто не гняце,*
*Не развенчвае,*
*Не зганяе ў агульны гурт.*
*І жыццё ў іх,*
*Як неба,*
*Адвечнае,*
*Як адвечны іх родны кут.*

*Іх звысоку ніхто не накручвае,*
*Не гразіцца сагнуць у крук...*
*І плыве аблачынка над кручаю.*
*І ля сонца трымціць жаўрук...*

●

*Там — правалы,*
*А тут — прагалы*
*Ці зусім ніякіх слядоў.*
*Колькі коней ні запрагаю,*
*Не дагнаць маладых гадоў.*

*Не дагнаць,*
*Не вярнуць,*
*Не акліктнуць,*
*Грыву цёплую не ўхапіць —*
*Паўз бальшак пралятаюць без ліку,*
*Толькі збоку мільгаюць слупы.*

*Эх вы, коні мае буланыя,*
*Падкаваныя капыты!*
*Праімчыце міма каханай*
*Праз калінавыя масты.*

*І спыніцеся ля крыніцы,*
*Апусціце ў траву павады.*
*Нам даўно ўжо трэба напіцца*
*Гэтай чыстай жывой вады.*

*Мы пранесліся гулкім алюрам*
*Праз такія брады і шляхі,*
*Што і Богам, суровым і хмурым,*
*Дараваны ўсе нашы грахі.*

*Не бяда, што гадоў не дагонім —*
*Кліча вецер з далёкай вярсты.*
*І яшчэ не распрэжаны коні.*
*І яшчэ не струхлелі масты...*

●

*Нехта — з пекла,*
*А нехта — з раю —*
*Голас мне сябры падаюць...*
*Нешта рана сябры паміраюць.*
*А вось ворагі*
*Доўга жывуць,*
*Абмінаюць судовую лаву*
*І шалеюць ад п'яных піроў,*
*І крадуць*
*Пасмяротную славу*
*У маіх нешчаслівых сяброў.*

*Смерць і праўда бяздушна-сляпая,*
*Калі ўсіх іх раўняе ў цане.*
*А сяброў маіх так не хапае*
*І зямлі беларускай,*
*І мне...*

*Я крыві не хачу,*
*Вы паверце,*
*І граху не вазьму на душу.*
*Не прашу я для ворагаў смерці —*
*Для сяброў даўгалецця прашу.*

●

*Прагульваецца ў небе летні гром,*
*Пабурквае лянíва і пагрозна.*
*І рэдкі дождж з высокіх боскіх стром*
*Няспешна кроплі сыпле на бярозы.*

*Ён шчодра ласку ўсю сваю раздаў:*
*Павесялелі мальвы каля хаты,*
*І цягнуць дзюбкі жоўтыя з гнязда*
*Няўцямныя малыя птушаняты.*

*З лістоў сцякае ўніз ліпучы пыл,*
*У прахалодзе мыецца бяроста...*
*Усё так светла,*
*Хораша*
*І проста —*
*Гарачы дзень*
*І чысты дождж сляпы.*

## Слімак

ІРАНІЧНАЯ ІДЫЛІЯ

*Ля гарода*
*Ляжыць калода.*
*На калодзе сядзіць слімак.*
*Для гарода*
*І для народа*
*Ён не робіць шкоду ніяк.*

*Сонны трошкі,*
*Ён грэе рожкі.*
*Не збіраецца саслізгнуць.*
*Богам створан —*
*Ніякі воран*
*Не павінен яго праглынуць.*

*А вакол —*
*Цішыня і згода,*
*Як суладдзя набесны знак.*
*Ля гарода*
*Ляжыць калода.*
*На калодзе сядзіць слімак...*

●

*З усмешкай сумнай*
*Па вясне*
*Праводжу позіркам дзяўчатак,*
*Што,*
*Як касуль пудлівых статак,*
*Бягуць імкліва паўз мяне.*

*Майму пахіламу плячу*
*Плячо дзяўчына не падставіць.*
*Я страціў даўнія падставы*
*Аклікнуць тых,*
*Каго хачу.*

*Цяпер я,*
*Нібы папскі нунцый*
*Ці нават сам суровы Бог,*
*Адно, што маю, —*
*Азірнуцца*
*І ціха адысціся ўбок.*

*Ну што —*
*Дажыўся, галубок?..*

Ніна АКСЁНЧЫК



## Іронія жыцця

*Каб цябе ушанавалі ў Беларусі,*
*Не будзь паэтам, мастаком,*
*Вучоным.*
*Стань начальнікам*
*Хоць самае маленькае канторы.*
*І табе заўсміхаюцца усе*
*Так прыязна і лісліва.*
*Заслужыш ты пашану,*
*Павагу, ды усякія узнагароды,*
*Званні.*
*А пасля смерці —*
*Найлепшае месца на кладах.*

## Буслы

*У кучарах дуба, пад засенню неба,*
*Буслянку любоўю звязалі буслы.*
*І большага шчасця на свеце не трэба,*
*Калі тую песню пачуе твой слых.*

*Калі над табою так горда і светла*
*Праменяцца белыя крылы любві —*
*І неба яснее, і сонцу прыветна.*
*І радасна кожнай быцінцы зямлі.*

*Таму гэтак чыста зямля мая вечна —*
*Бо душы святлеюць на золаку дня,*
*Калі берагуць цеплынёю сардэчнай*
*Той міг, як спрабуе крыло*
*Бусляня.*

## Па сняжку, па ільду

*Па сняжку, па ільду —*
*Па каханаму следу*
*Да цябе я прыйду.*
*Да цябе я прыеду.*

*А з далёкіх краёў*
*Прылячу вестуніцай*
*У акенца тваё*
*Закалелай сініцай.*

*Як цапла не знайду*
*Ля святога агменю —*
*Я да шкла прыпаду*
*Тваім змучаным ценем.*

*Пазбіраю з вачэй*
*Парушынкі-сняжынкі.*
*Можа, стане лягчэй*
*Сэрцу хоць на хвілінку.*

*Па сняжку, па ільду —*
*Па каханаму следу*
*Да цябе я прыйду.*
*Да цябе я прыеду.*

●

*Лес сухі*
*Не знае лета.*
*Не заплача аб ім восень.*
*Лес сухі*
*Ніколі болей*
*Не сасніць сваёй вясны.*
*...Снегу шчодрасцю сагрэты,*
*Ён — нібы з крыштальных кросен.*
*І вятры, пачуўшы волю,*
*Для яго пяюць адны.*

## Слова маё

*Слова маё спавядальнае,*
*Болей не плач, не тужы.*
*Ніткай жывой-спавівальнаю*
*Раны мае завяжы.*
*Між глухімі, што д'яблам узятыя,*
*Кроў твая — быццам бы ртуць.*
*За нашчадкаў, што продкамі клятыя,*
*Ты малітваю, Слова, будзь.*

Сяргей ДАВІДОВІЧ



# "Рака майго жыцця цячэ!"

## Надыдзе час

*Настане год, надыдзе час,*
*Сумненні зніткнуць, нібы цені —*
*І прыйдуць лепшыя за нас*
*Адроджаныя пакаленні.*

*І стануць сэрцам успрымаць*
*Да Беларусі прыналежнасць,*
*І будуць, нібы сцяг, трымаць*
*Высока, годна — незалежнасць.*

*І стане нацыяй народ,*
*Адкіне прыкрасць — "іншаверцы".*
*Надыдзе час, настане год*
*І адзавецца ў кожным сэрцы.*

## Люблю цябе, мой родны край

*Люблю цябе, мой родны край,*
*Такім, як ёсць.*
*Твой сум і гора цераз край,*
*І прыгажосць.*

*Люблю цябе, мой родны край,*
*Хоць цэзій гне.*
*Не адцвітай, не адмірай —*
*Усё міне.*

*Люблю цябе, мой родны край —*
*Неа-Садом...*
*Магчыма, за мяжою рай,*
*А тут — мой дом.*

## Пайтарэнне

*Як хутка набірае час разбег,*
*Узростам нас бязлітасна палоніць.*
*Як позна разумнее чалавек —*
*Памылак назбірае, "дроў наломіць".*

*І вось ужо — напярэдзе зіма,*
*І крылы абнасіліся ў падкрылкі.*
*Хоць розум ёсць — магчымасці няма*
*Павыпраўляць мінулыя памылкі.*

*І крыўдай перакошваецца рот*
*За лепшы час, патрачаны бязбожна.*
*І з п'едэстала пасівелых год*
*У маладосць глядзіш бездапаможна.*

*Юнак, юнак! Балюча за цябе.*
*Ты — парастак, а думаеш — асілак...*
*Зноў маладосць у той жа бок грабе,*
*Як грэблі мы — да берага памылак.*

## Дзівак

*Чаму так сумна на душы,*
*А сэрца з болем — спарышы?*
*Няўжо таму, што жыў сумленна?*
*Дзівак!.. А гэта, кажуць, дрэнна...*

*Я бедны быў усё жыццё,*
*Насіў з маленства лахманцё.*
*Ссівеў — ні вопраткі, ні хлеба.*
*Дзівак!.. А кажуць — красці трэба...*

*Папрацаваў, пагараваў,*
*Здароўе ніштчыў, жылы рваў,*
*Круціўся, як вавёрка ў коле.*
*Дзівак!.. Насып на хвост ІМ солі...*

## Судны дзень

*Выток жыцця... Зародкавасць, радзіны...*
*І вось рака майго жыцця цячэ!*
*Мой судны дзень і судная гадзіна*
*Нябачныя — наперадзе яшчэ.*

*Жыву-брыду... То плённа, то марудна,*
*То мары ў сэрцы, то падзей асцё...*
*Знянацку, раптам дзень прыходзіць судны,*
*Бо, як маланка, суднае жыццё.*

## Стол

*Ах, мой стол, драўляны стол,*
*Стол мой самаробны.*
*І цябе знявечыў дол —*
*Стаў ты, стол, жалобны.*

*За табой сядзелі ўсе,*
*З намі — мама, тата...*
*Ведаў я, што прынясе*
*Лёс жалобу ў хату.*

*Але думкі тыя гнаў,*
*Зберагаў пяшчоту...*
*Час настаў, і я спазнаў*
*Страту, адзіноту.*

*Да мінулага — сцяжа,*
*Стол не ў радасць болей.*
*Чарку п'ю, але яна*
*Горкая ад болю.*

## Боская кара

*Калі на брата брат падняўся*
*І сын над бацькам нож занёс,*
*Падумаў Ісус Хрыстос:*
*— Няўжо я ў людзях памыляўся?..*

*І той, хто нёс любоў скрозь мукі*
*З глыбінь вякоў, скрозь доўгі час,*
*Відаць, расчараваўся ў нас,*
*Адвёў ад блаславлення рукі*
*І пакараў — пакінуў нас...*

## Хачу пакінуць на зямлі

*Пра ўсё — як цяжка мы жылі*
*Сярод смугі,*
*Хачу пакінуць на зямлі*
*Радок-другі.*

*Пра наш такі няўдалы ўзлёт,*
*Зламаны лёс,*
*Пра крык душы, пра сцяты рот,*
*Пра плач без слёз.*

*Як абудзіць мы не змаглі*
*Свае мазгі...*
*Хачу пакінуць на зямлі*
*Радок-другі.*

## Спазніўся я...

*Спазніўся я... Спазніўся нарадзіцца,*
*Але ад лёсу не ўцячы свайго.*
*І мушу жыць, дакладней — мітусіцца,*
*Усё жыццё гадаць: што — да чаго?*

*І не таму, што беднасць вочы коліць —*
*Было бядней і галадней было.*
*Страшней другое — боль душу няволіць,*
*Душу, з якой даўно сышло святло.*

*І новы час, "даляравых" спакусаў,*
*Па-новаму зацягвае гужы.*
*Я — лішні сярод "новых беларусаў",*
*Я — сёння непатрэбны і чужы.*

*Сумленна жыў, а кажуць, што няўмела,*
*Ды не жадаю погляды мяняць,*
*Бо тое, што вакол, — незразумела,*
*А зразумею — не магу прыняць.*

## Прыцягненне

*Я ў Акопы вяртаюся зноў*
*Пасядзець на знаёмым пагорку.*
*Сярод даўніх знаёмых — дубоў*
*Дыхаць водарам траў-дываной,*
*Ад якога салодка і горка.*

*Я Акопы люблю і таму,*
*Што да іх прытуляўся Купала,*
*Што яны, як калісьці яму,*
*Падарылі і сэрцу майму*
*Дабрыні і пяшчоты не мала.*

*Я свае расхінаю гады,*
*Адхінаю амаль паўстагоддзе...*
*Я з Карпілаўкі бегаў сюды*
*Не натхняцца, а так — ад нуды,*
*Аддаваўся дзіцячай прыгодзе.*

*І юнацтва калі-нікалі*
*Тут спяліла душы летуценне.*
*Ногі самі ў Акопы вялі —*
*Ёсць жа нейкая ў гэтай зямлі*
*Таямніца часоў — прыцягненне.*

ПРОЗА

Вячаслаў ЛАПЦІК



# ДУРНЕНЬКІ

АБРАЗОК

Урок падыходзіў да канца. Лёнік Цяляк толькі рабіў выгляд, што слухае настаўніцу ўважліва, але, калі гаварыць шчыра, то амаль нічога не чуў. Бо Рагнеда Уладзіславаўна, настаўніца гісторыі, нядаўна яго выклікала, ён расказаў пра абрады ахвярапрынашэння, што захаваліся і ў наш час, атрымаў "пяцёрку", і пасля сядзець стала зусім не цікава. Таму ён цішком пагляда ў у акно на высокія каштаны, якія за лета не тое што выцягнуліся, выраслі, а неяк патаўсцелі, быццам лісты ўзялі і пакруглелі.

У жываце бурчэла: хацелася есці. Пасля лета цяжка прывыкалася да высідкі на ўроках. Раніцой ён ухапіў са стала кавалак хлеба, пасыпаў злёгку цукрам, з'еў, запіваючы халоднаю вадою. Цяпер стала моташна, у жываце быццам пераліваліся бурбалкі і было нават сорамна. Пералівы гэтыя, можа, і не пачуюць Вадзім са Святланай, што сядзяць на парце справа, а вось суседцы Іне Голік, што сядзіць каля яго, усё чутна. Яна ж дзяўчынка, тым больш — падабаецца яму. Таму хацелася, каб гаварылі на ўроку без перапынку, не заціхаючы, бо тады гэтага дурнога бурчэння нікому не будзе чуваць. Калі ў класе ціха і ў жываце забурболіць, Лёнік пачынае кашляць, аж перхае, быццам яго сапраўды ледзь не душыць коклюш.

Рагнеда Уладзіславаўна ў такія моманты ўважліва глядае на яго, але нічога не гаворыць. Класная ў іх заўсёды такая памяркоўная і шляхетная, яе вытрымка часта здзіўляе пяцікласнікаў і прымушае паважаць. Нездарма таты і мамы, пра што ведае ўся школа, у канцы лета ходзяць да дырэктара і просяць, каб дзіця аддалі ў яе клас.

Вось і зараз настаўніца паглядзела на гадзіннік, што вісіць над дзвярыма, і сказала:

— Дастаньце "зсабойкі", паешце. На сталовую грошы аддалі толькі пяцёра чалавек.

Лёнік чакаў такой прапановы: хоць у жываце перастане бурчэць. Хацеў залезці ў ранец, падняў галаву і ўбачыў, што многія прыціхлі, нават насцярожыліся. Паглядзелі адзін на аднаго, пасля на настаўніцу, і нейкі сорам жыў у іх вачах. Мацалі рукамі свае "зсабойкі", пасля краем вока паглядалі на суседзяў. Відаць, кожнага цікавіла, што іншыя выцягнулі на парты, што яны ядуць... І саромеліся выцягнуць свой хатулёк. Толькі некалькі чалавек заслалі на партах газеты, якія ўзялі з дому, і спакойна выцягнулі харчы.

Яны — "далярнікі". Так у класе празвалі хлопчыкаў і дзяўчынак, бацькі якіх працавалі ў нейкіх камерцыйных альбо сумесных прадпрыемствах і атрымлівалі долары. Праўда, не толькі долары, можа, і рублі, галоўнае, што добра зараблялі. Тыя школьнікі цяпер пачалі выдзяляцца здалёку: хадзілі модна апранутымі, ва ўсялякіх яркіх і разнаколерных джынсах і красоўках, прывезеных адтуль, з Еўропы, і мелі ў кішэні долары. Няхай не дзесяць або дваццаць долараў, але нейкіх пяць долараў насілі з сабой, і гэтыя замежныя паперкі заўсёды паказвалі аднакласнікам. Яны адчувалі сябе файнейшымі, разумнейшымі, настаўнікі таксама адносіліся да іх быццам з нейкай асцярожлівай павагай. Астатнія дзеці на фоне "далярнікаў" адчувалі сябе ў нейкай ступені горшымі.

Запахла дарагой вэнджанай кілбасой. У Гены Зініна ляжалі два сакавітыя бананы, бутэрброды з тоўстымі кавалачкамі кілбасы. Ён нават прывалок з сабою тэрмас з каваю. З той кавай, пра якую маці Лёніка гаварыла: "Не прывыкай ты да гэтага паскудства: яно такое дарагое! Разумееш, сынок, некаторыя атрымліваюць дзвесце тысяч у месяц, столькі заплаці і за кіло "майкопскай" кілбасы. Значыць, купіш кілаграм такой кілбасы і шклянку кавы ў месяц. Улады палічылі, што смачна есці нам нельга".

Самы высокі хлопчык у класе Яраслаў Валец зацмокаў языком:

— Лёнік, хочаш — пачастую? Валяй сюды, кілбаса — ого-го! Пальчыкі абліжаш!

— Не трэба, ёсць у мяне.

— У цябе вараная. У нас дома такую нават кіса Вірка не нюхае.

Лёнік увесь як сцяўся. Стала проста сорамна. Адчуў сябе быццам горшым за Яраслава, хоць і вучыўся лепш. Ён уціснуўся ў парту і ўпотайкі глядзеў на Рагнеду Уладзіславаўну. Тая сядзела за сталом і глядала на свой клас. І хлопчык са здзіўленнем заўважыў на яе твары нейкую віну. Прынамсі, так Лёніку зараз падалося.

Пяцікласнікі елі, хто што меў. За выключэннем некалькіх чалавек, ніхто "зсабойкі" на парты не выкладаў. Большасць дзяцей зацiснула ў кулачках бутэрброды з кавалачкамі таннай кілбасы ці сала і моўчкі жавала. Выдатніца Таня Шпакевіч, быццам баючыся, пару разоў адкусіць са свайго бутэрброда і хавае яго назад у ранец. З'есць адкусанае — зноў выцягне свой бутэрброд, прыхаваны ў далоньках абедзвюх рук, каб не паказваць, грызне збоку і зноў хавае. Відаць, на скібачку батона пакладзены кавалачак занадта таннай кілбасы. Прынамсі, так думаў Лёнік. Вольга Шонік мела батон з цукеркай, і гэты харч увесь час хавала ў кішэню фартуха. Ёй баяцца не было чаго, бо фартух насіла зусім стары, які застаўся ад сястры. Ала Міхевіч крышыла на сурвэтцы нейкі крэндзель. Адкусіць — і рукі пад парту, сядзіць і моўчкі жуе, апусціўшы вочы, быццам нікога не хоча ні бачыць, ні чуць. Мішка Дзювала, які заўсёды хацеў нечым выдзеліцца, абедаў па-свойму: адкрые вечка парты, выцягне нешта, засуне ў рот, зноў закрые вечка і рукі — на парту. Сядзіць, быццам на ўроку ўважліва слухае настаўніцу.

Лёнік не хаваўся. Ім авалодала нейкая смеласць. Можа, ад таго, што ў жываце ўсё гудзела, есці так хацелася, што было аж млосна, нават кружылася галава. Як і тыя "далярнікі", разаслаў газету на парце, выняў яду — два кавалачкі хлеба з лустачкай сала і тры невялікія яблыкі. Адчуваў, што прынесены ім абед усе разглядаюць.

Класная паднялася з-за стала і пайшла да акна. Дастала з кішэні насоўку і доўга ў яе смаркалася. Дзіўна, падумаў Лёнік, непадобна, каб яна прастыла.

І вось тут хлопчык упершыню падумаў: "Навошта паказваю ўсім сваю яду? Дало ж мне дурное ў галаву, каб выцягнуць яе наверх"... Але ён лічыўся хлопчыкам смелым і вырашыў трымацца да канца. Праўда, тры дні назад, якраз на другі дзень заняткаў, ён моцна разгубіўся. У абед большая частка аднакласнікаў пайшла ў школьную сталовую, а ў яго была з сабой такая мізэрная "зсабойка", што засаромеўся яе паказваць. У сталовай дзеці елі, а ён хадзіў між сталамі, глядзеў на ўсіх галоднымі вачыма і ўсім гаварыў, што абедаць не хоча, зранку наеўся як той павук, аж трашчыць жывот, а сам ад голаду толькі глытаў сліну.

— Мама, мне такое есці не дазваляе, — разглядаючы абед Лёніка, на ўвесь клас заявіў Яраслаў. — Што можа думаць галоднае дзіця? І як тут пражывеш?

— Нічога, я сілач. Мой прадзед быў бедняком, а пражыў сто пяць гадоў, дзед памёр у дзвяноста восем. Жыць буду сто гадоў.

Рагнеда Уладзіславаўна выйшла з класа.

Калі дзеці канчалі абедаць, настаўніца вярнулася. Ціха запытала:

— Ну што, перакусілі? Тады рыхтуемся да наступнага ўрока. Толькі, мае любімыя дзеткі, давайце дамовімся, што больш на маім уроку "зсабойкі" есці не будзем. Лепш на перапынку.

Падышла да Лёніка:

— Перакусіў, дурненькі?

Што ёй сказаць?

І тады яна, гледзячы ў акно, каля якога нядаўна стаяла, пагладзіла яго па галаве:

— Мой ганарлівы дурненькі жабрачок...

Толькі чаму сказала яна гэта з такім сумам?

І чаму — дурненькі?

## Свая сцяжына



**У творчым росквіце сіл адзначае сваё 50-годдзе вядомы беларускі мастак, выкладчык Беларускай акадэміі мастацтваў Уладзімір Васюк. Творчасць мастака шматгранная і поліфанічная — ён плённа працуе ў галіне плаката, станковай графікі і афармлення кнігі.**

**Сярод твораў у галіне плаката стала ўжо хрэстаматыйнай серыя плакатаў, прысвечаная падзвіжнікам духу і асветнікам: "Еўфрасіння Полацкая", "Сімяон Полацкі", "Мікола Гусоўскі", "Пётр Мсціславец", "Кірыла Тураўскі" і інш.**

**На шматлікіх выставах заўсёды прыцягваюць увагу графічныя творы аўтара, напоўненыя глыбокім філасофскім зместам, мастацкай дасканаласцю і завершанасцю. Сярод іх можна вылучыць нізку з 12 аркушаў "Прывіды маёй маленькай Радзімы", дзе мастак раскрывае родныя краявіды, напоўненыя прыгажосцю, уздымае праблему экалогіі бацькоўскай зямлі, яе духоўнага адраджэння.**

**Як мастак афармлення кнігі, Уладзімір Васюк таксама сказаў сваё яркае мастакоўскае слова — ён з'яўляецца аўтарам вядомых па выяўленчым мастацтве альбомаў, каталогаў, выкананых з высокім эстэтычным густам. Яны атрымалі прэстыжныя прэміі і дыпломы.**

**Нягледзячы на складанасці часу, жыццё Уладзіміра Васюка напоўнена шматлікімі творчымі задумамі і планамі, і найперш клопат — падрыхтоўка ў гэтым годзе да персанальнай выставы, якая для кожнага мастака з'яўляецца пэўным вынікам пройдзенага творчага шляху і асэнсавання яго праз свае творы.**

**Мастак Уладзімір Васюк знайшоў сваю сцяжыну ў мастацтве і ідзе па ёй упэўненай хадой, аб чым сведчаць творы аўтара.**

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ,**
**мастацтвазнаўца**

## Захапляецца карамікай



**Алена Гаўрык пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута прыйшла працаваць у Лідскую школу з архітэктурна-мастацкім ухілам. Ужо сем гадоў выкладае яна тут малюнак, жывапіс, лепку. А яшчэ захапляецца керамікай. Яе ўпрыгожанні, шкатулкі, дэкаратыўныя пласты выкананы прыгожа, з найтонкімі дэталямі і вылучаюцца добрым густам. Мініяцюрныя фігуркі жывёл, вылепленыя ў асаблівай манеры, жывуць нібы сваім асаблівым жыццём. У іх адзенні, паставах, манернасці чытаюцца характары. І гэта выклікае добрую ўсмешку.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

*На здымку: караміст Алена Гаўрык.*

ТЭАТР

***...Ён быў бы шчаслівы пустэльнаю чорнаю сцэнічнаю прастораю ды выдатнай светатэхнікаю, каб здольнасць кожнага відавочнаю была, — ён, рэжысёр Гарадзенскай абласной драмы Генадзь МУШПЕРТ. Галоўны рэжысёр. Праўда, апошняе ўдакладненне якраз — зусім не галоўнае.***

***Прастора сцэнічная ў яго, увогуле, ёсць, але ёй бракуе тэхнічнай дасканаласці, — як, зрэшты, і ўсяму, што гэтую прастору вызначае. Затое тым, хто сам вызначаецца ў ёй (а сваім вызначэннем, бывае, яе дасканаліць), — спадарам артыстам, — з рэжысёрам Мушпертам можна гуляць дасхочу. Ён відавочна не прагне кідкасці мізансцэны або вырашэння спектакля ўвогуле: ён спрыяе кідкасці, неадназначнасці, разнастасці акцёрскіх выяўленняў. Тры спектаклі ў рэжысуры Генадзя Мушперта вызначылі гастролі гарадзенцаў у Мінску: поўную залу. Акцёрскі гумор. Кураж. Лёгкасць надзвычайную ў выкананні (калі індывідуальнае акцёрскае майстэрства распускаецца ў ролях да празрыстасці, да пераканаўчасці, да паразумення з залаю, з партнёрам, з літаратурай, з нязвыклым — гастролі! — асяродкам).***

# "Ды літаральна прайсці з акцёрам..."

Са спектаклем Генадзя Мушперта "Камедыя..." У. Рудава паводле Марашэўскага ды Аляхновіча (у мінчукоў навідавоку выбітны спектакль у рэжысуры А. Андросіка) звязаны рэдкі выпадак выпрабавання майго ўласнага прафесійнага майстэрства: не здужала напісаць ні радка. Памятаю спектакль плямамі, адценнямі, перацякannямі, гукамі, рытмамі; памятаю, як кранальна Дзёмка й Маланка сядзелі на ложку, Маланка — у споднай кашулі ды ў шкарпэтачках; як збіраўся ў пекла Жыд, здымаючы апраткі ды выварочваючы кішэні — спадчыну дзеткам пакідаючы... Але не памятаю спектакля абсалютна. Да такой ступені ён "усмактаўся", "распусціўся" па маіх клетках, што падзяліцца ўражаннямі з чытачом не стала моцы...

Мне, адкрываючы рэжысёрскую самавітасць Мушперта, цікава было даведацца, што нарадзіўся й вучыўся ён у Мінску, а на артыста вывучваўся ў Пецярбурзе ў самога Карагодскага; што працаваў артыстам у Чэлябінску, але неўзабаве ўжо ім, адкоўваючы "на рэжысёра", кіраваў Валеры Раеўскі (шкада, ён не зрабіўся сведкам Генадзевага поспеху на гастролях), а потым, гартуючы "практыканта" — Валеры Мазынскі (і яго гастролі гарадзенцаў прыкра абмінулі). А потым трапіў артыстам у Рыжскі ТЮГ, у рукі Адольфа Шапіры, а потым ізноў у Чэлябінск... Аднаго шчаслівага разу, шпацыруючы па родным Мінску ў летнюю спёку, зайшоў у Міністэрства культуры, дзе заспеў адзіныя адчыненыя дзверы: за імі сядзеў Вадзім Дапкюнас і на пытанне Мушперта, маўляў, ці патрэбныя бацькаўшчыне пастаноўшчыкі, адказаў проста: але, патрэбны...

Захапіўшыся, я выпусціла была віцебскі перыяд Мушперта: згадаць пра яго неабходна хоць бы таму, што Генадзь, чалавек прыстойны ды спакойны, апынуўся ў самім эпіцэнтры віцебскага тэатральнага вэрхалу са спектаклем "Каманда" С. Злотнікава. Спектакль за пэўным часам забаранялі "ў звязку з ідэалагічнымі прычынамі": у пастаноўцы фігураваў трэнер дыктатарскага гарту. Асабліва пакрыўдзіліся тамтэйшыя спартоўцы, хоць Мушперт мэтанакіравана біў сябе ў грудзі ды паўтараў, маўляў, пра дзяўчатак ставіў, пра дзяўчатак... Пра каханне ён ставіў, вось што...

Кшталцілася, выпрабоўвалася магістральная тэма Генадзя Мушперта ў мастацтве: тэма спадзявання на лепшае. Яе, тэму, суправаджала патуранне глядзельнай зале ў адраджэнні ейных спадзяванняў.

Прызнаюся, мяне заўсёды бянтэжаць заявы нашых часткова вядучых рэжысёраў пра сачыненне спектакля (на падставе літаратуры ды з дапамогай акцёрскага склада). Ёсць такі жанр — сачыненне... Школьна-студэнцкі. Але ж існуе і адметная ліштва прафесійных жанраў — у пэўным ліку і жанраў спектакляў... Мушперт не вынаходзіць для пастановак канцэпцый-цвікоў, канцэпцый-даважкаў. Мушперт пільна ўчытваецца ў аўтара (драматург жа думаў пра нешта, пішучы п'есу). Мушперт не прапануе сачы-



неннаў з нагоды аўтаравых ідэй... "У мяне было абсалютна шчаслівае студэнцкае юнацтва ў Піцеры, — смяецца Генадзь. — Мяне з семнаццаці гадоў вучылі таму, што галоўнае ў тэатры — гэта змест. Так проста. Што змест мусіць быць, нягледзячы ні на што. І паводле свайго глядацкага доследу я ўвесь час сутыкаўся з непазбежным: светаўспрыманне, светагляд пастаноўшчыка заўжды відзён у ягонай сцэнічнай пабудове.

Найчасцей Мушперта распытваюць пра Адольфа Шапіру, — напэўна, мяркуе Генадзь, маючы на мэце спазнаць нейкія Шапіравы прафесійныя сакрэты або штукарствы. Дык вось, Генадзь Мушперт мяркуе, што Шапіра моцны выключна сваім зместам. Ён мог хутка і дасціпна расказаць, чаго хоча ад акцёра, і гэты расповед заўжды меў сур'ёзную, карэнную жыццёвую значнасць ды сэнс. Што мусіць ставаць кірункам для тэатра ды рухам тэатра? Пытанні жыцця... Мізэрны дваровы свет ягонага спектакля "Дзіцячая гісторыя" паводле "Брыдкага качаняці" Андэрсана цяпер, натуральна, не з межамі краіны атаясамляецца, але вельмі падобны на замкнёны светагляд абывацеля. У інсцэніроўцы Шапіры, якую Мушперт увасобіў на гарадзенскай сцэне ў сакавіку 1994, нічагуткі не састарэла. Нягледзячы на тое, што праблем з адлётам у цёплыя краіны нават у беларусаў паменела...

Скандал з прымусовым адлётам з Рыгі Адольфа Шапіры здарыўся якраз пры Мушперце. Генадзь быў удзельнікам апошняга спектакля Рыжскага ТЮГа "Пярсцёнак і ружа", іграў адну з галоўных роляў. Рэжысаваў Анатоль Праўдзін. Ягоная маці — вядомая актрыса Рыжскай рускай драмы. Ягоны дзед ставіў першы спектакль Рыжскага ТЮГа. Унук, значыць, паставіў апошні. У сакавіку, як памятае Генадзь, з'явіўся Раймонд Паўлс і, як міністр культуры Латвіі, абвясціў, што ў ліпені ніякіх артыстаў на сцэне ТЮГа быць не павінна. Вяла рэй дзяржаўная палітыка, якую не мацаваў яшчэ адзін (акрамя Рускай драмы) рускі тэатр у горадзе, хоць сабе і з латышскаю трупаю, і са спектаклямі на латышскай мове гэтаксама, як і на рускай. Раздражняў рускі яўрэй Шапіра са сваёй міжнароднай славай ды старшынствам у АСІТЭЖ (міжнародная асацыяцыя дзіцячых тэатраў). Латышская трупа, якая з Шапірам рыхтавала Чэхава, проста перастала наведваць рэпетыцыі, маўляў, усё адно зачыняюць тэатр. Артысты рускай трупы, паводле Мушперта, казалі: "А мы — выпусцім спектакль ды сыграем! Адзін раз!" І Мушперт смяецца, ацэньваючы гэтае таксама і сваё роспачнае высакародства. "Пярсцёнак і ружа" засталіся ў тэатральнай гісторыі не толькі дзякуючы гісторыі дзяржавы Латвіі. Мастацкія якасці спектакля адлюстравала "Театральная жизнь". Пасля спектакля сімвалічна зашмаргнулі заслону назаўжды. Грамадзянскую й грамадскую акцыю скончылі глядацкія прамовы ды ўсеагульныя слёзы. Цяпер у памяшканні ТЮГа — баптысцкая царква. Дарэчы, фармальную падставу зачыніць тэатр даў якраз закон незалежнай Латвіі пра вяртанне ўласнасці колішнім уласнікам. На самай справе, сведчыў Генадзь, Шапіру з Рыгі выдалялі тыя самыя сур'ёзныя людзі, што ўжо разабраліся з часопісам "Даўгава", з вар'етэ, з эстраднымі спевакамі... Шапіра ставіць цяпер у Маскве, Пецярбурзе, Лондане, Варшаве...

У Варшаве калісь была пастаўлена і "Дзіцячая гісторыя"; яе распавядалі і абедзве цюгаўскія трупы — латышская ды руская. Генадзь Мушперт ні на хвіліну не збянтэжыўся ад майго пытання, маўляў, ці падобны ягоны спектакль на спектакль Шапіры. "Можа, — ўздыхнуў. — Бо я надта ўжо пазбягаў усялякага падабенства". З усяе моцы, значыць, стараўся зрабіць так, каб ні ў чым не паўтарыць мэтра. Але куды падзець сэнс, закладзены інсцэніроўшчыкам, схільным праліваць свае творы да апошняе інтанацыйнае коскі? "Ёсць некалькі рэчаў, якіх няма ў тэксце, — сведчыў Генадзь. — Але яны зрабіліся тэкстам! Узяць хоць бы танец свойскіх птушак з падлётамі ды з падскокамі па вяртанні Брыдкага качаняці з Афрыкі, з-за мяжы, значыць..." Пасля інтэлігенцкага трыумфу Меншага (Брыдкага) увесь птушыны двор прагне палёту, хоць за нядаўнім часам трывала ўбіваў дзецям: лятаюць хіба дзікуны, а яны, птушкі свойскія, палётам крылаў не апаганяць. Гэтая "Дзіцячая гісторыя" з тэмаю палёту ды вяртаннем падтрымала палётнасць рэжысёра Мушперта. Тую непараўнальную палётнасць, якая ўсім, хто пабач, мацуе крылы. Праўда, рэжысёр сціпла сведчыць, што за тры гады ў Гародні ён мусіў асвойтацца з тым, што тэатр працуе ізалявана, адасоблена, што там ніхто не бывае, ніхто нічога не бачыць, — са сталіцы перадусім. З Мінска. Мушперт, маўляў, не думае ні пра фестывалі, ні пра гастролі, ні пра лабараторыі. Затое ганарыцца тым, што адрадзілася любоў да свайго тэатра ў гарадзенцаў. Што самае дарагое для яго — стаўленне білецёрак: білецёркі залюбілі галоўнага рэжысёра: "Як добра, Уладзіміравіч, зрабілася, як жа глядач задаволены, дзякуй..." А як разыходзяцца шчаслівыя гледачы з абмеркаваннямі — гэта для кожнага ў тэатры шчасце. І мова спектакля (тая, на якой перамаўляюцца) не мае значэння цяпер: руская, беларуская, — зала бітма набітая. "Камедыя..." за два гады вытрымала ледзь не сто паказаў. На выпуску "Лісы і вінаград" Фігейрэду: пераклад Мушперт прасіў і дапрасіўся ў купалаўцаў, — той самы пераклад, які рабіўся для Платонава ды Браварскай. Ну, а постаць героя п'есы Эзопа нам усім больш як блізкая, — з ягонаю пропаведдзю волі, і не як неабходнасці ўсвядомленай, а як неабходнасці чалавечай, першай ды адзінай!

Да выпуску "Лісы і вінаграду" мы падзівіліся няпросталінейнаму ўвасабленню гэ-

тай балючай тэмы ў спектаклі "Разбойнік" К. Чапека. Паненцы Мімі (С. Марэцкая) мроіцца гэтая воля-вольная... прыкладам таго, як уцякла з-пад бацькоўскага даху старэйшая Лола. Адметнаму маладому чалавеку без вызначаных у п'есе заняткаў ды грамадскага становішча (бачна, бачна птушку па палёце!), які ад наваколля мае паважлівую мянушку Разбойнік (А. Шаўкаплясаў), гэтую волю-вольную паненцы выпадае паабяцаць ды... у рукі даць. Каб тая хіба патрымала... Падзеі ў спектаклі разгортваюцца не на карысць заканаых, хоць і на карысць жыццёвага здаровага розуму. Апантана й роспачна страляе аканомка Фанка (у зайздросна трапным выкананні А. Лук'янавай) у зуха-маладзёна. Забівае мару, якая цвеліць, ды на якую бракуе імпэту, моцы, мужнасці. Мару кожнага — кожны са спадароў прысутных на сцэне прыгадвае Разбойніка па-свойму і пазнае ў ім сваё недасяжнае. Сэнс рэжысёравых намаганняў відавочны: няхай сумнеў ды ваганні раздзіраюць іх да скону. Няхай глядач робіць высновы, назіраючы за такой датклівай і вонкава пераканаўчай мадэллю паводзінаў: бацькі адстоялі, абаранілі дзіцятка прыкладам старэйшай, якую кінуў каханы з немаўлём. Але ці прыдасца непрацягламу шчасцю чужы нешчаслівы досвед? Ёсць стасункі, пачуцці ды абставіны, якія мусіш спазнаваць ды выпрабоўваць сам...

Тэатральныя абставіны ды мадэлі гарадзенскі глядач з удзячнасцю прымярае на сябе. Шмат гадоў існуе абанемент і не губляе папулярнасці. Білеты размятаюць на год наперад, звоняць ды просяць яшчэ. Восем квіточкаў на год абыходзяцца танней, іх не кранае інфляцыя, тэатру яны таксама чамусьці выгадныя. Чаму? Але Мушперт не дужа добра разбіраецца ў тэатральнай эканоміцы.

Убоства дэкарацыйнае на сцэне і пананне неўразумелых мастакоўскіх ідэй таксама тлумачыцца... Генадзем Мушпертам: "Я прачытаў неяк, што бываюць рэжысёры-мастакі, а бываюць рэжысёры-кампазітары. Я — з апошніх. Што да гуку, рытму, дыхання — тут я ўсё разумею ды адчуваю. А вось мастаку рады не дам..." Добра б Гарадзенская драма раскашавала ад сцэнаграфічных ідэй! Імя, якое найчасцей сустракаецца ў праграмках пры "мастаку" — імя мастака Ф. Розава, які часцей за ўсё не патраціць арганізаваць прастору, выпрашыць планы, утварыць асяродак, падтрымаць атмасферу. А галоўны рэжысёр Мушперт мае шмат прэтэнзій ад крытыкаў і... ад дырэкцыі тэатра. Ад апошніх за тое, што думае ды жыве тым, што ставіць сёння, і тым, што возьмецца заўтра. Не далей. Па шчырасці, гэта невялікая загана. "Гэткага кшталту расклізанасць я змалпаваў з Адольфа Шапіры, — тлумачыць Генадзь. — Яму заўжды бракавала планаў на будучыню".

Да ўсяго, не, перадусім рэжысёр Генадзь Мушперт любіць акцёраў. Любіць важдацца з імі на рэпетыцыях і даводзіць да бляску кожны выхад. Але... не трымае ўсё ў сваіх кіраўнічых руках (як мовілі класікі рэжысуры, тэатр вымагае нават і не дыктатуры, а тыраніі). Ну... не трымае. Мяркуе, што самая вялікая ягоная бяда якраз не ў захопленасці пастановачным працэсам, а ў тым, што па горадзе Гародні не ходзіць ніводзін беспрацоўны артыст. Адзіны тэатр у горадзе — і спецыфічныя ўмовы для акцёрскага існавання. Без прывіду канкурэнцыі. Затое арганізаваў (з падтрымкаю дырэкцыі ды трупы) курс з сямі чалавек, — вучыць на артыстаў. Так, як яго вучылі ў Пецярбурзе. Або так, як Святлану Марэцкую ў маскоўскім ГІТІСе. Дарэчы, Мушперт іграе ў спектаклях нароўні з акцёрамі, так што прапануе ўсім выслухаць і запомніць: "Акцёры Курыленка, Марэцкая, Шаўкаплясаў, Бачкоў, Гайдуліс, Марцынюк і яшчэ тыя, на кім рэдакцыя ашчадзіць газетную плошчу, — набытак тэатра, лепшы і адзіна варты, таму толькі мне іх крытыкаваць, толькі пакрыўдзіце". І мне, як прадстаўніку рэдакцыі, якая ашчаджае на акцёрскіх прозвішчах, заставалася толькі прамармытаць: маўляў, якія яны ў вашых спектаклях... кранальныя. "А гэта таму, — смяяўся Генадзь, — што я артыстам быў і застаўся. І мой галоўны выразны сродак гэта... я. Я рыхтую спектаклі, разам з артыстамі лётаючы па сцэне; калі затрымка за якоюсь развязкаю ў мізансцэне, мне трэба выскачыць на падмосткі ды літаральна прайсці з акцёрам усё праблемнае кола, — тады ўсё вырашаецца. Гэта — мой чарговы недахоп. Бо ў рэжысёра выразныя сродкі — партал ды трупа. А ў мяне — я адзін... Але я з недахопам змагаюся. Як з самім сабой".

...Дай жа Божа, каб ён, Генадзь Мушперт, ніколі не перамог.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

МАЙСТЭРНЯ

# Блакітныя берагі...

Фёдар Кісялёў — вядомы магілёўскі мастак, яркі прадстаўнік віцебскай школы акварэлі, актыўна развівае яе традыцыі, закладзеныя яшчэ ў 60—70-х гадах такім неаспрэчным мэтрам беларускай акварэлі, як Феліск Гумен.

Работы Ф. Кісялёва вызначае ў першую чаргу высокі прафесіяналізм акварэліста. Парада Ф. Гумена "скарыстоўваць нават самыя нечаканыя ўласцівасці матэрыялу" стала для яго абавязковай умовай творчасці. Бездакорныя ў тэхнічным плане работы ўражваюць эксперыментамі з вільготнай паперай, змывамі, расцёкамі, выкарыстаннем прыёмаў акватыпіі, "мастыхіна". Улічваюцца ўласцівасці паперы — яе паверхня, шчыльнасць і колер. Побач з традыцыйнымі акварэльнымі фарбамі магчыма ўжыванне гуашы, тэмперы, аніліна, што дазваляе дамагчыся гранічнай, маляўнічай насычанасці і глыбіні колеру.

Мастак аддае перавагу жанру краявіду, які найбольш поўна адлюстроўвае сутнасць яго творчага светаадчування. У выяўленні вечных і бясконца разнастайных элементаў сусвету — зямлі, вады, нябёсаў — ён актыўна ўключае такія пазнавальныя і разам з тым глыбока сімвалічныя вобразы, як дом, дарога, дрэва, якія часцяком робяцца сэнсавымі цэнтрамі карцін.

Адмаўленне ад стараннай прапрацоўкі дэталяў, іх аб'ёмнай мадэліроўкі, крыху фармальны падыход да натуры садзейнічаюць захаванню цэласнасці твораў Кісялёва. Мастак імкнецца адысці ад рэальнасці і адначасова выказаць яе як мага глыбей і дакладней. "Адарванасць" ад рэальнасці, якая здаецца неабарачальнай, раптам ураўнаважваецца натуралістычна прапісанымі сілуэтамі прадметаў ці іх асобных элементаў. Прынамсі, "натуралізм" Ф. Кісялёва ўмоўны, ён знаходзіцца ў рамках ягонай эстэтычнай сістэмы і ніякім чынам ёй не супярэчыць, праяўляючыся ў чыстай графічнасці і больш старраннай прапрацоўцы дэталяў.

Адчуванне трывогі ствараецца неспакойным, хаатычным рухам ламаных, з "ірванымі" краямі ліній. Галінкі дрэў на карцінах Ф. Кісялёва часта нагадваюць "нервовыя канчаткі". Мастак невыпадкова выбірае памежныя, пераходныя станы ў прыродзе, калі яна капрызлівая і зменлівая, ён стараецца адлюстраваць самыя яркія імгненні, найбольш эфектныя і маляўнічыя эпізоды. Тонкая атмасфера пачатку жыцця, вясны, яе непараўнаны водар, яе трыумф прачула выяўлены ў карцінах "Блакітны бераг", "Вясна ў стараселлі", "Паводка". Узвышаны лірызм гэтых карцін, іх натхнёныя мажорныя тоны дзівосна сугучныя з многімі іншымі творамі Ф. Кісялёва ("Блакітная Браслаўшчына", "Над Сожам"). Поўныя задушэўнасці, авеяныя цяплом і пяшчотай мілыя сэрцу куткі роднай прыроды, якія свята захоўваюцца ў памяці. Любоў да вытокаў, да бацькоўскага дома, да несумятлівага жыцця, да простых рэчаў знайшлі адлюстраванне ў такіх работах, як "Стары млын", "Лоўля вугроў", "Новая лодка".

Тая ж пяшчота ды яшчэ шчымлівая журба бясконцай адзіноты, безвыходнасць і боль — у карцінах, прысвечаных "зоне адсялення" ("У зоне смутку", "Яблыкі ў снезе", "Воран над вёскай"). Кожная расказвае горкую аповесць аб "жыцці пасля смерці", якая прыйшла ў гэтыя краі ў злашчасным красавіку 86-га, дзе вось ужо 10 гадоў падаюць у снег нікім не сарваныя яблыкі і ўсё кружыць над мёртвай вёскай чорная птушка.

Тэма згасання, смерці, сну прыроду даволі часта сустракаецца ў карцінах Ф. Кісялёва. Нязменны тонкі лірызм тут выяўляецца ў асаблівай, змірэнча-сумнай танальнасці. Сон прыроды то ціхі і светлы, то трывожны і пакутлівы. Вобразы дрэў, у карунках галінак якіх схавана так многа нерастрачаных парыванняў, выклікаюць прамыя асацыяцыі з чалавечымі вобразамі, з чыймісці лёсамі ("Пара жаўрукоў", "Зіма ў Калісішчы", "Старая елка", "Лёсы", "Вечарэе", "Каля дарогі").

Асобна варта сказаць пра яркую лірыка-фантастычную накіраванасць творчасці Ф. Кісялёва, якая з'яўляецца дамінуючай пры ўсёй яго схільнасці да адлюстравання суровай рэальнасці свету. Казачнасць, загадкавасць прыроды, чароўнасць яе бясконцых ператварэнняў у той ці іншай ступені праявіліся ў многіх карцінах мастака, але толькі ў некаторых з іх гэта сталася галоўным. Кранальна-ўзвышанае стаўленне да натуры, высокая культура выканання ў спалучэнні з ярка выяўленым эстэтычным пачуццём выліліся ў такія дасканалыя творы — сапраўдныя шэдэўры акварэльнага жывапісу, як "Ноч на Сораці", "Ноч у Цімране", "Світанак", "Паўночныя берагі", "Вёска Пяльма".

Мастаку таксама блізкі і паэтычны бок архітэктуры, яе таемнасць і разам з тым глыбокая чалавечнасць ("Саборная плошча", "Станіслаўскі касцёл", "Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр", "Навагрудак", "Лідскі замак", "Пскоўскі матыў", "Крэпасць Карэлы", "Арган Домскага сабора", "Ферапонтава"). Ужо з назваў карцін відаць, што мастак шмат падарожнічае, назірае, узбагачае сваё ўражанні. Абвостранае ўспрыманне прыроды, здольнасць ацаніць не толькі яе знешнюю асаблівасць, асаблівы дух, прывялі да стварэння многіх арыгінальных, непаўторных твораў. Гэта і ўжо пераліччаныя карціны, на якіх адлюстравана прырода рускай Поўначы, і многія іншыя расійскія, закарпацкія, італьянскія пейзажы ("Сайскія Альпы", "Гара Шлеерн", "Кастэльрут", "Таежны край", "Закарпацце. Гара Гаверла").

Работы Ф. Кісялёва то велічна-манументальныя, то задушэўна-інтымныя. Такія разнастайныя па эмацыянальнай афарбоўцы, яны заўсёды адзначаны натхненнем аўтара, надзвычай прыгожыя і прываблівыя. Мастаку не здраджвае пачуццё меры, яго бездакорны густ праяўляецца ў выбары колеравай гамы, у цэласнасці кампазіцый, у яркай вобразнасці.

**Ірына КАРАНКЕВІЧ**





ПАМЯЦЬ

# "Элегія старой скрыпцы"

*Паўміралі музыкі —*
*Слухачы засталіся.*
*Скрыпкі звонкія зыкі*
*Так даўно не ліліся...*

Гэты верш Леаніда Галубовіча, пэўна, скіраваны ў старажытныя часы, калі прафесія музыкі-скрыпача была даволі рэдкая і не вельмі пачэсная. Праўда, і цяпер, нягледзячы на папулярнасць інструмента, сапраўдных выканаўцаў, адданых мастацтву, зноў-такі няшмат. І тым больш балюча, калі таленты пакідаюць наш свет і адыходзяць у небыццё.

Ужо год прайшоў, як няма з намі Льва Давыдавіча Гарэліка — народнага артыста Беларусі, дацэнта кансерваторыі. Памяці выдатнага музыканта і педагога прысвячалася вечарына, наладжаная ў зале Беларускай акадэміі музыкі намаганнямі кафедры скрыпкі, на якой ён працаваў больш за 10 гадоў.

Ён пачаў займацца на скрыпцы ў родным Бабруйску, а пасля вучобы ў Цэнтральнай музычнай школе пры Маскоўскай кансерваторыі ў 1945 г. шаснаццацігадовы Л. Гарэлік прадоўжыў адукацыю ў Мінскім музвучылішчы. Падчас вучобы ў Беларускай кансерваторыі (педагогі А. Амітон, А. Бяссмертны) ён пачаў выступаць як саліст і супрацоўнічаць з сімфанічным аркестрам філармоніі.

А потым былі шматлікія гастрольныя паездкі па гарадах Беларусі, былога Саюза, у Германію, Аўстрыю, Чэхію, Аргенціну, Італію. Заўсёды ў яго праграмах побач з традыцыйным скрыпічным рэпертуарам гучалі творы беларускіх аўтараў — А. Багатырова, М. Аладава, П. Падкавырава, Г. Вагнера, Д. Камінскага, Г. Гарэлавай. Вельмі часта Л. Гарэлік быў ініцыятарам напісання новых твораў, іх рэдактарам і першым выканаўцам. Ведаючы выдатныя якасці музыканта (цудоўны гук, выразная манера выканання, дакладнае віртуознае валоданне тэхнічнымі прыёмамі), многія кампазітары пісалі свае скрыпічныя творы менавіта для яго, нават з прысвячэннямі.

Свой творчы вопыт музыкант перадаваў вучням (у час працы ў Мінскім музвучылішчы, Акадэміі музыкі, ліцэі пры ёй). З ягоным імем звязана плённая больш чым 30-гадовая праца скрыпічнай групы аркестра Нацыянальнага тэатра оперы і балета Беларусі, дзе Л. Гарэлік быў канцэртмайстрам. Ён пакінуў пасля сябе дапаможнік па вывучэнні аркестравых скрыпічных партый ("Аркестравыя складанасці") — каштоўную і да таго ж першую грунтоўную метадычную распрацоўку гэтай праблемы ў Беларусі. Дзякуючы рэдактарскай працы Л. Гарэліка з'явіўся унікальны зборнік скрыпічных твораў выдатнага нашага земляка Міхала Ельскага.

На канцэрце памяці Л. Гарэліка студэнты кафедры скрыпкі гралі творы Паганіні, В'етана, Ізаі, Шассона, Фільда, Вагнера, Абеліёвіча і іншых аўтараў, дэманструючы шырокае кола тэхнічных і выразных магчымасцей інструмента, бязмежныя вобразныя адценні розных характараў і настрояў. І было відавочна, што з'явілася ў нас нямала маладых таленавітых музыкантаў, якія працягваюць лепшыя традыцыі беларускага скрыпічнага выканальніцтва. Інтэрпрэтацыі Ю. Германа, Я. Асновіча, К. Малачковай і іншых выканаўцаў былі даволі пераканаўчымі, мелі індывідуальную афарбоўку і цэлла прымаліся слухачамі.

Асабліва ўразіла выступленне студэнта III курса Аляксандра Афанасьева (былога вучня Л. Гарэліка, цяпер - клас педагога Л. Умновай). У ягоным выкананні стала і адметна прагучаў Канцэрт (Рэ мажор) Паганіні ў апрацоўцы Вільгельмі — тэхнічна складаны і эмацыянальна вытанчаны твор. Студэнтка V курса Юлія Стэфановіч (клас А. Янпольскага) прапанавала даволі арыгінальную версію апрацоўкі вядомага 24-га капрыса Паганіні (у рэдакцыі К. Шымaноўскага), дзе добра выявілася майстэрства скрыпачкі.

Ушанаванне памяці Л. Гарэліка, павага да яго мастацкай дзейнасці, захапленне ягонай асобай у музычным асяроддзі, — усё гэта дазваляе думаць, што творцы такога кшталту, адыходзячы ў іншы свет, пакідаюць усё лепшае сваім нашчадкам і таму застаюцца з намі. Як застаецца само мастацтва, якому яны былі адданыя ўсё жыццё.

Дарэчы, на кафедры скрыпкі БАМ узнікла ідэя конкурсу выканаўцаў сярод навучэнцаў сярэдніх спецыяльных устаноў; было б вельмі добра, калі б гэты конкурс насіў імя Л. Гарэліка і зрабіўся б традыцыйным.

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ**

ПАГІНАЦЫЯ

# На пачатку вечнасці

Трэці выпуск "Пагінацыі" на старонках "ЛіМа" прыпаў на купалаўскія дні, 115-ую гадавіну з дня нараджэння песняра.

Колькі гадоў таму, збіраючы матэрыялы да нарыса пра Вацлава Ластоўскага, вырашыў зазірнуць у Купалаўскі музей, фонды якога зберагаюць не адну таямніцу. Цікавілі аўтографы Ластоўскага. На жаль, ніводнага з іх у фондасховішчах музея не захавалася. Затое старэйшая захавальніца, спадарыня Ядвіга Раманоўская паказала мне ліст Я. Купалы на імя Власта. Карэспандэнцыя — адзіная, адрасаваная тагачаснаму сакратару "Нашай Нівы". Няма сумневу, што іх існавала больш, аднак тыя пасланні да нас не дайшлі.

Пісьмо адаслана Я. Купалам з Пецярбурга ў сакавіку 1913, калі ў газеце рэй вёў неўтаймаваны сакратар Вацлаў Ластоўскі. Шмат чаго ляжала тады на яго плячах.

Што і занатаваў здымак, які таксама ўпершыню прапануецца шырокаму чытачу. Здымак гэтых двух волатаў роднага слова, зазнятых поплеч, даносіць атмасферу той легендарнай пары, названай у гісторыі беларускай культуры "нашаніўскай эпохай", калі невялікая жменька творцаў здолела абудзіць (напачатку — адзінай газетай!) да жыцця цэлую нацыю. Адбітак дазваляе зазірнуць у святая святых — рэдакцыйны пакой "Нашай Нівы", спрэс падзелены на палічкі і закуткі, напоўненыя рукапісамі, што ручаінамі ўліваліся ў будынак на вуліцы Завальнай, 7. І ўсімі імі распараджаўся, кіраваў Вацлаў Ластоўскі. Нібы дырыжор перад шматгалосым аркестрам: фальшыва ўзятая нота клалася на яго сумленне. Власт гэта ясна ўсведамляў, пішучы вялікія перадавіцы або рыхтуючы кароткія адказы карэспандэнтам.



*Пакуль не высах атрамант.... Здымак у рэдакцыі "Нашай Нівы". За напісаннем-праўкаю матэрыялаў у чарговы нумар.*

**Літаратурны музей Янкі Купалы. Ф. XV р. 2.**

Здымак гэты ўпершыню дэманстраваўся летась падчас навуковай канферэнцыі "Янка Купала і "Наша Ніва", наладжанай у сценах Літаратурнага музея Я. Купалы. Ён уразіў спакойнай, някідкай паставай Купалы-сузіральніка, што сочыць за абмокнутым у атрамант вастрыём, нібы ведаючы, якія словы зараз паўстануць пад пяром нястомнага сакратара.

Падумалася: вось так і тварылі яны, поплеч, дапаўняючы адзін аднаго і робячы старонкі нашай першай нацыянальнай газеты непаўторнымі, гістарычнымі, вечнымі....

*Почтовая карточка*
*Спб. 2/III 13 г.*

*Даражэнькі Паночку!*

*Будзьце ласкавы атпісаць мне канешне аб рэцензіях друкаваных аб маіх кніжках. Калі ня можэце дэталічна ўказаць даты і N той газэты, або кніжкі, у якой надрукована, то хоць дайце названне часопісі, а я у публічнай бібліотэцэ вышукаю што патрэбна. Бо бачыце рэч ў тым: мяне просіць профэсар Венгеров даць яму гэтые ведамасьці для энцыклёпэдзіі Брокгауза і для "Крытіко-біографічэскаго словаря". Прашу Вас ласкай зрабіце для мяне эту спраўку. Чаму ні якаго чорта не пішыце?*

*Ваш Ів. Луцэвіч.*

*Не забудзьце указаць нумэр "Tygodnik Krajowy", выдав. у Кіеві.*

**[Адрас] Его Высокородію Вацлаву Юстиновичу Ластовскому**

**г. Вильно, Завальная 7**

**ред. "Наша Ніва".**

**Літаратурны музей Янкі Купалы. Ф. Э., воп. II -1.**

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

СПАДЧЫНА

# Не будзем забывацца на сваё

З'яўленне такіх шэдэўраў, як "Аповесць пра Варлаама і Іоасафа" звязана, безумоўна, з пэўнымі перыядамі існавання чалавечага грамадства, — гэта калі яно, грамадства, маральна "кульгае", калі яно духоўна хворае. Па багацці перыпетый сюжэта, па колькасці і якасці прытч і дыялогаў "Аповесць..." лічыцца тыповым творам для сусветнай літаратуры сярэдневечча. Існуе 140 яе версій больш чым на 30 мовах.

"Аповесць пра Варлаама і Іоасафа" з'явілася на Русі (на Афоне) напрыканцы XI ці пачатку XII ст. у перакладзе з грэчаскага і грузінскага варыянтаў. Сюжэт жа яе ўзнік паміж VII і X стст. У Палесціне ці Эфіопіі на глебе індыйскага падання — эпізодаў з жыцця Буды. Індыйскае паданне датуецца VI або V ст. да н.э. Пафас твора — у знаходжанні чалавекам ісціны. А ў еўрапейскім сярэднявеччы гэта атаясамлялася са зваротам язычнікаў у хрысціянства. Сюжэт "Аповесці..." наступны: язычніцкі індыйскі цар Авенір вырашыў свайго адзінага сына — прыгажуна Іоасафа выхаваць так, каб той не бачыў вакол сябе хвароб, грахоў, старасці і смерці, і таму выгнаў з краіны ўсіх мудрацоў-філосафаў. Выхаванне юнака з дапамогай павучальных прытчаў было даручана пустэльніку Варлааму. Ён расказваў царэвічу гісторыі аб трубе смерці, аб сяброўстве і разважлівасці, багацці і галечы, а таксама пра "спаборніцтва рэлігій". Іоасаф, перадолеўшы ўсе цяжкасці, выпрабаванні і спакусы, адышоў у пустыню і аддаўся манаскаму самаадмаўленню ад зямных даброт. Як бачым, у "Аповесці..." удалося своеасабліва спалучыць літаратурныя каштоўнасці язычніцтва з нормамі хрысціянскай набожнасці.

Але наша зацікаўленне "Аповесцю..." з яе прачытаннем не канчаецца, а, наадварот, набывае новы віток, бо сярод вялікага мноства спісаў і трох друкаваных выданняў на ўсходнеславянскіх землях у XVII ст., першае, на беларускай мове, было ажыццёўлена на Беларусі, а менавіта ў Куцеінскім Багаяўленскім манастыры (г. Орша) у манастырскай друкарні Спірыдона Собаля і Іёля Труцэвіча ў 1637 г. Пераклад зрабіў намеснік Магілёўскага Брацкага манастыра іераманах Іасаф (ён жа — Варлаам) Палоўка. Іасаф тут, відаць, псеўданім ад імя героя аповесці, да якога перакладчык меў вялікую ўнутраную сімпатыю. Пераклад гэтага выдання, як сведчыць доктар філалогіі І. Лебедзева, быў зроблены часткова (некаторыя раздзелы) са старажытнаславянскай, а часткова — з лацінскай моў. Хаця трэба адзначыць, што на тытуле Куцеінскага выдання паводле зборнага каталога "Кніга Беларусі" ("БелСЭ", 1986г.) пазначана: "Гистория албо правдивое выписание святого Иоана Дамаскина о житии святых преподобных отец Варлаама Иосафа и о наверненю индиян. Стараннем и коштом иноков общежителного монастыря Кутеенского ново з грецкого и словенского на руский (беларускі. — **Я.Г., Л.С.**) язык преложена, в типографии тоей же обители року 1637, июля 22 дня". Пра І. Палоўку ў іпастасі перакладчыка гэтай славутай аповесці на беларускую мову і выданне яе ў Куцейні паведамляе і доктар філалогіі А. Гарбуноў у кнізе "Панорама веков" ("Зарубежная художественная проза от возникновения до XX в.). М., Книжная палата, 1991.

Гаворачы пра тагачасную мову перакладу І. Палоўкі, немагчыма не звярнуць увагу на тое, што яна, мова, сведчыць аб наяўнасці ў ёй прыкмет як усходнеславянскай, так і заходнеславянскай моў.

Другое выданне "Аповесці.." выйшла ў Маскве ў 1680 г. на рускай мове ў перакладзе з беларускай. Выдавец Сімяон Полацкі (наш зямляк) з улікам кантэксту ўстаўляў у "Аповесць..." свае ўласныя вершаваныя радкі. Трэцяе выданне (перавыданне) было таксама ў Расіі.

Цікава, а як у беларускіх навуковых выданнях апошніх гадоў (асабліва энцыклапедычных) асвятляецца бытаванне "Аповесці пра Варлаама і Іоасафа" на Беларусі і, вядома, лёс перакладчыка І. Палоўкі? А амаль ніяк. Напрыклад: імя І. Палоўкі не згадваецца ні разу ні ў 12-томнай БелСЭ на беларускай мове, ні ў 5-томнай БелСэ на рускай мове, ні ў Зборы помнікаў гісторыі і культуры (том пра Віцебскую вобласць), ні ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" ў 5-ці тамах, ні ў 6-і томным бібліяграфічным даведніку "Пісьменнікі Беларусі" (хаця тут часам зафіксаваны самыя нікчэмныя радкі самых сумніцельных паэтаў), ні ў "Гісторыі беларускага мастацтва" ў 6-і тамах, ні ў энцыклапедычным даведніку "Мысліцелі і асветнікі Беларусі" і г.д. Маўчыць на гэты конт і аднатомны даведнік "Беларускія пісьменнікі", што выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1994 г. На жаль, ні словам не азваўся пра прадмет нашага зацікаўлення А. Шынкевіч — аўтар цікавай, інфармацыйна багатай кніжкі "Аршанская даўніна", (выдавецтва "Полымя", 1992 г.). Захоўваюць маўчанне на гэты конт і школьныя падручнікі па беларускай літаратуры.

А цяпер назавём выданні, дзе можна знайсці сякую-такую інфармацыю пра "Аповесць..." і яе беларускага перакладчыка. Гэта: "Гісторыя беларускае літаратуры" Максіма Гарэцкага, выдадзеная ў "Мастацкай літаратуры" ў 1992 г. Але ж гэта — перавыданне з выдання 1924 г., рэпрэсаванага і напаўзабытага. Як пра рэлігійны раман пра "Аповесць..." гаворыцца ў I-м томе "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры", выдадзенай у "Навуцы і тэхніцы" ў 1968 г.

Напрыканцы хочацца выказаць спадзяванне, што імя нашага выдатнага суайчынніка будзе стала прапісана на старонках новай універсальнай беларускай энцыклапедыі. А яшчэ лепш было б перавыдаць сёння "Аповесць пра Варлаама і Іоасафа".

**Яўген ГУЧОК,**
**Леанід СЕТУНОЎ**

ПОШТА

# Аўтографы нагадалі

Яны розныя, гэтыя кніжкі — і па жанры, і па сваім "узросце", і па паліграфічным афармленні. У свой час я іх чытаў, нават сёе-тое перачытваў, але ж і цяпер, калі падыходжу да кніжнай паліцы, рука нярэдка цягнецца менавіта да іх. На кожнай кніжцы — дарагі мне аўтограф.

Вось бяру ў рукі невялікую па фармаце кніжачку народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча "Ці грэх, ці два". Чытаю аўтограф: "Дарагому Аляксею Трафімавічу Каўко, з якім я пазнаёміўся яшчэ тады, калі не меў за душой ні грэху, ні двух, — ад шматгрэшнага аўтара", — і на памяць прыходзіць тая першая сустрэча.

Было гэта ў далёкім 1947 годзе. У Мінску праходзіла нарада маладых пісьменнікаў. Абмеркаванне твораў пачаткоўцаў вялося па секцыях. У дзіцячай секцыі, якой кіраваў Янка Маўр, нас было ўсяго пяць чалавек, у іх ліку і зусім яшчэ малады Ніл Гілевіч. Тагачасны рэдактар часопіса "Бярозка" Алесь Якімовіч прынёс на нараду свежы нумар выдання, дзе былі надрукаваны вершы Гілевіча і маё апавяданне. У абмеркаванні твораў пачаткоўцаў прынялі ўдзел Пятро Глебка, Эдзі Агняцвет, Павел Кавалёў і, вядома ж, кіраўнік секцыі Янка Маўр. Выказванні былі добразычлівыя, даваліся слушныя парады. Праўда, настрой сапсаваў сумнавядомы літаратуразнавец Лукаш Бэндэ, які накінуўся на выступаючых, маўляў, не трэба хваліць маладога паэта, паэзія — не яго прызванне. Бы даўбнёй агрэў юнага Гілевіча. І тады не вытрымаў Павел Кавалёў:

— Я рашуча не згодзен з такой ацэнкай. Творы маладога паэта сведчаць аб яго здольнасці. А здольных мы абавязаны падтрымліваць, а не біць!..

Жыццё абвергла прадказанні ўладальніка літаратурнай доўбні. Сёння Ніл Сымонавіч Гілевіч — адзін з таленавіцейшых паэтаў Беларусі, вядомы грамадскі дзеяч, актыўны змагар за адраджэнне беларускасці. Мне даводзілася сустракацца з ім не толькі ў Мінску, але і ў Іванаве, калі ён разам з Анатолем Вярцінскім і Петрусём Макалём выступаў перад чытачамі. Пазней была сустрэча ў вялікім палескім сяле Моталь, куды неяк наведалася група беларускіх пісьменнікаў...

А вось яшчэ адзін вельмі дарагі мне аўтограф: "А. Т. Каўко — з павагай і ўдзячнасцю за канцэпцыю гістарычнай справядлівасці ў адносінах да нашай спадчыны. У. Калеснік". Сваю кнігу "Тварэнне легенды" з такім надпісам Уладзімір Андрэевіч прыслаў мне, калі я, цяжка хворы, зусім нямоглы, ляжаў у Брэсцкай абласной бальніцы. Ці трэба гаварыць, што такая ацэнка маёй сціплай працы па напісанні нарыса па гісторыі Іванаўскага раёна з вуснаў выдатнага пісьменніка была для мяне гаючымі лекамі. І зноў жа ўспаміны...

З Уладзімірам Андрэевічам я сустракаўся рэдка, можа, тры ці чатыры разы, але сустрэчы гэтыя назаўсёды запалі ў душу. Выдатны пісьменнік, таленавіты даследчык беларускай літаратуры, умелы педагог, ён быў і цудоўным чалавекам. Ён вызначаўся добразычлівасцю да людзей, дабрата свяцілася ў яго вачах. Аднойчы (не ведаю ўжо, з якой нагоды) ён прыехаў у Іванава. Вырашыўшы свае справы, зайшоў у рэдакцыю раённай газеты, якую я тады рэдагаваў. На вялікі жаль, я не магу ўзгадаць усе падрабязнасці нашай гутаркі. Помніцца, што размова ішла пра літаратуру, я распытваў, як збіраўся матэрыял і пісалася кніга "Я з вогненнай вёскі..." Тут я даведаўся, што, апроч усяго, Уладзімір Андрэевіч добра валодаў фотаапаратам — калі яны з Янкам Брылём і Алесем Адамовічам збіралі па Беларусі матэрыял для кнігі, то ён зрабіў многа здымкаў для ілюстрацыі гэтага унікальнага выдання.

Загаварылі пра ўмовы для літаратурнай працы. З лагоднай усмешкай Уладзімір Андрэевіч нагадаў, як на пачатку сваёй працы ў Брэсце жыў з жонкай у невялікім пакойчыку, дзе амаль усе сцены былі застаўлены кніжкамі, ля акна стаяў невялікі столік. Дык вось, у той пакойчык зазірнуў аднойчы Піліп Пестрак. Агледзеўшыся, ён сказаў: "У цябе ж цудоўныя ўмовы для літаратурнага занятку". Гэтаму пісьменніку, які многа часу правёў у турэмных камерах, цесны пакойчык здаўся ледзь не раскошай.

Калі я праводзіў Уладзіміра Андрэевіча, на калідоры нам сустрэўся Мікола Купрэеў. У гэтага паэта быў перыяд жыццёвага разладу — без пэўнага занятку, а значыць і без якога-небудзь заробку, нават без дакументаў, ён бадзяўся па Берасцейшчыне, заходзіў у рэдакцыі, дзе ў яго былі знаёмыя, за мізэрны ганарар браўся хоць за якую работу.

— А ты, Мікола, усё яшчэ цыгануеш? — прывітаўшыся, звярнуўся да яго Уладзімір Андрэевіч.

Купрэеў сарамліва ўсміхнуўся, кіўнуў прыкметна палыселай галавой. І тады Уладзіміру Андрэевічу, відаць, захацелася хоць як-небудзь падбадзёрыць таленавітага паэта:

— У "ЛіМе" падрыхтаваны твае вершы да друку. У бліжэйшым нумары з'явяцца...

У. Калеснік заўсёды падтрымліваў здольную моладзь. Аднойчы мне давялося прымаць удзел у сумесных выступленнях перад чытачамі нашага раёна літаратараў Берасцейшчыны і Валынскай вобласці Украіны. Я бачыў, як ён зацікаўлена, я б сказаў, з нейкім замілаваннем слухаў Міхася Рудкоўскага, Ніну Мацяш, Міколу Пракаповіча. Як вельмі сціплы чалавек, ён не вылучаўся сярод сваіх выхаванцаў, вёў гутарку на роўных, дасціпна жартаваў. Павагай і тактоўнасцю прасякнуты і яго артыкулы аб літаратарах. У сваёй прадмове да зборніка вершаў Міколы Засіма ён піша, што ў апошні час, збіты з тропу недальнабачнымі крытыкамі, гэты паэт-самародак нярэдка пісаў і невылечна слабыя вершы. І калі яму гаварылі, што той ці іншы верш слабаваты, ён адказваў: "Нічога-нічога, я дома па ім яшчэ гэблікам прайдуся". "Але гэбліка дома не было", — піша У. Калеснік. І тут усё зразумела.

Згадваючы ўсё гэта, мяне не пакідае адчуванне нейкай сваёй віны перад добрым чалавекам. Справа вось у чым. Атрымаўшы ад У. Калесніка згаданую вышэй кнігу з аўтографам, я па стане здароўя не змог нават ліст напісаць, падзякаваць за кнігу і добрыя словы ў мой адрас. Пісаць жа потым (калі пакінуў бальніцу) здавалася позна. Рашыў дачакацца чарговай сустрэчы і тады выказаць сваю сардэчную ўдзячнасць. Ды вось не дачакаўся... Уладзімір Андрэевіч пакінуў гэты свет... Крыўдна і балюча на сэрцы...

І яшчэ напамін аб адной сустрэчы — кніжка вершаў Сцяпана Гаўрусёва "Водсветы" з яго аўтографам. Было гэта ранняй вясной 1979 года. Паэт перажываў не лепшы час — адчувалася нейкая незадаволенасць ці то сабой, ці сваёй доляй. Праўда, пры сустрэчы з чытачамі ён некалькі ажыўляўся, але не надоўга. Каб хоць на нейкі час адвесці яго ад горкага роздуму, я прапанаваў выехаць на прыроду, палюбавацца разлівам Ясельды. Ён ахвотна пагадзіўся. Доўга стаяў на беразе, моўчкі глядзеў на шырокую водную гладзь, на сінеючы ўдалечыні грабеньчык лесу. Потым павярнуўся да мяне, прамовіў:

— Цудоўна ў вас тут на Палессі. Калі ты не супраць, я прыехаў бы да цябе летам, папрацаваць...

— Прыязджай, калі ласка, — з гатоўнасцю адказаў я.

Толькі і гэтай сустрэчы не суджана было збыцца...

**Аляксей КАЎКО,**
**заслужаны дзеяч культуры Беларусі**

*г. Іванава*

## Рукапісы не гараць!



**Заўтра ў памяшканні тэатра музычнай камедыі распачынае сваю работу другі з'езд беларусаў свету. З гэтае нагоды хачу яшчэ раз успомніць толькі некалькі імёнаў нашых суайчыннікаў з самага бліжэйшага замежжа — з латгальскага краю. Гэтае сумежжа роднасных культур Бог надзяліў вялікім творчым патэнцыялам. Даўно на літаратурным Парнасе заняў свой пачэсны пасад драматург Еўсцігней Міровіч. Менш знаёмы педагог Язэп Сушынскі, блізкі знаёмец Янкі Купалы. І зусім нядаўна пачалі згадвацца ў друку мастакі Пётра Міpановіч, Аркадзь Салаўёў, Міхась Калінін, паэты Пятро Сакол (Масальскі), Мікола Талерка, Эдвард Вайвадзіш, Валянціна Казлоўская, празаік Вера Вайцюлевіч... Вёсачкі Стрымкі, Вайцюлева, Бярозкі, Вайвады, Вальтары былой Віцебскай губерні ўзгадавалі цэлую кагорту працаўнікоў на адраджэнскай беларускай ніве.**

**Спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння настаўніка, паэта і празаіка Віктара Вальтара (псеўданім Янка Палын), аўтара знойдзенага ў Вільні рукапісу рамана "Роджаныя пад Сатурнам". Горкі лёс герояў згаданага твора напаткаў самога Віктара Бенядзіктавіча: нарадзіўся ў Дзвінску 15(28) ліпеня 1902 года, там жа і памёр ад сухотаў, можна сказаць — за школьнай партай — 4 красавіка 1931 года. У 1922 годзе ён заканчвае Беларускія настаўніцкія курсы, арганізаваныя пры Дзвінскай (Даўгаўпілскай) беларускай дзяржаўнай гімназіі і, як стыпендыят чэшскага ўрада, едзе вучыцца ў Прагу. Там і займеў хваробу бедных студэнтаў. Вярнуўся на радзіму, дзе беларуская нацыянальная меншасць, дзякуючы падтрымцы Яніса Райніса, распачала шырокую культурна-асветніцкую работу.**

**Па смерці настаўніка яго вучні перапісалі захаваныя старонкі рукапісу надзвычай цікавага рамана. Калі, з лёгкай рукі Адама Мальдзіса, мікрафільм трапіў у Мінск, ён быў падрыхтаваны мною да друку і кніга вернутага з небыцця яшчэ аднаго творцы беларускай літаратуры мелася выйсці ў 1995 годзе ў выдавецтве "Юнацтва". Але неспрыяльныя наступствы фінансавання перашкодзілі гэтаму. Карэктура чакае цяпер свайго дабрадзея і выдаўца.**

**Кораценька пра змест рамана. Яго героі — маладыя людзі з абшару Заходняй Беларусі, латгальскага памежжа, якія прыехалі ў Прагу набываць веды. Марацць аб тым, каб, вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, паслужыць адраджэнню Беларусі. Твор дае ўяўленне аб дзейнасці беларускай, украінскай, рускай эміграцыі ў даваеннай Чэхаславаччыне. Са старонак рамана паўстаюць каларытныя фігуры П. Крэчэўскага, Т. Грыба, Я. Станкевіча, П. Вяршыніна, прафесара Карлава універсітэта Я. Ляцкага... Талент аўтара кнігі ў многім сугучны таленту ўжо вядомага нам А. Мрыя.**

**У змястоўнай прадмове да няздзейсненага выдання вядомая даследчыца Лідзія Савік сярод мноства аналітычных пытанняў паставіла і такое: "Віктар Вальтар надзіва прадбачліва і з глыбокай пранікліваасцю праз характар і лёс галоўнага героя, студэнта Тугоўскага, змог паказаць ментальнасць беларуса, задумацца над пытаннем: ці не таму мы такі шматпакутны народ, што роджаныя пад Сатурнам?"**

**Прамінула 70 гадоў з часу напісання вартага нашай увагі твора. Згадаем жа 95-годдзе з дня нараджэння яшчэ аднаго пісьменніка, які павінен заняць належнае месца ў пантэоне беларускай культуры, чыё мастацкае слова ўваскрэсла з архіўных паліц. Рукапісы Віктара Вальтара зберагліся. Нам спажыць красу яго радкоў.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*На здымку: партрэт В. Вальтара работы мастака У. Якуніна.*

ПОСТАЦІ

# Пакутны шлях да беларускасці

## ПАВЕЛ ШЭЙН І ЯГО ДЗЕЙНАСЦЬ

Гэтая фальклорная паездка была для Паўла Васільевіча далёка не першай. Збіраючы песні, запісваючы побыт, звычаі, традыцыі карэннага насельніцтва тагачаснага Паўночна-Заходняга краю, яму давялося пабываць ужо ў многіх мясцінах. І хоць не сказаць, каб ён належыў да перадавой часткі расійскага грамадства — погляды яго ў нечым былі нават кансерватыўнымі, Шэйн ніколі не падзяляў пазіцыі тых абруселых беларусаў, хто з абыякавасцю і пагардай ставіўся да свайго роднага, кроўнага. Сустракаючыся з ім, часта спрачаўся, адстойваючы ўласны пункт гледжання. Ды і апаненты, у пераважнай большасці, не пераходзілі да катэгарычных меркаванняў і прамалінейных вывадаў, праяўляючы тактоўнасць і памяркоўнасць. Аднак тое, чаму Павел Васільевіч стаў сведкам у Барысаве, выходзіла нават за рамкі звычайнай прыстойнасці.

Па завядзёнцы Шэйн вырашыў прадставіцца мясцоваму начальству. Да рэкамендацыйнага ліста, падпісанага вядомым рускім мовазнаўцам, акадэмікам Пецярбургскай акадэміі навук Я. Гротам, яно паставілася спакойна і з разуменнем, а вось даведаўшыся, што задачай фальклорнай экспедыцыі, поруч з іншымі, ставіцца і назіранне за станам беларускай мовы, міравы пасрэднік іранічна запытаўся:

— Якія яшчэ назіранні, — ён прамовіў з пагардай, акцэнтуючы ўвагу на слова "назіранні", — вы будзеце рабіць над беларускай мовай?

Шэйн палічыў патрэбным аб усім даходліва расказаць. Нагадаў, што ў розных мясцовасцях склад мовы не аднолькавы, ёсць адрозненні ў вымаўленні адных і тых жа слоў, таму пастараецца, па меры магчымасці, падвесці іх пад агульныя законы граматыкі.

— Законы? — адчувалася, што міравому пасрэдніку вельмі хочацца пакпіць і з самой беларускай мовы, і з аднаго з тых, хто збіраецца яе абараняць.

Гэтая пагарда і непрыхаванае хамства ўзялі Паўла Васільевіча, як кажуць, за жывое. Ён таксама павысіў голас:

— Але, законы! Што вас так здзіўляе?

— Злітуйцеся, якія яшчэ законы могуць быць у беларускай мове? — пасрэднік засмяяўся.

Аднак Шэйн адступаць не збіраўся:

— А чаму б і не?

Абруселы чыноўнік пасля гэтага ўжо адкрыта пайшоў у наступ, не хаваючы сваёй зласлівасці:

— Кажаце, беларуская мова?

— А што, па-вашаму?

— Какой это язык?! Звычайны зык!

І разышоўся ва ўсю. Выбіраў беларускія словы, якія ведаў, перакручваў, перайначваў іх. І рабіў гэта з адной мэтай, каб яны нагадвалі невыразныя, нечленараздзельныя гукі. Спыняцца не збіраўся, бо ў гэтым здзеку адчуваў нейкую дзіўную асалоду...

Пазней, калі Павел Васільевіч займецца падвядзеннем вынікаў гэтай экспедыцыі, ён напіша пра паездку ў Барысаў Я. Гроту, з якім быў знаёмы яшчэ з 1863 года. І хоць Якаў Карлавіч, усяляк заахвочваючы Шэйна, звычайна прытрымліваўся афіцыйных узаемаадносін, тым не менш, калі наступалі часіны, якія выклікалі жаданне падзяліцца тым, што хвалюе. Павел Васільевіч ведаў: у Пецярбурзе ёсць чалавек, гатовы заўсёды зразумець цябе. Таму і не прамінуў 18 лютага 1878 года нагадаць пра гэты прыкры выпадак, адначасова выказаўшы і пагарду да тых, хто забыўся, што ён беларус: "Прысутныя пры гэтым члены мясцовай інтэлігенцыі з вышэйшых сфер адміністрацыі і юстыцыі, сапраўдныя абрусіцелі моўчкі выказвалі сваё адабрэнне і кідалі на мяне пераможныя позіркі. Няма ніякага сумнення, што рускія чыноўнікі глядзяць на беларускага селяніна як на быдла, г.зн. дакладна так, як глядзелі на яго яго злейшыя прыгнятальнікі".

Напіша гэта праз некалькі месяцаў пасля інцыдэнта, калі з'явіцца магчымасць прыступіць да апрацоўкі сабраных матэрыялаў. Тады ж, калі са злосцю пакінуў гэтых нацыянальных нігілістаў, адчуваў двоякае пачуццё. Безумоўна, не хаваў сваёй пагарды да іх, але, з другога боку, ажыло, усё настойлівей давала знаць аб сябе і пачуццё нейкай асабістай віны. І чым больш думаў аб гэтым, тым цяжэй яно гняло.

Калі ж лепей разабрацца, дык і сам ён не намнога адышоў ад іх. Беларускую мову дасканала так і не вывучыў... Пазнанні ў ёй меў, але вельмі слабыя. Прыкра і тое, што слаба арыентаваўся ў зробленым беларускімі фальклярыстамі, этнографамі.

Але гэта таксама паўбяды, навярстаць упушчанае ніколі не позна, было б жаданне, а жаданне ў яго ёсць. У чым трэба пасапраўднаму вініцца, дык у непрадуманым кроку, зробленым у 1867 годзе, калі складаў спецыяльную праграму па зборы фальклору, у якой даваў канкрэтныя рэкамендацыі тым, хто возьмецца за гэтую важную і патрэбную справу. І дадумаўся ж (вось бы ўзрадавалася барысаўскае начальства, калі б ведалі пра ўсё!) заклікаць да "абрусення" Паўночна-Заходняга краю. Праўда, дзякаваць Богу, пры перавыданні праграмы хапіла розуму гэтую "рэкамендацыю" ў ёй выкрасліць.

Толькі пачуццё віны і тады, пасля выхаду праграмы, і пасля, прытым неаднойчы, не пакідала. І чым больш разважаў, задумваўся Павел Васільевіч над гэтым, тым больш пераконваўся, што тут не толькі яго віна, а і бяда. А калі канкрэтней, то сказаўся непрадбачлівы збег абставін, далі аб сабе знаць тыя складаныя акалічнасці лёсу, з-за якіх ён надоўга адарваўся ад роднай Беларусі, а таму вымушаны быў паступова (а ў многім і пакутліва) набліжацца да яе, а значыць і адкрываць яе для сябе нанова. І працаваць на яе карысць...

Нарадзіўся Шэйн у 1826 годзе ў Магілёве. У старасвецкай яўрэйскай сям'і панавала атмасфера замкнутая, па-свойму затхлая. Да ўсяго хлопчык змалку цяжка хварэў. Гэта аднак не перашкодзіла бацькам накіраваць яго ў пяцігадовым узросце, як і практыкавалася тады, у школу. Праўда заняткі ён наведваў далёка не рэгулярна, а калі споўнілася 13 гадоў далейшую адукацыю атрымліваў дома. Наняты равін адначасова даваў урокі і брату Паўла.

Хвароба прагрэсіравала. Павел Васільевіч пазней успамінаў: "Да пятнаццаці гадоў жыцця перахварэў я рознымі хваробамі, якія часта прыкоўвалі мяне надоўга да роднай бярлогі, да ложа пакут, а на пятнаццатым давялося перажыць лёс Ільі Мурамца, у першы перыяд яго жыцця, г.зн. зрабіўся калекам нехадзячым".

Лежма праляжаў два гады, ногі зусім адмовіліся слухацца. Бацька, каб ураТаваць старэйшага сына, павёз яго ў Маскву, уладкаваў у Нова-Кацярынінскую бальніцу, дзе Павел лячыўся тры гады. Працягваў і адукацыю, праўда, у іншым, чым дагэтуль кірунку. Вывучаў рускую мову, а паколькі сярод ардынатараў аказалася нямала немцаў, дасканала авалодаў і нямецкай.

Зусім іншая, чым дома, атмасфера паўплывала на фарміраванне светапогляду. У 1848 годзе Шэйн прыняў лютэранскую веру, што ў сваю чаргу, прывяло да разрыву з бацькамі. Разлічваць хоць на якую-небудзь дапамогу з іх боку больш не даводзілася. Заставалася самому выкараскваца з няпростых абставін, ды спадзявацца, што знойдуцца добрыя людзі, якія ў цяжкі момант дапамогуць. Так і атрымалася.

Шэйна прынялі ў сіроцкае аддзяленне нямецкага вучылішча пры лютэранскай царкве св. Міхаіла, у якой ён да вясны 1851 года лічыўся вучнем-пансіянерам. На гэты час прыпадае яго захапленне перакладчыцкай дзейнасцю, акрамя таго, і сам спрабуе пісаць, зближаецца з паэтам Ф. Мілерам, які ў вучылішчы выкладаў рускую мову і літаратуру. Мілер шмат перакладаў з англійскай, нямецкай, польскай і іншых моў. Праз Мілера Шэйн пазнаёміўся з паэтам, былым дзекабрыстам Ф. Глінкам і яго жонкай-паэтэсай. Глінкі кожны тыдзень у панядзелак арганізоўвалі ў сябе дома свайго роду сямейныя пасяджэнні літаратурнага гуртка. На іх сваім чалавекам стаў і Павел Васільевіч.

Усё гэта не магло не аказаць уплыў на фарміраванне схільнасцяў маладога тады Шэйна, спрыяла яго арыенціроўцы на ўсё рускае. У 1851 годзе, як прызнаваўся сам Павел Васільевіч, ён "пакідаў вучылішча з адной толькі гарачай любоўю да ўсяго рускага, узбуджанай... старанным чытаннем рускіх аўтараў, і ў асаблівасці твораў Даля, і са зблізненнем з некаторымі шаноўнымі маскоўскімі літаратарамі". Адпаведна з'явілася жаданне "працаваць на карысць рускай літаратуры ўсім, чым толькі магу і багаты". А для гэтага перш-наперш неабходна было хоць неяк забяспечыць сябе матэрыяльна. Пайшоў працаваць выхавацелем дзяцей багатых бацькоў, пераязджаючы з сям'і ў сям'ю.

Не сказаць, каб пры гэтым заўсёды знаходзіў паразуменне. Не прынесла жаданага поспеху і супрацоўніцтва з часопісам "Развлечение", у якім са студзеня па май 1859 года ён выступаў з анатацыямі і рэцэнзіямі на новыя кнігі ці на выданні, якія неўзабаве меліся выйсці з друку.

Летам жа 1861 года апынуўся нават у Яснай Паляне, куды Шэйна запрасіў выкладаць рускую мову Леў Мікалаевіч Талстой. Ды там нядоўга затрымаўся. Яго незадавальняла аплата, а таксама ўзніклі разыходжанні з Талстым па пытаннях выхавання. Пасля Яснай Паляны тры гады працаваў у Тульскім павятовым вучылішчы, а ў канцы лета 1864 года пераехаў у Епіфань, дзе выконваў абавязкі штатнага наглядчыка павятовых вучылішч і настаўніка ў I—III класах пачатковай школы.

Ды нездарма кажуць, няма ліха без дабра. Жыццёвая неўладкаванасць, канечне, асабліва настрою не ўзнімала, але, жывучы ў розных мясцовасцях, Павел Васільевіч паступова захапіўся фальклорам, пачаў занатоўваць найбольш цікавыя яго ўзоры. Асабліва яго зацікавілі балады і песні. Пакрысе набралася некалькі сшыткаў, якія Шэйн у 1856 годзе прапанаваў для знаёмства К. Аксакаву. Той запісы ўхваліў, а праз тры гады яны былі апублікаваны і атрымалі высокую ацэнку вядомага збіральніка рускіх народных казак А. Афанасьева, які сведчыў, што гэта "цудоўныя дапаўненні да зборнікаў Кіршы Данілава і Акадэміі навук".

Гэта надало Шэйну ўпэўненасці, і ён працягваў збіраць фальклор. Хутка сабралася да 600 песень. Несумненна, Павел Васільевіч і надалей працаваў бы толькі ў гэтым кірунку, калі б нечакана не адбыўся яшчэ адзін рэзкі паварот у яго лёсе. У 1865 годзе папячыцель Віленскай навучальнай акругі І. Карнілаў прапанаваў Паўлу Васільевічу пераехаць у Віцебск і стаць выкладчыкам нямецкай мовы ў мясцовай гімназіі.

Нельга сказаць, каб педагагічная дзейнасць дала значны плён. І навучэнцы, і педагогі не вельмі ўспрымалі Шэйна. Не спадабалася ім манера выкладання прадмета, ды і не заўсёды атрымліваўся належны кантакт з аўдыторыяй. Але менавіта знаходжанне ў Віцебску і стала нараджэннем Шэйна як беларускага фальклярыста. На гэта падштурхнуў не толькі пераезд яго ў горад на Дзвіне, а і тое, што Рускае геаграфічнае таварыства вырашыла ўсур'ёз заняцца зборам і запісам фальклору ў розных рэгіёнах царскай Расіі. Дзеля гэтага ў 1867 годзе было створана аддзяленне і ў Вільні, узначаліць жа яго даручылі ўжо згаданаму папячыцелю І. Карнілаву. А паколькі Шэйн пэўны вопыт у гэтым кірунку меў, то і ўзяўся з ахвотай за справу. І вырашыў паставіць яе вельмі шырока. Спачатку звярнуўся па дапамогу да навучэнцаў. Тыя ахвотна адгукнуліся (відаць, ім гэта падабалася куды больш, чым слуханне нудных лекцый) і хутка запісалі прыкладна 150 песень, духоўных вершаў і абрадаў.

Павел Васільевіч, у сваю чаргу, наладзіў сустрэчы са старажыламі Віцебшчыны. Стары салдат Тарас Ліпаў, нянька — нейкая Арына, а таксама Марыя Васільеўна Каткавічоўна з Чашнік аказаліся тым фальклорным кладам, які пашукаць трэба! Яны наспявалі Шэйну ажно 400 песень. Але Шэйн разумеў, што адзіночкі ў гэтым кірунку шмат не зробяць. Да збору фальклору неабходна было прыцягнуць як мага большую колькасць людзей, так званых карэспандэнтаў, якія маглі б рабіць занатоўкі на месцах, а паколькі пераважная большасць з іх была слаба падрыхтавана тэарэтычна і гэтаксама слаба разбіралася ў сутнасці задач, што стаяць перад збіральнікамі, іх неабходна было правільна зарыентаваць. Патрабаваліся спецыяльныя інструкцыі.

Павел Васільевіч распрацаваў фальклорную праграму. Праўда, яна ў многім была неарыгінальнай. За ўзор бралася аналагічная

ЗАМЕЖЖА

**Вікторыя Ляшук — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта — вядомая не толькі ў асяродку навукоўцаў, але і культурнай грамадскасці ўвогуле дзякуючы сваім пастаянным арыгінальным публікацыям у перыядычным друку. Асаблівую ўвагу апошнім часам прыцягнуў цыкл яе артыкулаў па практычнай стылістыцы беларускай мовы (у газеце "Наша слова").**

**Зараз В. Ляшук па праграме абмену спецыялістамі паміж універсітэтамі розных краін знаходзіцца ў творчай камандзіроўцы ў Славакіі і вядзе курс беларускай мовы ў Прэшаўскім універсітэце. У сваім лісце Вікторыя Марленаўна дзеліцца ўражаннямі пра нацыянальна-культурнае жыццё ў маладой Славацкай Рэспубліцы, якая здолела цывілізавана і мірна выдзеліцца з былой Чэхаславакіі, а найперш пра тое, што ўяўляе сабой "Маціца славацкая".**

# "Маціца славацкая": 134 гады змагання

*"...Народ павінен жыць глыбокім духоўным жыццём, не толькі ўласным інтарэсам, але грамадскім энтузіязмам, які можа згаснуць, калі не мець падмуркам гуманістычную ідэалогію, якая б акрэсліла яго гістарычную ролю".*

(Людавіт Рызнер. З гісторыі "Маціцы славацкай").

Кожны народ у сваёй гісторыі ідзе пакручастымі шляхамі выпрабаванняў, яднаючыся агульнымі клопатамі, акрэсліваючы агульныя мэты. Адчуванне грамадскай супольнасці мацнее, калі людзі не абмяжоўваюцца толькі матэрыяльным дастаткам, але дбаюць пра сваю культурную адметнасць. У гэтых памкненнях самавызначыцца, заявіць пра сябе свету ўяўляецца неаспрэчны закон жыцця, які патрабуе дзейнасці, актыўнасці, пастаяннага назапашвання грамадскіх ідэй. І не столькі важная колькасць насельніцтва, як — яго духоўная моц, далечыня і значнасць сяганняў у культурнай прасторы, яго самавызначэння як гістарычнай еднасці, а значыць і яго жыццёвыя сілы.

Сёння часта звяртаюцца (прычым розныя палітычныя групоўкі гэта тлумачаць па-свойму) да прамаўлення ідэі славянства, ля вытокаў якой стаіць славак П. Шафарык. Менавіта ён, адзін з заснавальнікаў славяназнаўства, узрушыў прысутных на Славянскім кангрэсе 1848 г. словамі: "Ці дакажам, што з поўнай падставай можам гаварыць перад іншымі "Я славянін", ці перастанем быць славянамі". З вялікай энергіяй і натхненнем вучоны раней ствараў і сваю фундаментальную працу "Славянскі народапіс" (1842), у якой апісаў моўныя і культурныя асаблівасці кожнага са славянскіх народаў, у тым ліку і беларускага. Як адзначаў прафесар Л. Шакун, "беларуская мова, такім чынам, пачынала ўводзіцца ў практыку агульнаеўрапейскага параўнальна-гістарычнага мовазнаўства". На беларускую ж мову славацкі вучоны звярнуў увагу яшчэ раней — у 1826 г. у "Гісторыі славянскай мовы і літаратуры паводле ўсіх гаворак". Ён жа першым апублікаваў і беларускую "Энеіду навыварат".

Як бачым, сувязі культуры славакаў і беларусаў маюць даўнюю традыцыю. Тым больш цікавым уяўляецца гісторыя і сучаснасць новай маладой самастойнай краіны, назва якой, пастаўленая раней на другое месца, гублялася ў найменні Чэхаславакія, таму часам у навуковай літаратуры таго ж Шафарыка памылкова называюць чэхам.

У гісторыі славакаў і беларусаў можна знайсці шмат аналогій. Напрыклад, у найцяжэйшым шляху іх сучасных літаратурных моў да кадыфікацыі, у патрэбе адстойваць права сваіх моў быць пісьмовымі, даказваць іх старажытнасць і арыгінальнасць. У Славакіі выдадзена пераканаўчая фактамі і дакументальнымі ілюстрацыямі кніга пра родную мову — "Гістарычнае сведчанне пра славацкую мову". Прасякнутая захапленнем і гонарам, яна ўвасабляе нацыянальную годнасць. Упэўнена гучаць уступныя радкі: "Амаль стогадовая палеміка пра славацкую мову завяршылася, завяршылася перамогай праўды: славацкая мова спрадвечна з'яўляецца моваю самабытнай, г.зн. яна не ўзнікла на шкоду нейкай іншай мове. Яе права існавання — сярод славянскіх моў, там яна нарадзілася, жыла і жыве да сённяшняга дня. У сям'і славянскіх моў яна мае блізкіх і далёкіх, але заўжды сваякоў".

Кругабег часу адлічвае ўжо пяты год Славацкай рэспублікі. За гэты час шмат змянілася ў моўнай палітыцы краіны найперш у працы культурных установаў ды інфармацыйных сфер, у дзейнасці грамадскіх арганізацый. Скіруем увагу чытачоў на ўплывовую суполку, што мае зараз больш за 500 мясцовых філіяў, а сёлетняй вясною ўрачыста адчыніла яшчэ адну абласную філію — у Прэшаве.

Гісторыя суполкі пачалася 134 гады таму. Менавіта ў 1863 годзе ўтварылася з цэнтрам у горадзе Мартын "Маціца славацкая", каб падтрымліваць у сваім народзе нацыянальную годнасць, бараніць і развіваць яго мову і культуру, пра што не дбалі ўлады Аўстра-Венгрыі. Па ліку гэтая суполка была трэцяй пасля заснаванай у 1826 г. "Маціцы сербскай", а за ёй "Маціцы чэшскай" — як увасабленне нястрымных памкненняў славянскіх народаў самім вырашаць свой лёс, мець сваю адметную культуру і пісьмовую мову. Па традыцыі ў назве захоўваецца сербскае слова са значэннем "шруб", якое, аднак, суадносіцца з сістэмай паняццяў славацкай мовы, дзе, як і ў беларусаў, ужываецца слова **маці**, а для абазначэння роднай мовы выкарыстоўваецца словазлучэнне.

Як адзначаюць навукоўцы, "Маціца славацкая" мела ідэйную аснову ў народзе, атрымала ў яго асобе і матэрыяльную падтрымку. У статуце суполкі было адзначана, што пры яе роспуску пераемнікам сродкаў і маёмасці з'яўляецца славацкі народ. Сродкаў хапала на выданне газет і часопісаў, на адкрыццё трох нацыянальных гімназіяў. 12 гадоў дзейнасці прынеслі значныя зрухі ў грамадскай свядомасці, што стала небяспечна для афіцыйных уладаў. Суполку забаранілі і па прычыне, што славац-кага народа быццам не існуе, маёмасць нікому не вярталі.

Адраджэнне "Маціцы" звязана з утварэннем у 1918г. Чэшска-Славацкай рэспублікі. Ізноў у многіх гарадах і мястэчках сталі працаваць філіі — адчыняліся нацыянальныя бібліятэкі, утвараліся тэатры. Члены суполкі, "маціцары" (як яны сябе называюць), імкнуліся супрацьстаяць афіцыйнай палітыцы набліжэння славацкай мовы да чэшскай, не прымалі тэзіс пра адзіны народ чэхаў і славакаў, не маглі пагадзіцца з прапанаваным у 1931 г. тэндэнцыйным правапісам. За ўзор былі абраны правапіс, выпрацаваны практыкай функцыянавання мовы ў цэнтры нацыянальна-культурнага руху, горадзе Мартын — "дзеля абароны славацкага ідэнтыфікату, славацкай самавітасці".

Пасля 2-й Сусветнай вайны суполка мела абмежаваныя магчымасці, існавала як бібліятэка, хоць у пэўныя часы (1968—1969) спрабавала ўтвараць мясцовыя філіі.

І нарэшце бяскроўная рэвалюцыя 1989 г. выклікала сапраўднае абнаўленне "Маціцы". Афіцыйна прызнаная ў 1930 годзе, гэта суполка падтрымліваецца дзяржавай. Кіраўніцтва выбіраецца сходам прадстаўнікоў мясцовых філій раз у тры гады, калі складаецца і праграма дзеяння. Зараз кіруе ўплывовай арганізацыяй Йозеф Маркуш.

"Маціца" неаднойчы паказала сваю здольнасць творча дзейнічаць, наяўнасць усвядомленай мэты і пэўнай праграмы, галоўным тэзісам якой ёсць словы: "У народзе, з народам, народу". Старшыня мясцовай суполкі ў Прэшаве, член Цэнтральнай рады пан Ладзіслаў Бартко акрэслівае асновы грамадскай дзейнасці так: несці ў народ выпакутаваную нацыянальную ідэю, гадаваную культурным і творчым духам, разам з народам клапаціцца пра захаванне мовы і культурнай спадчыны. Пан Л. Бартко, вядомы славацкі мовазнавец-дыялектолаг, падкрэслівае важную асаблівасць цяперашняга складу "Маціцы" — яе навуковую моц. Сапраўды: на прафесійным узроўні працуюць пры супольцы гістарычная, мовазнаўчая і педагагічная камісіі, якія даследуюць і практычна вырашаюць надзённыя праблемы. З клопатам пра культуру мовы і моўнай адукацыі выдаецца спецыялізаваная перыёдыка. Напрыклад, сумесна з Акадэміяй навук Славакіі "Маціцай" выпускаецца даволі папулярны часопіс "Культура слова". Моўныя рэкамендацыі пастаянна даюцца па тэлебачанні, у радыёперадачы "Розгалас", моўная рубрыка — адна з вядучых у вялікай газеце "Славацкая рэспубліка". Такая дзейнасць падтрымліваецца дзяржавай, адпаведна прынятаму Закону аб мове, згодна якому славацкая мова з'яўляецца адзінай дзяржаўнай і абслугоўвае усю ўрадавую сферу.

Далейшае паспяховае нацыянальна-грамадскае развіццё Славакіі звязваюць з моладдзю, якая актыўна ўключылася ў спасціжэнне культурных скарбаў свайго народа. З фальклорам гарманічна спалучаецца аўтарская сучасная творчасць і класіка.

Да слова сказаць, тут кожны ведае не адну і не дзве мовы — гэта натуральная цікавасць іншымі, суседнімі ці аддаленымі культурамі.

Славакія сёння не толькі развівае эканоміку, упарта пераадольваючы крызісныя з'явы. Славакі адначасова клапоцяцца пра нацыянальную культуру, дзеля падтрымкі і развіцця якой аб'ядноўваюцца людзі розных веравызнанняў і ўзростаў. Адчуванне глыбокае ўсведамленне адказнасці народа за свой выбар і сваё адметнае жыццё ў людской супольнасці.

**Вікторыя ЛЯШУК, кандыдат філалагічных навук, дацэнт**

*г. Прэшаў, Славакія*

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Суседка, родам з-пад Ма-гілёва, саромеецца сваёй "дзеравенскай" мовы. Не так, можа, мовы, як таго, што не з самога Магілёва. Па-руску гаворыць "інтэлігентна": "кофэ", "сардэлкі", "импотэнты", ну хоць сёння ў рэферэнты. Аднаго не можа пазбавіцца цётка: цвёрдага вымаўлення шыпячых — "жэншчыны", "чэсна", "шчотка". Пасмейваюцца суседкі, а дарэмна мо — патрапіла цётка на скрыжаванне моў.

●

Бліжэйшы зямляк — за сотні міль, астатнія так — суседзі, знаёмыя. Казалі ж на вёсцы: жыві з людзьмі, а памірай дома... Беларуская дыяспара, дзе твой спачын, дзе камяні твае золак росіць?.. — Пагавары са мной, зямляк, пагавары, па-нашаму пагавары, сэрца просіць!..

●

Калі прамяністае сонца запаноўвае на небасхіле, добра відаць, як ахутваюць нас клубы касмічнага пылу. У барацьбе сусветаў, жорсткай і немінучай, толькі адна абаронца ў нас — жанчына з вільготнай анучай.

●

Чорны гумар віртуальнай рэальнасці: "Затрыманы нацмен беларускай нацыянальнасці".

●

Спытала з'едліва дама: — Што гэта за адзінаборства: "шый-це-самі". Суседка пакрыўдзілася: — Не балабоньце, на мне ўсё ад Ле Монці". Другая пакруціла задам: "— Не бачыла такіх на праглядах... Нешта шчабечучы, дамы зніклі ў бліжэйшай краме. Такія цяпер дамы: нічога не шыюць самі.

●

З дзённіка. Скончана ўсё, парыванні, крозы, магія чараўніка. Пачуваю сябе галінкай мімозы дзевятага сакавіка.

●

Хрыста павялі на Галгофу. — Угору пайшоў, — сказалі фарысеі.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4222
Нумар падпісаны ў друк 24.7.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 4245/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12